Над высокім ганкам будынка лабараторый вісеў электрычны ліхтар. На ганку было відна, а прафесару хацелася ісці ў цемру і ён пашоў па дарозе за круг, да якога даставала святло ліхтара.

Ідучы, ён слухае роўны, мяккі гул электрастанцыі і чалавечыя галасы, якія даходзяць з двара каксавальнага заводу.

Міхаіл Палікарпавіч не думае пра тое куды ідзе. Пальцамі левай рукі ён намацвае ў кішэні цяжкі вялікі ключ ад дзвярэй хімічнага габінета. Дзверы габінета замкнёныя. Яшчэ ніхто не ведае аб тым, што гэтай начы яму, урэшце, пасля бясконцых шуканняў, удалося знайсці спосаб прыгатавання пластычных мас з торфу. У габінеце на стале ён пакінуў тое, што стала вынікам даўгіх ягоных шуканняў. Шуканні скончаны і цяпер можна паблукаць вось так, лёгкім.—Прафесар развінае перад сабой пустыя рукі, адчуваючы ў руках незвычайную лёгкасць.

Па абодвы бакі дарогі, кудэй ідзе прафесар, ён угадвае ў цемры за канаўкамі кавалкі тарфяных цаглін. Тарфяны пыл ён угадвае пад нагамі па таму, як мякка ступаюць на дарогу ногі. На прасторах балота стаіць штабялямі здабыты, сухі ўжо торф. Гэта дзесці за цемрай яшчэ не адышоўшай начы. І там-жа вялізарныя запасы яго пад мяккім насцілам імхоў. У прафесара ледзь-ледзь пабальвае галава. Боль цісне на скроні. Час ад часу ён заплюсквае вочы і боль сціхае.

У доме, перад ганкам якога прафесар спыняецца, усе яшчэ спяць, ні воднага аганька ў вокнах. Ён адчыняе дзверы ў калідор і ідзе да чацвертых дзвярэй з правага боку. У дзверы паціху стукае. Раз, потым яшчэ і яшчэ. Адказвае на ціхае пытанне „хто там“, чакае пакуль два разы паварочваецца ў дзвярным замку ключ і ідзе ў адчыненыя дзверы насустрач прыемнай цяплыні і ціхаму жаночаму голасу.

Пасля калідору ў пакоі значна відней і ён добра бачыць жанчыну, якая стаіць у белым сярод пакою. Ён бярэ яе рукі, якія жанчына трымае перад сабою на ўзроўні грудзей і цалуе іх адну, потым другую.

— З добрым ранкам,—кажа ён, пазіраючы ёй у твар, хоча разглядзець яе вочы.—Павіншуйце мяне.

— Няўжо-ж! Міхаіл Палікарпавіч!—Яна вызваліла свае рукі з ягоных, узяла яго за локці рук і пачала трэсці іх.—Няўжо-ж? Міхаіл Палікарпавіч! Хутчэй распранайцеся і расказвайце, вось так.

Сама сцягвае з ягоных плеч паліто, а пакуль ён вешае паліто, ідзе і садзіцца на канапе, падабраўшы пад сябе ногі.

— Значыць толькі што?—пытае яна.—Якая радасць !А як абрадуецца Павел Андрэявіч. І ўсе. Ух! Не ведаю што і зрабіць вам за гэта.

— Пацалуйце мяне,—жартуе ён і кладзе свае рукі ёй на плечы. Рукамі адчувае цяплынь яе цела. Яна, трымаючыся за рукавы ягонага пінжака, падымаецца насустрач яму, становіцца на коленкі і пальцамі рук блукае па ягоных руках.

— Міхаіл Палікарпавіч! Дарагі. Ды вас тысячу раз за гэта пацалаваць можна. І больш...

Цяплынь яе рук ён адчувае ў сябе на шыі. Сваімі рукамі абдымае яе за плечы, туліць яе да сябе, пасля бярэ далонямі рук яе галаву, некалькі раз цалуе яе твар, пасля адхінае яе галаву і, трымаючы яе ў сваіх далонях, пазірае ёй у вочы.

— А гэта, усё такі вельмі добра, Аксана,—кажа ён.—Яшчэ некалькі гадоў і мы будзем рабіць з гэтага цікавейшыя рэчы. І дамы, і складанейшую апаратуру. Вельмі многае. Ад прастога гузіка да складанейшых дэталей для машын. Я вельмі рад.

— А як я рада! А як абрадуюцца ўсе! Міша! Ды ты-ж не ўяўляеш што будзе!—І не заўважыла, што ўпяршыню яго назвала так проста. А яго гэта абрадавала і ўсхвалявала. Ён абдымае яе, хіліць да сябе,

цалуе яе ў твар, шыю і, прыкрытыя лёгкай кашуляй грудзі, бярэ ея на рукі і нясе да ложка.

Пазней Аксана, па дзіцячаму скурчыўшыся пад коўдрай, ляжыць на ложку, на якім сядзіць, трымаючы яе плечы і галаву на сваіх далонях Міхаіл Палікарпавіч.

— Ага, я ледзь не запамятала. Райком урэшце дазволіў Кастусю паехаць адсюль. Ён настойліва прасіў аб гэтым.

— Я рад. Ён таксама значыць, вельмі моцна кахае вас. Гэная ноч у мяне нейкая асаблівая. Так, так. Вось і я хацеў, сказаць. На камбінаце працуе нямецкі інжынер Пецольд. Гэта не Пецольд, гэта сын Пілацеява. Ён учора ўвечары быў у мяне. Я не ведаю што ён хоча зрабіць, але ён вялікі нягоднік.

— Пілацееў?—Аксана здзіўлена падымае галаву.—Сын былога нашага пана?

— Так.

— Аб гэтым трэба зараз-жа сказаць Паўлу Андрэявічу.

— Так, так, трэба сказаць зараз-жа.—І Міхаіл Палікарпавіч кідае погляд на вакно, за якім пачынаецца вясновы ранак.

Мінула яшчэ чатыры гады.

Падабраўшы апошнія пакосы канюшыны, шчыльна ўтаптаўшы канюшыну ў высокія драбінкі калёс, Тарэнта Шкробат ад'язджае з поля апошнім.

Канюшына маладая і сакавітая. Пакуль падбіраў Тарэнта канюшыну і клаў ее ў драбінкі калёс, а пасля пакуль чакаў яшчэ Марылю з сынам, коні елі канюшыну і цяпер ахвотна ідуць па дарозе, падымаючы капытамі пыл.

Вечарэе. На зямлю паспела легчы раса і пыл, невысока ўзняўшыся ападае.

Абапал дарогі калгасная ярына. У самай сіле авёс і ў самым цвяту лён.

Тарэнта ідзе побач з коньмі. Ён ідзе шырокімі, цяжкімі крокамі, трымаючы руку на конскай шыі. Слухае, як тарахцяць на жалезных восях лёгкія калёсныя каткі.

На калёсах, на канюшыне, звесіўшы на левы бок ногі, сядзіць Тарэнтава дачка Марыля. Яна сядзіць, нахінуўшыся на правы бок, абапёршыся рукой на шчыльна ўтаптаную канюшыну. Пад яе рукой, жыватом на канюшыне, падпёршы прыўзнятую ўгору галаву абодвума рукамі, ляжыць яе сын. У сына чорныя сукрыстыя валасы. Сын пазірае ў прастору перад сабою, адкуль, даўгім радам цмяных яшчэ агнёў мігае поезд. За поездам сцелецца густы грукат жалеза і ў ім глухнуць працяжныя паравозныя ўскрыкі.

Калі поезд адыходзіць, Марылін сын пазірае на асветленыя вокны электрастанцыі і заводаў. Плямкамі цьмянага святла свецяцца вокны і хлапчук спрабуе пералічыць колькі іх. Ён рытмічна гушкае над сабою ўзнятыя ўгору босыя ногі. Далёкія цьмяныя плямкі вакон ён лічыць, выставіўшы наперад руку з працягнутым у прастору пальцам і з тым, як ён лічыць, будынкі заводаў і электрастанцыі шчыльней абгортваюцца змрокамі і плямкі вокан святлеюць, вырастаючы ў памерах.

Над лагчынамі ў полі ўстае туман. Туман насцілаецца на ўсё большы прастор і ўсё гусцей з тым, як выходзіць з-за лесу, за возерам, месяцаў круг. Туман засцілае далячынь і ў тумане разам успыхваюць цэлай паскай ліхтары на дарозе, якая вядзе ад заводаў да Яснаўскага калгасу і далей, абмінаючы яго, да тарфяной станцыі і торфзаводу. Паска светлых зыркіх кропак перарываецца сцяной густой тапалёвай

прысады, якая ідзе ад гасцінцу да былога панскага двара, а потым цягнецца далей аж за рэчку, адкуль мігаюць агнямі вокан дамы рабочых камбіната. Там город. Ён на тым баку рэчкі, а бліжэй паміж рэчкай і тапалёвай прысадай поле, ахутанае туманам і густымі змрокамі.

— Там жыў твой дзед,—гаворыць Марыля да сына, паказваючы рукою ў поле паміж рэчкай і тапалёвай прысадай. І хлапчук, і сам Тарэнта павяртаюць галовы ўлева.

— Там?—пытае здзіўлена хлапчук.

— Ага, там.

Хлапчук маўчыць нейкі час, пазіраючы ў цёмную глухую далячынь, а пасля кажа:

— Там страшна. Я там адзін ніколі не жыў-бы. А ты, дзед, не баяўся жыць там?

— Я?—Тарэнта здымае з конскай шыі руку і прыцішае крок, каб ісці побач з калёсамі. Калі калёсы наганяюць яго, хлапчук бачыць, як прыўзнімаецца правы Тарэнтаў вус, нараджаючы хітраватую ўсмешку.— Я ці баяўся?—перапытвае ён.—Гэта, як сказаць. Можа і баяўся. А ці хутка-ж Ёська прыедзе?—пытае ён, звяртаючыся да дачкі,—хоць бы зірнуў што ў нас тут робіцца. Нябось, і не пазнае, падумае, што не туды патрапіў...

За гэтым паганяе коняй і, адвязаўшы ад дышла лейцы, ускаквае на воз. Ен стаіць коленкамі на канюшыне за плячыма ў Марылі. Разпоразу злёгку шморгае лейцамі і кідае хутчэй у прастору, чым коням, сваё працяглае „но-о“. Коні бягуць дружнай рыссю. Насустрач, у твар Тарэнту дзме з поля мяккі, насычаны росамі вецер. І насустрач з-за ветру і з-за туману, з лагчыны, што за вялікай дарогай і за заводамі, густым россыпам зыркіх зор выступаюць агні, ад якіх адыходзіць палахлівымі зданямі шызы балотны туман.

*Канец*

Менск—Галіцына
1933-1934

ЯКУБ КОЛАС

# НА ШЛЯХАХ ВОЛІ

## XXII

## ПАСЛЯ МІТЫНГУ

Ад паўночных пушчаў дзікіх
Да стэпаў, залітых сонцам,
Ад раўнін да гор
Ходзіць гоман стоязыкі,
Рознастайны, многалікі,
Што дня новы і бясконцы,
Як і сам прастор;
Ходзіць тысячамі сцежак,
Дзе ступаюць толькі ногі
Ї ёсць хто жывы...
Легла цемра на ўзмежак,
Першы снег сець-бель мярэжыць,
Сцеле шаты на дарогі,
А іх бег крывы!
Разгарнуў бяздольны плечы,
Кінуў лозунг: „Меч—палацам,
А халупам мір!
Навальніцай грыміць веча—
Паўставай, голь чалавечча!
Разнявольвай сваю працу,
Разнімайся ў шыр"!..
Што-ж то будзе? Што паўстане
З гэтай буры-трасяніны?
Дзе ёй край-мяжа?
Ходзіць гоман, бы ў тумане
Па даліне, на кургане,
Прагна ловіць сэнс навіны,
Што засціць імжа.
На рубеж, як грань крышталю,
Узышлі дні ў восень тую,
Каб павесці рэй.
Ды не ўсім-жа сонцам з'ялі
Большэвіцкіх скуткаў далі—
Суліць многім ноч пустую
Развой—ход падзей.
Дні прышлі ў грымотах бою,

У віхрах крывавай буры
Нёс Кастрычнік іх.
Раскалоўся свет на двое.
Няма згоды і спакою...
Гоман светлы і пануры,
Злы і добры міг.

На нейкі час у гарнізоне
Аб Шкундзе чутак не было.
Жыццё-ж па своему цякло,
Плыло нястрыманым разгонам,
Ішлі няпісаным законам,
Старым законнікам на зло.
Дарэмна думалі кадэты,
На мітынг зладзіўшы налёт,—
Што Шкунду вывелі ў расход—
Жывы астаўся злыдзень гэты,
Хоць скончыў мітынг лазарэтам
Папаўшы ў люты пераплёт.
Туды занеслі чуць жывога
Сябры яго і землякі.
Прамылі раны, сінякі,
Спавілі марляй, як малога
Ды наказалі яму строга—
Ачуньвай, Шкунда—пусцякі!—
Ці чуў ці не ён іх наказы,
А толькі так дзянькі праз два
Шалопаць стала галава—
Памчалі здорава, заразы,
І адплацілі за ўсе разы—
Душа чуць-чуць у ім жыва.
І не сышла яшчэ пухліна,
На вочы звесіла масток,
І вуха зломан быў храсток,—
Ліхая выпала часіна!
І ён з напружанаю мінай
Сам сябе слухае здалёк.
Паварушыў нагамі—цэлы!
Вось толькі левая рука
Нібы сарвана з плячука,
І пальцы згорнуты знямела,
Ды ў тупым болю ные цела,
І прага мучыць бедака.
Спадае з памяці заслона,
І сходзіць засцень забыцця—
Хвіліна цёмная жыцця,
Праява жорсткага закона,
І ён глядзіць вакол здзіўлёна,
Пытае сам сябе: „Дзе я?"
І раптам, нібы бліскавіца,
Мільгнула і сагнала мрок.
Прад ім плыве людскі паток,
На сонцы макамі іскрыцца
Плакатаў, сцягаў баграніца,
А побач нелюдзі клубок.

Ĭ ўвесь малюнак часць за часцю,
Як сон забыты, цяжкі сон
Паўстаў прад ім з усіх старон.
Ён адчувае шолах шчасця.
Бо мог-жа там на век упасці
Ĭ кончыць бурны свой разгон.
Сайці-ж цяпер з арэны бою,
Не дачакаўшыся канца,
Не ведаць выніку-вянца,
Падзей далейшага развою
Не хоча з доляю такою
Мірыцца мысль яго, байца.
Экскурс ён робіць невялічкі
У галіну праблем жыцця,
Людскога лёсу, небыцця.
Чытаць жа гэтыя кантычкі,
Сказаць, у Шкунды няма звычкі,
А смерць—паганая стацця,
Другія мыслі і настроі.
Жывы, і ён шчасліў і рад.
Не час цяпер глядзець назад
Ĭ думаць думкі пра старое.
Зірнуў на дзверы—ідуць трое:
Сястра, рабочы і салдат.
Сястра не дужа маладая,
Ды ўсё-ж яшчэ яна ў красе,
Ідзе, бы міласці нясе,
Хада, пастава,—ну святая,
Сама княгіня выглядае,
Перад якой маўчаць ўсе.

Сястра

Цішэй—не патрывожце сну,
Ступайце асцярожна,
У голас гаварыць не можна:
Пад раніцу ён толькі і заснуў.
Падкрэпіць яго сон,
Ĭ лепш адчуе сябе ён.

Шкунда

Правільна, сястрыца,
А я бадай што і здароў,
Вось толькі мне вадзіцы—
Я вып'ю за маіх сяброў.

Сястра

Глядзіце—хват які!
За гэта маладзец!

Салдат

На тое-ж і баец,
А немачы ваяку не з рукі.

Рабочы

Наш брат,
Рабочы і салдат

Жывучы, як каты—
Ніякая не возьме пляга!...
Ну, здароў, міляга!
Як крэпак ты?

Шкунда

Як бачыш, брат, жыву,
Хоць і з пабітай абразінай.

Салдат

Парадую братву
Я добраю навінай!
А правакатарам, каторыя кадэты,
Эсэрам і афіцэрышкам
Пячонкі выгрызу за гэта
І выцягну з іх кішкі!

Сястра

О, госпадзі, якая злоба!..
Прычым-жа афіцэры?..
На ўсіх нашла хвароба
І сталі ўсе, як зверы.

Салдат

Шаноўная сястра!
На ўсё свой час і мера:
Прышла цяпер пара
Як раз прыцiснуць звера
Варожага нам класу
І выбіць яму зубы.

Сястра

Свабода не да часу
І воля гэта—згуба!

Салдат

Як для каго,
А нам яна—шанго,
Ядры яго качан!
Загонім мы буржуя пад тапчан!

Сястра

О, жудасцы! Што за словы!
І што за выражэнні!
Не забывайце, дзе і хто вы
І з кім вы ў дачыненні!

Салдат

Быць можа яно так,
Крыху і падкачалі,
Да мы ж гімназій не канчалі
Ї рэжам напрасцяк.

Шкунда

А што чуваць у вас
Ї як наконт работы?

Рабочы

Крапчаем з часу ў час,
Ёсць цалкам нашы роты.
Не дрэмля наш народ:
Ці мітынгі ці сход
Праводзяць абаронцы,—
Наш брат—ён тут як тут
І выкрые іх чмут
Ды вынесе на сонца.
Стараецца кадэт,
Пацее меншавік.
Наконт вайны, пабед,
А вынік—адзін пшык.

Салдат

Пазнаў салдат цану
Іх словам, заклікам буржуя.
Вайна? Мы за вайну
І знаем за якую!

Сястра

Так, так! На фронце цішыня,
Пазіцыі здаюць без бою,
А тут пашла ўжо калатня—
Пабраліся ў чубкі паміж сабою.
І голавы не галавы—гнілушкі.
Эх, вы! Чые-ж вы гэта служкі?

Салдат

А вам хацелася-б, сястра,
Каб мы, як стада бараноў,
Пашлі ў атаку за паноў,
За Русь святую, за цара
Пад крыкі громкія—„Ура!"
Каб гэта шэрая скацінка,
„Хрысталюбівы" наш салдат
На смерць ішоў, як на парад,
Ды зноў вярнулася-б дубінка?
Каб гандляры, паны, папы
І поскудзь розная, клапы,
Ваенны, штацкі пісталет
Усселі зноў на наш хрыбет?
Не, дзякуем: такіх гаспод
Пара пакласці ўжо пад спод.
На ліха нам гэта дзярмо?
І самі рады мы дамо—
Старызну прэч! На злом,
Ці хоча ці не хоча,
І свой парадак завядзём—
Мужычкі і рабочы.

Сястра

Увабражаю, які то будзе рай!

Салдат

А думаеш, не будзе? Пачакай!
Яшчэ папомняць нас зладзюгі,
Былыя ўладары!
Мы самі сабе слугі
І гаспадары!

Сястра

Падумаеш, героі вы якія!
А можа, служачы сабе самім,
І ворагам вы служыце ліхім
Ды топіце Расію?

Шкунда

Тапельніцы ўжо нечага тапіць,
І труп яе на нітачцы ліпіць.
Яго нам і не шкода:
Расія новая павінна быць
Краінаю працоўнага народа.
А палітычны лад яе—
Дыктатура пролетарыята
З советамі абраных дэпутатаў
На чале.

Сястра

Паслухаць, дык усе
Гарою за Расію,
На справе-ж па крысе
Згінаюць яе шыю.
А партыі і іх праграмкі—
Гандлярства дробнай крамкі.
Таргуюцца, разбэшчваюць народ,
Гародзяць яму плот
Ды суляць горы залатыя—
Ілюзіі нязбыўныя, пустыя.
А вораг цешыцца з таго—
Працуюць на яго
Нязваныя Мэсіі
Нямецкія подкідкі,
А ў беднае Расіі
Трашчыць усё да ніткі.
Ды што? Каму абходзіць
Прадсмертны яе крык?
І хто найболей шкодзіць,
Дык гэта—большэвік.

Шкунда

Ну, кіньце—небыліца,
Інертнасць глупай звычкі,
Каб час нам невялічкі,
Зрабілі-б з вас, сястрыца,
Мы прыклад большэвічкі.

Сястра аж вышла з роўнавагі:
Такая нагласць—„вахлакі“

Пасмелі жарт сказаць такі!
Няма ў „расцугленай“ сярмягі
Да ордэнаў яе павагі—
Ей, ей пайсці ў большэвікі!
Яна—удава, яна—дваранка,
А муж штабны быў афіцэр,
Георгіеўскі кавалер,
Сама з шляхетных выхаванка,
Для тытулованых каханка,
Шляхетных поўная манер,

Сястра

Не месца жартам тут,
І я іх абмінаю,
А гэты слоўны блуд
Я вам забараняю!
Ты хворы і пабіты—
Прымі нармальны від...
Канчайце ваш візіт
І квіта!

На гэты раз ён паслухмяны.
Прабыўшы тыдзень, на другі
Пакінуў тыя берагі,
Дзе ён праз выпадак паганы
Ад спраў жывых быў адарваны
І марнаваў час дарагі,
Той час, што кожным сваім крокам
У віры зблутаных дарог
Ужо складаў свой эпілог
Мінулым дням і іх пракрокам,
Каб іншым сцежкам і патокам
Азначыць круг свой і разлог.
Другія моманты, задачы,
Другую тактыку, падход
Рашае большэвіцкі злёт.
Каб дробязь розную прадбачыць
І папярэднія няўдачы
На самы строгі ўзяць учот.

Шкунда

Таварышы! Прыходзіць час,
Калі самкнёнай грамадой
Павінны рушыцца мы ў бой
За лёс працоўных мас.
Задача наша—узяць уладу,
А сцяг і лозунгі—Советы,
І мы даб'емся свае мэты—
На дапамогу Петраграду!

(*Працяг будзе*).

15/XI—34 г.

Я. СКРЫГАН

# АПАВЯДАННІ

## І. У ТЭАТРЫ

Я сядзеў у тэатры і глядзеў „Бацькаўшчыну". На папярэдніх паказах я не быў, бо п'еса яшчэ штораз і аўтарам і рэжысёрам папраўлялася. Я хацеў паглядзець ужо ўдасканалены варыянт, каб асталося поўнае і цэлае ўражанне.

Ішла сцэна, дзе Гушка прадаваў сваю маёмасць, каб знайсці грошай на кавалак зямлі. Ён прынёс на рынак усе свае лахманы, да апошняга ачысціўшы хату. Гандляры заплацілі, але грошай было мала. Не хапала чатырох рублёў. Гушка скінуў палітон—не хапала. Гушка сарваў з сябе шапку, кінуў у агульную кучу рыззя і стаяў—голы, як кол—у кашулі, у белых майтках і без шапкі. Не было чаго больш прадаць чалавеку, а грошай яшчэ не ставала.

І от Гушка зрабіў нечаканы па сваёй жахлівасці жэст. Ён успомніў, што на ім яшчэ асталіся боты. Ён ухапіўся за гэтую думку, як за адзіны ратунак і, радасна ўскінуўшы рукі, адною абапёрся на нечае плячо, а другою, нагнуўшыся, пачаў скідаць боты з ног.

Гэты жэст страсянуў мяне. У ім бачыў я жахлівую праўду недалёкага мінулага, дзе абяздолены селянін усё да ніткі прадае за адну надзею стаць чалавекам.

І от у гэты час, калі спазма перахапіла маё дыханне і на вочы набегла горкая макрата слязы,—дзве мае суседкі не ўтрывалі і разрагаталіся. На фоне гэтае сцэны іхны рогат празвінеў дзікім святататствам. Здавалася, што гэта падышлі і плюнулі ў твар Гушку, каторы быў цяпер распяты на крыжы соцыяльнае роспачы.

У антракце я ўбачыў сваіх суседак у файе. Яны спацыравалі, адна адну трымаючы за рукі, пра нешта шапталіся і былі ў тэатральным настроі. На іхных шыях і аголеных плячах паблісквалі каралі. Зіхацеў, пераліваўся і па сцёгнах абцекаў дадолу чорны шоўк.

Я падышоў і запытаўся:

— Чаго вы смяяліся на паказе?

— Ён вельмі добра іграе, гэты Гушка. У яго быў такі прыгожы і бесклапотны жэст,—весела адказалі мае суседкі і пайшлі, холадна разліваючы бляск чорнага шоўку.

## ІІ. СЛЕПАТА

Аднойчы я адпачываў на Каўказе, у Хосце. За адным сталом са мною абедала жанчына Ласка. Я ведаў, што яна акторка і таленавітая спявачка.

Яна заўсёды прыходзіла крыху пазней за другіх, ветла віталася і садзілася на край стала. Яна трымалася сціпла і ціха, гаварыла скупа,

але цёпла і разумна, заўсёды пакідаючы пасля сябе прыемнае і багатае адчуванне. У яе была нейкая адмысловая жаночая цеплата і прывабнасць, каторая не кідаецца ў вочы, а пазнаецца разам з самім чалавекам.

Мы часта хадзілі з ёю ў горы, лазячы па пяшчорах ды скалах. Што раніцы мы сустракаліся на моры; я прыходзіў з усходам сонца і заўсёды заставаў яе ўжо там. Перад тым, як акунуцца ў ваду, яна займалася гімнастыкаю. Мы здалёк віталіся, махаючы над галавою рукамі. Мы купаліся ў ранішняй морскай здаровай вадзе і варочаліся дахаты, калі нашы калегі яшчэ толькі ўставалі з пасцеляў. На снеданні я зноў сустракаўся з Ласкаю і на маё прывітанне яна ўсміхалася сваімі да слепкасці белымі зубамі. Калі за сталом яе крэсла доўга аставалася пустым,—я нудзіўся і чакаў яе.

Аднойчы з калегам мы ляжалі на гарачым беразе, жмурыліся ад сонца і глядзелі на мора, разгадваючы па гарызонце далёкі дымок параходу. Калега, без ніякае прычыны, загаварыў:

— А слаўная жанчына твая суседка.

— Ласка?—запытаўся я.

— Але. Толькі шкода, што ў яе гэтак з вокам. Ты бачыў, што ёй самой нялоўка і яна стараецца не глядзець у твар, калі гаворыць?

— А што ў яе з вокам?

— Яно-ж не бачыць. Хіба ты не заўважыў, што яно зацягнута туманком?

— Гэта не ў Ласкі,—рэзка не згадзіўся я.—Ты можа думаеш пра каго другога.

— Як! Хіба ты дасюль і не ведаў?—зарагатаў мой калега і пачаў пакепваць з мае няўважлівасці.

Сустрэўшыся з Ласкаю, я знарок прыглядзеўся і адразу заўважыў тое, чаго не бачыў дасюль. Так, левае вока ў яе было з туманком і шмат вузей за другое. Як-жа гэта я дасюль не ведаў пра гэта?— дзівіўся я.

І пасля, калі-б я не сустракаўся з Ласкаю, я перш за ўсё бачыў яе пакалечанае вока.

## III. РАЗВІТАННЕ

У вагоне са мною ехала дзяўчына, з якою я пазнаёміўся на Палессі. У мяне была туды камандыроўка. Я жыў там, працаваў, вывучаючы патрбныя аб'екты для мае работы.

У Сабіны было многа гарэзнасці і юрлівае маладосці. Вечарамі яна звонка ўрывалася да мяне, і тады ўжо работа спынялася. Яна прыносіла з сабою неўгамонную радасць дзяцінства. Мы ішлі тады ў поле, у мядовыя пахі лугоў і сонца. Мы дурэлі, як дзеці. Мы не ведалі, што-б нам такое прыдумаць і вышуквалі мясцовую старажытнасць. Мы аглядалі старое рэчышча Прыпяці, мамантавы раскопкі і стаянкі першабытных людзей. Пасля мы купаліся, а вечарамі заблужвалі ў лес і раскладалі агні.

Сабіна цяпер ехала разам са мною. Была ноч, і ў вагоне была душна. Я выйшаў на тамбур і стаяў каля адчыненага акна. Я локцямі ўсперся на раму і глядзеў у змрок. У твар мне біў свежы, халодны вецер. Прыйшла і Сабіна. Яна палажыла на плячо маё сваю тонкую загарэлую руку. Яна прыхілілася да мяне, і мы абодва глядзелі ў ноч, удыхаючы свежую, астуджаную яе цяплынь. Вецер нёсся насустрач, біўся ў нашы твары і калаціў танюсенькі шоўк сабінінае кашулі ў яе на грудзях. Праходзілі людзі, іншы раз яны мелькам глядзелі на нас,

а Сабіна не здымала свае рукі, і гэта было добра. Я думаў, што яны мабыць зайздросцяць нам і ў глыбіні сваіх адчуванняў быў рад, бо я таксама заўсёды зайздрошчу, калі бачу чужыя харошыя дачыненні.

На наступнай станцыі мы павінны былі развітацца. Я думаў пра гэтае развітанне і пра тое, як цяжка разрываць прыгажосць чалавечае цяплыні.

Сабіна мабыць адчула мае думкі—яна рванулася да акна, уся нападаючы тварам у вецер, і стала так блізка, што я чуў яе цела.

— Я паеду да цябе. З табою. Хочаш?

І раптам у нутры маім нешта тарганулася і балюча заныла. Навошта было гаварыць гэта? Мне стала да крыўды шкода нечага згубленага. І мне здалося цяпер, што рука сабініна занадта цяжка налягла на мяне, што яна непатрэбная і чужая.

## IV. НА ВЫСТАЎЦЫ

Часта я сустракаў чалавека, каторага, невядома чаму, паважаў. Я не мог-бы растлумачыць, чым падкупаў мяне гэты чалавек, але мне падабалася і яго постаць, і хада, і нават тое, як ён апранаўся. Ён быў мастак. Я ведаў яго толькі здалёк, нават ніколі не чуў яго голасу і ўсё-ж у маім уяўленні ён вырысоўваўся да таго пуката, што здавалася быў маім даўнім знаёмым.

Гэта быў гадоў 28 мужчына, невысокі, можа нават крыху таўставаты, але шчытны і стройны. На чыста выбрытай яго галаве ляжаў роўны, спакойны загар. Вочы некуды вечна глядзелі паверх галоў; яны то ажыўляліся, то патухалі, жывучы нейкаю прагавітаю думкаю. На твары-ж ляжала алімпійская спакойнасць. Я ніколі не бачыў, каб ён смяяўся. Я сустракаў яго кожны раз мелькам, калі ён праходзіў, і ў зроку заўсёды аставаўся яго партфель, кароткая, моцная шыя, круглыя плечы і цвёрды шаг. Хадзіў ён адзеты надзвычай проста: касаваротка, цесна падпяразаная раменным поясом, простыя, роўныя штаны і боты. Гэта чамусьці пасавала да ўсяе яго фігуры і стварала ўражанне сур'ёзнасці, важкасці і нейкае, я сказаў бы, сілы. Я паважаў яго, мабыць, за гэтую сілу. Я пераносіў яе і на яго творчасць. Якія мабыць, глыбокія і змястоўныя ў яго рэчы. Як у Мікеля Анжэло ці Леанардо да Вінчы. Эпічныя, размашыстыя. Ён і сам от не падобен на другіх. Яму нават не патрэбен, як іншаму мешчаніну, вонкавы бляск, калі ён напоўнен прыгажосцю духоўнага багацця. Якая вялікая воля і ўпартасць ва ўсёй яго постаці,—думаў я. Я бачыў у ім тып чалавека, у якім спалучаецца свая вузкая прафесія з размахам палітычнага дзеяча. Тайком я зайздросціў яму.

Да двацццацігоддзя імперыялістычнае вайны ў Доме мастака была наладжана выстаўка. Зала была ўстаўлена скульптурамі і карцінамі, у якіх адлюстроўваліся крывавыя дарогі вайны. Былі рэчы, што патрэсалі сілаю жахаў, чалавечых ахвяр, калецтва, смерці. З групамі наведнікаў хадзіў тлумач. Перад намі стаяў грукат гармат, ляжалі чалавечыя трупы, піраміды галоў, рук, ног—загінутых чалавечых жыццяў. Я бачыў перадсмяротныя мукі салдата, і яго аголеныя зубы—нема застыўшыя—здавалася крычалі, толькі цяпер зразумеўшы жахлівую праўду свае смерці. Я бачыў гісторыю самае жудаснае вайны цывілізованага дзікунства, каторае завецца імперыялізмам.

У кутку аднае сцяны, унізе, віселі карціны, накіданыя на аркушах жаўтаватае паперы. Тлумач прайшоў міма іх, мелькам кінуўшы поглядам і сказаўшы пару слоў, у якіх была ні то зняважлівасць, ні то крыўда за іх прысутнасць. Калі прайшла група наведнікаў, я суняўся

каля іх. Пад карцінамі стаяў подпіс майго мастака. Я пільна пачаў узірацца ў іх. Якое-ж было маё расчараванне, калі я ўбачыў неахайныя плямы, лініі, мазкі, якія павінны былі, відаць, паказваць людзей, а ў іх—прадстаўнікоў класаў—буржуазію і пролетарыят. На адной з карцін ляжаў чорны затушованы фон, і на гэтым фоне напісаны брацкія магілы, крыжы, паўплятаныя калючым дротам. На двух крыжах надзеты нямецкая каска і руская салдацкая шапка. Шапкі пахілены адна да аднае і павінны былі выражаць фігуры, што між сабою вітаюцца. Паводле подпісу гэта была „Разгадка вайны“: паказвалася адзіная сутнасць рускага і нямецкага імперыялізма, і гэты імперыялізм паказваўся ў вобразе салдат. Тых салдат, каторыя між сабою браталіся і рабілі рэволюцыю. На работах ляжаў след неахайнасці і беспаможнасці. Мне стала брыдка ад гэтых карцін. Нечага стала да болю шкада—можа ашуканага свайго паважання.

— Якое ідэйнае ўбоства,—заўважыў нехта за плячыма ў мяне, дапаўняючы маю думку.

Я пайшоў з выстаўкі, нясучы ў сабе прыкрасць. І калі аднойчы зноў сустрэў чалавека—я доўга глядзеў яму ўслед. І ва ўсім: і ў гэтым брытым чэрапе, і ў спакойнай хадзе, і ў важкай фігуры я ўбачыў убогасць, самаздаволенае мяшчанства і пустату.

## V. БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

### 1

На зімовыя вакацыі школьнікам задалі напісаць тэму—як удзельнічалі ў Кастрычніцкай рэволюцыі вашы бацькі.

Колькавага бацькі не было дома. Яго чакалі з дня на дзень з камандыроўкі, але ўрэшце палучылі тэлеграму, што ў раёне ён астанецца яшчэ тыдняў на пару. Колька быў не рад—ён баяўся, што бацька не вернецца да канца вакацый і нічога не раскажа. А яму хацелася скарэй напісаць, і ён загадзя ўжо бачыў—як гэта будзе цікава.

Ён да таго захапіўся гэтаю тэмаю, што часта начамі не мог заснуць. Ён бачыў перад сабою вайну, салдат, гарматныя стрэлы, коннікаў з голымі шаблямі,—і яны нясуцца з крыкам—у дыме, у страляніне, праганяючы буржуяў. Усё гэта вельмі шпарка праносілася ў галаве, і ва ўсім гэтым мелькам паказваўся твар бацькі. Ён то нешта крычаў нема разяўленым ротам і махаў рукамі, то камандаваў, то нёсся наперадзе натаўпу, то абстрэльваў бронецягнік, то вёў палоннага генерала. Колькава ўвабражэнне так разгаралася, што ў галаве пачынала шумець. Ён уяўляў, што ён ужо чытае гэта ў школе, і ўсе школьнікі слухаюць, затаіўшы дыханне. Пасля яны ўзбуджана глядзяць на яго. „От які адважны бацька ў Колькі“—перашэптваюцца яны. Колька рад. Яму хочацца з усімі гаварыць і яшчэ больш расказваць.

### 2

Неўзабаве трэба было ісці ў школу, а бацька не прыязджаў. Ён папрасіў, каб яму пра ўсё расказала мама. Мама расказала, таксама ўпамінаючы гарматы і неймаверныя страхі. Яна гаварыла пра Калчака, Балаховіча, пра бандытаў і большэвікоў, як ездзілі ў цяплушках і як не было чаго есці. Колька слухаў, затаіўшы дух, але з маміных апавяданняў ён мала разумеў—дзе-ж тут што рабіў бацька.

— І татка ўсюды там быў?—запытаўся ён.

— Ну, а як-жа. Твайму татку цяжка было, яго раз траха не застрэлілі.
— Мамка, я ён быў ранены?—прагавіта запытаўся Колька.
— Не, яму пашанцавала.
— А я сніў, як ён быў на вайне. У яго стралялі, а ён бег наперадзе ўсіх і таксама страляў, і ўзяў у палон генерала, і ён быў герой.
— Ну але. Ты так і напішы.
— А гэта будзе праўда?
— А чаму-ж няпраўда. Ён-жа ледзь не памёр, калі ўцякаў ад белапалякаў і захварэў у лесе.

3

Пасля вакацый Колька ішоў у школу. Па дарозе яму сустрэлася Надзька, сяброўка яго сястры—Веры. Цяпер Вера была ў Ленінградзе, і Надзька даўно не заходзіла да іх. Яны з ахвотаю разгаварыліся. Колька пахваліўся сваім творам. Гэтакія творы сёння ў школе будуць чытаць усе яго сябрукі.
— А гэта няпраўда,—выслухаўшы, сказала Надзька.
— Што няпраўда?
— Што ты гэтак напісаў пра свайго бацьку. Ён такім не быў.
— Яшчэ што выдумай. Мне мамка расказала.
— Твая мамка схлусіла.
— Як?
— А так. І не герой ён быў, а дэзертыр.
— Які—перапытаў, ужо здзіўлена, Колька.
Надзька расказала ўсё, што ведала. Бацька не быў рэволюцыянерам. Ён хаваўся ад большэвікоў, уцякаў з балахоўцамі, і толькі пасля ўжо цішком вярнуўся і пачаў памаленьку абвыкацца.
— Няпраўда, гэта ты хлусіш!—ледзь не заплакаў ад крыўды Колька.
— Мой татка расказваў.
— Яго ледзь не застрэлілі, ён хаваўся ад белапалякаў у лесе!—апраўдваўся Колька.
— Не ад палякаў, а ад большэвікоў, кажу, і большэвікі яго ледзь не расстралялі за гэта,—непадавалася Надзька.
— Гэта ты ўпраўду?—яшчэ ўсё не верыў Колька.
— Упраўду.

4

У школе было шумна. За вакацыі ў кожнага панабіралася навін, і хацелася іх расказаць. Кольку было нявесела. Ён думаў—як-жа ён будзе чытаць хлусню?
На парце паселі ўсе яго сябрукі. Яшчэ і цяпер не пераставалі шаптацца. Урэшце настаўнік выклікаў Лёньку. Пачалі чытаць пасля і другія. Колька ўважліва слухаў. Ва ўсіх былі бацькі то партызаны, то старыя большэвікі, то маракі, то чэкісты. Усе нечым вызначаліся—хто браў Перакоп, хто даваў першы стрэл па Зімнім з „Авроры“, хто быў недзе ў сібірскай тайзе. Шмат у каго былі ўзнагароджаным ордэнам Чырвонага сцягу. Мішкаў бацька меў ажно два ордэны—адзін за тое, што біўся разам з Чапаевым, а другі за пабудову завода. Калі кончыў Мішка чытаць—яму запляскалі ў ладкі. Мішка сеў на парту; увесь клас глядзеў на яго, нібы героем быў не яго бацька, а ён сам.
Кольку было сорамна і балюча. Ён зайздросціў сваім сябрукам. У іх ёсць чым ганарыцца і радавацца. А яму няма чым пахваліцца.

Як паглядзяць усе на гэта? Што яны скажуць? Яны перастануць нават дружыць з ім. Бацька дэзертыр, скажуць, хаваўся ад рэволюцыі. І нашто ў яго такі бацька? Чаму не такі, як у іншых? Толькі брыдка яму цяпер. Няхай-бы лепш не было яго, такога. Няхай-бы ён нарадзіўся дзе ў каго чужога.

Калі выклікалі Кольку, ён доўга мяў сшытак у руках. Ён не мог пачаць чытаць і не ведаў, як выгаварыць першае слова. Яму хацелася плакаць.

— Ну, Колька, чытай,—падышоў настаўнік і цёпла пагладзіў па галаве.

Школьнікі глядзелі на Кольку, чакаючы. Тады Колька не вытрываў.

— У мяне няма бацькі. Я не хачу мець такога!—з крыўдаю выкрыкнуў ён і, упаўшы галавою на кулачкі, горна заплакаў.

Менск,
1933-1934 г.

АЛЕКСАНДР МІРОНАЎ

(Чэлюскінец)

# ВЯЛІКАЯ ЛЮБОЎ

Востры, як гарпун, у пакой шыбануў жоўты сонечны прамень. Ён уважліва абмацаў стол, паласнуў па дзвярах, бязлітасна разануў па раме партрэта і, зняможаны, упаў на ложак.

Замёр.

Потым, асмялеўшы, папоўз па коўдры, злёгку даткнуўся да жоўтай рукі. Прамень сумаваў: пакой даўно ўжо быў яму знаёмы, ён дзесяткі разоў абмацаў яго за гэтыя яркія, доўгія майскія дні, веснавыя дні халоднай Чукоткі.

І цяпер, не знайшоўшы нічога новага, прамень рынуўся ў бок, стараючыся выскачыць праз нізкае замызганае вакно. Спатыкнуўшыся, як п'яны, аб ложак, ён балюча ўдарыў чалавеку ў твар і, напалоханы сваёй дзёрзкасцю, прыціх: чакаў.

Але чалавек спаў. Твар яго быў жоўты, як сонца ў тумане, шчокі і нос бледна мігцелі дробнай расою пота. Чорныя валасы спадалі на лоб, напаўзалі на вочы. Прамень асцярожна прайшоўся па шчэці барады, мінаючы напоўадкрыты рот: моўчкі таўхануў гарбісты нос, дабраўся да чорных расніц і ўтаропіўся ў заплюшчанае левае вока. Ён упарта імкнуўся прашыцца праз вузкую шчыліну павек да вока. І быццам святкуючы перамогу, грымнула будзільнікава трашчотка, трывожачы цішыню і спакой маўклівае раніцы.

Чалавек ураз расплюшчыў вочы, сеў на пасцелі.

— Таня!—паклікаў ён.—Танюха!

Пакой не абзываўся. Чалавек агледзеў яго санлівымі вачыма, пацягнуўся.

— Пашла?—спытаў ён і сам сабе адказаў:—Пашла Таня. У школу.

Сабраўшы сілу, ён павярнуўся, паправіў падушку і зноў лёг. Над галавою, прыткнутая ангельскай шпількай да дзеравянай спінкі ложка, бялела запіска. Не бяручы запіскі ў рукі, чалавек павольна, па складах, прачытаў яе:

„Коля, я пашла ў школу на лекцыі. Снеданне ў печцы, прашу нікуды не выходзь, бо ты дрэнна спаў, блузніў. На пераменцы папрашу дзяцей, каб збегалі за доктарам—прывядуць.

Таня".

— Э, Танюха, гэта ты дарэмна!—усміхнуўся ён.—Пайду, трэба-ж ісці. А да доктара і сам датупаю, дзеці дарэмна бегаць будуць.

Ён павярнуўся бокам, памацаў рукою пад падушкай, выцяг папяросу і запалкі. Полымя ад запалкі ўспыхнула залатым кавалачкам сонца. Яно дрыжэла як напалоханы алень: пальцы і рука-худая жыльная—дрыжэлі, як полымя.

— Бач, дрыжыць! — усміхнуўся чалавек, глыбока зацягваючыся дымам.—А Танюха дарэмна не абудзіла. Яна...—ён папярхнуўся ад

дыму, сударгава дыхнуў, закашляў. Разлагатыя бровы шчыльна самкнуліся на пераноссі, валасы ў тахт кашлю закалаціліся на ілбу.

— Аха-аха-аха!.. Аха-аха-аха!..

Кашляў доўга, надрыўна, балюча. Потым змоўк.

Бязвольна звісалі рукі, з хрыпам, падобным на скрыгат веснавога лёду, дыхаў глыбока і часта, на шчоках ярка ўспыхнула густымі плямамі чырвань. Акурак лёгка выслізнуў з размяклых пальцаў і шлёпнуўся на падлогу. Дыміўся.

— Таня праўду кажа, — прашаптаў ён. — Дрэнна мне. Здароўе дрэннае.

Ён заплюшчыў вочы, і думкі, чапляючыся адна за адну, нароставаючы таросамі, блытаючыся вобразамі паплылі перад вачмі.

* * *

...О, як ярка палала тады веснавое чукотскае сонца! Аксамітавыя яго промні штурмавалі ўзбярэжныя скалы, мора тады бязмежна сінела і яго водбліскі слаліся па зямлі.

Параход быў чорны і вясёлы. Шызы дым з коміна лахмоццем ускручваўся ўгару, матросы дружна граблі вёсламі, ганяючы між берагам і судном блакітную ад водбліскаў шлюпку.

Тады ён быў здаровы! О, які здаровы быў тады комсамолец Колька Мол, вясёлы і чорначубы хлопец. Ён ехаў на Чукотку з жонкай, вязучы ў патрапаным дарогаю чамадане шэсць чырвоных томаў Леніна, бяспечную брытву „Жылет“ і дзве пары трусоў. І яшчэ быў багаж: усесакрушаючая маладосць, жаданне працаваць, комсамольскі энтузіязм...

* * *

І яшчэ:

...пурга, такая пурга! Праз густы, як мех аленявай скуры, снег не відаць нават хваста бліжэйшага ад нарты сабакі. Халодныя іголкі пургі вострыя: яна прашывае імі наскрозь лоб, нос, губы, шчокі. Настываюць і ныюць сцятыя холадам і пургою пальцы ў цёплых нерпавых рукавіцах.

Нарты. Ноч. Пурга. Дарога.

Гадзіна. Другая, трэцяя, дзесятая.

Дарога.

На нарце двох: каюр [1]) чукча і рускі інструктар райвыканкома— Нікалай Мол. Наперадзе нарт, скавычучы ў пургу, імчацца кудлатыя клубочкі сабак. Побач з нартамі, у пурзе, выючы сабакам, куляецца вецер. Ён то адстае ад нарты, скрабе па спіне, то, ліхаманкава свіснуўшы, забяжыць наперад, і ускруціўшы снег, шпурляе яго людзям ў твар.

А нарты імчацца. Куды?

Колька ведае маршрут.

— Затока Лаўрэнція! —і ўсё. А дзе гэтая затока? Гэта ведае каюр. Праўда ён баяўся ехаць у ноч, у пургу, але ехаць трэба!

Людзі з Уэлена казалі:

— Дрэнна! Не можна ехаць: пурга—смерць. Дарогі няма!

І людзі бачылі, што Колька смяяўся, смяшыў каюра, угаварваў і патрабаваў. І нарты хутка зніклі ў пурзе. Людзі доўга стаялі каля яранг, глядзелі на слабы след палазоў, ківалі галовамі. Губы людзей спачувальна цмокалі, вочы дапытліва ўглядаліся ў рускую жанчыну.

---

[1]) Каюр—паганяты сабак.

Яна стаяла з натоўпам моўчкі, глядзела на схаваны пургою след і вочы яе гарэлі сухою трывогай.

А нарты імчаліся наперад і наперад.

Вецер, пурга сцебалі людзей і сабак.

Навакол распрасцёрлася вялікае белае маўчанне, няпрыметна мільгалі секунды на Колькавым гадзінніку—бранзалетцы. Секунды зліваліся ў хвіліны, гадзіны, суткі. Астаноўкі кароткія, як салодкі сон. Пурга змянялася зацішшамі і зноў пургой. Да затокі Лаўрэнція з пургі ў тэрмін выплывалі нарты са зморанымі людзьмі.

Работа.

Вось гэта была работа!

Рэволюцыя прыйшла на Чукотку са спазненнем на дзесяць год і такія, як Колька Мол, наганялі ўпушчанае.

Вось гэта жыццё!

* * *

— А цяпер?—Колька расплюшчыў вочы—цяпер? Цяпер ужо многае, многае зроблена. Два гады прайшлі наздарма. І нездарма пройдзены сабакамі тысячы немераных міль у гэтай краіне.

Ён абапёрся на локаць, паглядзеў у акно. Там бушавала вясна.

— Сухоты!—усміхнуўся, пашавяліў губамі.—Там схапіў у пурзе. Застудзіўся і вось захварэў.—Лёг на бок. Думаў.

„Вынікі работы за два гады—пяць школ (у адной з іх, у Уэлене, Танюха вучыць чукоцкіх дзяцей быць людзьмі), восем зверабойных арцеляй. адна культбаза, у многіх ярангах мыла і зубная шчотка. Дзесяць год пайшлі ў нябыццё, іх нагналі... Зараз не восемнаццаты чукотскі, а тысяча дзевяцьсот дваццаць восьмы савецкі год Савецкае Чукоткі!

Заснуў...

2

Вакно маленькае, не больш за насавую хустку, мутнае шкло яго скрыжавана дзеравянай рамай. Два сталы, заседжаныя табурэткі і рыплівая шафа. На сталах старыя газеты, паперы. На табурэтках людзі, на шафе—пыл.

Пакой РВК. Калі адчынялі дзверы, у яго следам за чалавекам спяшыла вясна і звонкая цішыня. Наведвальнік прыносіў з сабою пах ветру, таючых ільдзін, мора.

Пах вясны...

Ён павольна падыходзіў да стала, здымаючы рукавіцы.

— Еццi? [1])—пытаўся з-за стала чалавек.

— І-і [2])

— Чаго прыйшоў? Кажы...

І чалавек гаварыў: коратка, скупа, самае галоўнае. Потым выходзіў, выносячы з сабою пах пракуранага пакою і кароткае „і-і“ ці „карэм“ [3]) з-за стала: просьба будзе (не будзе) выканана ішоў цвёрда, ведаючы вынік.

...Дык—

—вось—

—за сталом, у якога адна ножка карацейшая за астатнія, сядзіць жоўтатвары Колька Мол. Над ім усмешкай прыплюшчыў вочы, пільна

---

[1]) Еццi—прыйшоў.

[2]) І-і—так.

[3]) Карэм—не.

ўглядаўся з партрэта ў людзей і пакой шырокалобы чалавек. Рама партрэта чорная, а перавітак з чырвонага крэпу сведчыць аб жалобе. Але погляд шырокалобага чалавека жывы і ад гэтага погляду нікуды не сыйдзеш—ён усюды. На другім стале, на падлозе і табурэтках людзі: касабрывыя, жорсткавалосыя і скуластыя-чыстакроўныя чукчы; горбаносыя і чорнавокія-метысы—дзеці чукчаў і гарачых прышлых людзей з поўдня—лезгін і асецін, жоўтатварыя з удаўленымі віскамі і блакітнымі як ільдзінкі вачмі—метысы, выпадковыя дзеці выпадковых гасцей—амерыканцаў; проста курносыя, рускія, ачукочаныя рэвалюцыяй, страстныя прыхільнікі гэтай дзівоснай краіны.

Моладзь. Усе дваццаць чатыры.

Маўчаць. Кураць. Слухаюць.

Нікалай гаворыць ціха, з перадышкаю, спыняючыся. Словы выходзяць хрыпам і кашлем і таму жорсткія, асцярожныя, каштоўныя, як порах: дваццаць тры пары вушэй старожка слухаюць іх, баючыся прапусціць, згубіць.

— Вясна прыйшла. Вось. Праз дваццаць сонц канчаем промысел пясца. Трэба...аха! аха! аха! да прыбыцця парахода сабраць (пауза) па ўсяму раёну ўсю вызначаную планам пушніну, выцанаць (перадышка)... план. Так, факторыям людзей не хапае... аха! аха!... мы, уся ячэйка павінны паехаць па стойбішчам з таварамі факторый (пауза), дапамагчы людзям здаць пушніну, не адрываць іх ад промыслаў, забяспечыць прыпасамі пакуль... аха! аха!.. трымаецца санная дарога. Я таксама еду... я скончыў...

Загаварыў другі, трэці, пяты—усе дваццаць тры комсамольцы гаварылі пасля сакратара:

— І-і, ехаць трэба.

Гаварылі: Нікалаю ехаць не можна—хворы. А дваццаць тры едуць сёння. А Колька зноў смяяўся і смех яго, зліваючыся з кашлем, калаціў на ілбу чорную пену валасоў. І сударгава трапяталі тупым болем чорныя бровы.

* *
*

— Вось. Так.

Раз'ехаліся дваццаць чатыры ўпражкі: на Захад і на Поўдзень. Толькі на Поўнач і на Усход не беглі сабакі: там было мора.

Мільгацяць сабачыя лапы. Сабакі ірвуцца з пастромак, але пастромкі моцныя і разам з імі, сабакі цягнуць нарты.

Хутка, хутка!

Веснавы мароз раніцою яркі і бадзёры: цішыня адчувалася як думкі; кілометры, мілі не мераны і таму кароткія. Немераны час карацей.

Сінь. Цішыня. Бляск. Шлях.

Гаўканне сабак. Хрып.

Рыпяць палазы.

Астаноўкі кароткія, як стрэл: часу мала, толькі дзвесці сорак гадзін—тэрмін язды. І пасля гонкі—спаборніцтва з вясной і часам, плямы яранг, брахня чужых і сваіх сабак, скрып палазоў, лаянка.

У яранзе, пасля яркага дня, цёмна.

— Еццi—голас ад полага.

— І-і.

— Што прышоў?

— Тавар прывёз.

— Купец?

— Так, чырвоны.

І ў ярангу з нарты пералятаў, чай, паркаль, сукно, цукар, порах, прымус. І ў нарту з ярангі выкідваліся пясцовыя, мядвежыя, цюленевыя, маржовыя скуры, маржовыя клыкі.

Чаўкалі, урчэлі сабакі, глытаючы мяса. Чаўкаў і соп чалавек: госць не можа выйсці з ярангі галодным—крыўда і кляўль і нэцан і ўсяму роду.

Часам гаспадар парушаў маўклівасць.

— Гарэлка ёсць?..

— Уйна [1])—бурчэў госць. Гаспадар змаўкаў.

Адпачынак кароткі. І зноў—снег, бляск, сабачае скавытанне. Рыпяць палазы...

— Шлях...

* * *

Суткі за суткамі: праз дзень і ноч.
Рыпенне палазоў.
Брахня сабак.
Каюраў вокліч.
Шлях.
Дваццаць тры. І яшчэ адзін—хворы.
Дваццаць чатыры.
— Так патрэбна.

3

Параход чорны і суровы: ён гнеўна крычыць на блакітныя шлюпкі, падганяючы іх. Шлюпкі шпарка імчацца ад судна да ўзбярэжнай галькі, пад нагамі матросаў галька вурчыць веснавым ручаём і кожны каменчык галькі—круглы, халодны, падобны на мёртвае вока рыбы.

Апошняя шлюпка везла да парахода апошні пак пушніны і двух апошніх з гэтага берагу пасажыраў. Жанчына падтрымлівала мужчыну і абое, не адрываючыся, глядзелі на бераг, дзе стаяў натоўп маўклівых людзей. Махалі хусткамі, шапкамі—тыя і гэтыя. У мужчыны ў вачах туга і надзея, а на беразе людзі спачувальна цмокалі губамі, як па мерцвяку, і вочы іх набракалі слязмі.

* * *

Нядоўга цягнецца чукотскае лета: два месяцы. Увосень стады тлустых птушак па-нізу ляцяць на поўдзень, пакідаючы на ўзбярэжных скалах шэрую пустэчу.

Чукчы папраўляюць жалезы, пасткі на пясцоў, нарты—рыхтуюцца да промыслу. Сабакі тлустыя, як гусі увосень, і ў паветры сінім і вільготным лётае вылінялая сабачая шэрсць. Ліняе пясец і мядведзь.

З Поўначы ідзе зіма.

— І вось

у затоцы Лаўрэнція стаіць жоўты дом.

У пакоях дома усмешкамі гарэлі твары людзей, была урачыстасць. У затоцы Лаўрэнція адчынялі новую культбазу.

Калі ў вялікай зале з трыбуны прэзідыума касовокі чалавек кідаў скупыя словы ў гушчы чулых людзей—словы аб дзесяці нагонятых гадах, з-за куліс да стала прэзідыума падышоў, згорбіўшыся, заўсёды стройны радыст і перад старшынёю сходу паклаў паперку. Паперка

[1]) Уйна—няма.

была белая і чырвонае палатно стала абкружала яе ўрачыстай і вялізнай рамай. З паперкі нема плакалі ўздыбленыя літары:

„Нікалай Мол дваццатага верасня у Владзівастоку памер ад сухотаў тчк.

Таня тчк“.

Усмешка сышла са старшынёвага твару. Ён устаў, хістаючыся, глытаючы стогн. Не заўважаючы таго, на трыбуне, душачыся кароткімі словамі, прачытаў тэкст радыёграмы.

...І вочы людзей, чорныя, карыя, шэрыя, блакітныя—вочы чукоцкіх людзей—набракалі слязмі ад гора, і губы чукоцкіх людзей цмокалі тужліва—

па мёртвым чалавеку.

Снежань 1933 г.

---

АЛЕКСАНДР МІРОНАЎ
(Чэлюскінец)

# ЧОРНЫ ТУМАН

## 1

— Хто ён?—спытаў спадарожнік, нахіляючыся да каюра. Каюр пачакаў, уважліва гледзячы, як рытмічна бяжыць упражка, потым павярнуўся і праказаў ціха:

— Ачергын са стойбішча Чульхэн. Харошы паляўнічы, але гаротны чалавек: яго жонка памерла, пакінула чатырох дзяцей... Дай закурыць, Камой!—скончыў ён з чукоцкай непасрэднасцю.

Спадарожнік няёмка палез пад механую кухлянку, дастаючы з далёкіх штаноў скамечаны пачак папярос. Закурылі і вецер гулліва ўдарыў у папяросныя агеньчыкі, зрываючы з губ іскры. Водбліскі агеньчыкаў заскакалі па шкле круглых акуляраў Комава.

— Дрэнна аднаму,—дайшоўся з цемені грубы голас.—Дзеці галодныя, дрэнна адзетыя... У яранзе холадна... сумна.

— Дык чаму ты не жэнішся?—здзівіўся спадарожнік на пярэдняй нарце.—Чаму не возьмеш у ярангу новую нэцан?

— Гаці!—даляцела да пярэдняй нарты недаўмёнае, крыху разгубленае цмоканне.—Чаму? Не ведаю чаму.—Я дужы чалавек, харошы паляўнічы, а другой жонкі не магу ўзяць. Чаму? Не ведаю... Няма жонкі! Абяцаў сусед, а аддаў другому, не мне...

У голасе чалавека адчувалася глыбокая гаркота. На пярэдняй нарце людзі змоўклі, быццам і яны адчулі спадарожнікаву журбу. Маўчанне было вострае, як боль сярод палярнай начы, урачыстай і непарушнай. Нарты імчаліся нечутна, пакідаючы глыбокі след на мяккім снягу. Дарога ледзь прыметнаю істужкаю выкручвалася між маўклівых рапакоў.

З пярэдняй нарты ў глыбокі снег нырнуў акурак: сядак скурчыўся, захінаючы твар ад сустрэчнага ветру і гледзячы ў калматую каюраву спіну. Думаў аб сваім.

Назад адыходзіла ноч...

Ад самага Уэлена бягуць калматыя клубочкі Ачэргынавых сабак. Спадарожнік кіруе сабакамі флегматычна, хутчэй па звычаю, думаючы пра невядомае. Ён часта перарывае свае думкі гаворкаю.

Спрэс усю дарогу спадарожнік скардзіўся сядаку і каюру, сабакам і снегу начы і сабе—на цяжкое жыццё адзінокага, на сум па блізкім чалавеку—жонцы. Ён скупа і коратка расказаў пра сябе і, успамінаючы яго словы, сядак складаў з іх апавяданне.

„Яна памерла ў мінулым годзе, улетку, пакінуўшы мне гора ад страты і чатырох дзяцей. А самому старэйшаму хлопчыку ледзь мінула дзевяць зім. Мы жылі з жонкай добра і дружна, дзеці заўсёды былі

сытыя і вясёлыя. Смерць забрала нэцан, яе завезлі ў тундру, і там яна засталася, лежачы на шэрым ягелі, галавой да ўсходу і нагамі да захада—па звычаю.

Я хочу ўзяць да дзяцей другую маці, але мне не шэнціць. Чаму? Не ведаю сам. А людзі смяюцца з маёй бяды і кажуць—дрэнны мужчына. А я-ж без промаху б'ю маржа у вока, імклівага песца адразу кладу сваім вінчэстэрам.

На поўдзень ад культбазы заліва Лаўрэнція дарога двоіцца. Можна ехаць да берага, дзе рэдкія арангі—стойбішча Чульхэн і далей—да стойбішча Яндагой.

І вось

— калі дзень разлёгся шэрымі плямамі святла, над апранутымі снегам зямлёю і морам, на скрыжаванні дарог спыніліся дзве нарты. Да пярэдняй падышоў Ачэргын, падаў Комаву жоўтую руку і пацісну́ў руку рускага асцярожна і няўмела. Рускі перадаў спадарожніку звонкую ад мароза цаглінку дарагога на Чукотцы хлеба.

— Дзецям завязі,—сказаў ён.

Чукча беражліва ўзяў падарунак, удзячна кіўнуў галавой. Старыкоўска маршчлівы твар яго на момант праяснеў развітальнай усмешкай. Махнуўшы рукою, ён скочыў на свае нарты, цокнуў на сабак.

Сабакі паімчалі: тыя і другія ў розныя бакі. Людзі ехалі аддаляючыся адзін ад аднаго, і думалі аб спадарожніках, з якімі ехалі так доўга па краіне блакітных прастораў.

## 2

Сярод яранг стойбішча Яндагай узвышаецца шэры, як хмурны дзень, сарай з гафрыраванага жалеза. Ён трапіў сюды ў тыя часы, калі жоўтавалосыя людзі з таго боку Бярынгава праліва адчувалі сябе тут, на Чукотцы поўнымі гаспадарамі. Але пазней прышлі тангітані[1]) з чырвонай зоркай на востраверхіх шлёмах і ў аксамітавую цішыню праліва адышлі шхуны жоўтавалосых. Амерыканцы звозілі пушніну і кіпучую злосць, а ў Яндагаі і ў іншых прыбярэжных стойбішчах на ўспамін пра жоўтавалосых засталіся сараі з гафрыраванага жалеза.

— Дык вось—

у Яндагаі у жалезным сараі змяшчаецца школа. Мехавы палог адабраў ад сарая большую палову і дзеці яндагайскіх оровелян[2]) штодня прыходзяць сюды, каб слухаць настаўніка—танш-танш—Комава. І яшчэ ў адной яранзе ёсць школа, дзе касабрывыя малышы ўважліва слухаюць чорнавалосую чырвонашчокую жанчыну, настаўнікаву жонку.

Дзве школы ў Яндагаі: у сараі—для старэйшых, у яранзе—для меншых дзяцей. У абудвух школах цярпліва, любячы работу і людзей, працуюць настаўнік і настаўніца Комавы.

А ўвечары, калі дзеці беражліва прыносяць у ярангі—дахаты—белыя лісткі сшыткаў і хаваюць у вядомых толькі ім тайніках, у сарай з гафрыраванага жалеза—да хаты—прыходзіць чырвонашчокая ярангавая настаўніца, дапамагае настаўніку прыбіраць з полагу нізенькія лаўкі—парты, гатаваць чай на шыпучым прымусе, і потым пры лямпе яны п'юць чай і гавораць пра работу і дзяцей.

Раніцай палог зноў ператвараецца ў школу, прыходзяць разам з дзецьмі бацькі, сядзяць і слухаюць рускага, гледзячы на яго вялікія

---

1) Тангі-тані—так чукчы прызываюць людзей іншых нацыянальнасцей.
2) Оровелі—людзі, чукчы.

круглыя шкельцы акуляраў, прыглушана дышуць, баючыся перашкодзіць вучобе.

Удзень, падобны на тысячы зімніх дзён, у школу ўпоўз чалавек. Ён устаў пры ўваходзе, перапыніў лекцыю.

— Чаго прышоў?—спытаў Комаў, углядваючыся прышламу ў твар.

— Справа ёсць,—адказаў знаёмы грубы голас. І настаўнік успомніў доўгі шлях з Уэлена, спадарожніка і яго апавяданне.

— Ачэргын,—сказаў ён,—якая справа? Ты пачакай, хутка скончым лекцыю, тады пагаворым.

— Не, зараз гаварыць будзем!—перабіў госць, і ў голасе яго загучэла настойлівасць.

Дзеці слухалі уважліва.

— Гавары!—праказаў Комаў, звяртаючыся да Ачэргына.

Чукча моўчкі глядзеў на свае торбазы [1]) збянтэжана варухнуў плячом. Ён як відаць, не ведаў, з чаго пачаць.

— Памятаеш ты падарыў мне хлеб для дзяцей?—нарэшце спытаў ён.—Я тады казаў пра сваю бяду. Ты параіў мне узяць новую нэцан?— Ён змоўк, чакаючы адказу, няёмка тупаў на месцы.

— Я знайшоў нэцан,—казаў далей госць,—ездзіў да аленных чукчаў і ў іх узяў жонку. Яна цяпер сядзіць на маёй нарце, мы едзем у Чульхен да дзяцей. Скажы—гэта добра ці дрэнна?

— Што дрэнна?—не зразумеў Комаў.

— Новая нэцан. Добра ці дрэнна?

— А-а-а, зразумела, добра,—заспяшаўся настаўнік.—Ну і што?

— Вось ты кажаш добра.—Ачэргынаў голас памацнеў. Чалавек выпрастаўся, радуючыся, што рускі пахваліў.— А можаш ты даць мне кэлікель [2]), што гэта добра?

Настаўнік настаражыўся, падбіраючы патрэбныя словы:

— Не, Ачэргын, я такую паперку не магу табе даць. Ты едзь на культбазу, там дадуць.

— Культбаза?—задуменна перапытаў чукча.—Добра, я паеду. Ты скажы, магу я цяпер везці нэцан у маю ярангу, а потым ехаць за кэлікель?

— Так, зразумела, можаш...

— Добра.—Чукча, кіўнуўшы галавою, вышаў з полага.

Ачэргын варочаўся са школы, з яснай усмешкай. Дзень над ім распасцёрся шэрым полагам, снег, стоптаны торбазамі і лыжамі, страціў ранейшую сінь, а воддаль, каля яранг стаялі людзі, стаўпіўшыся вакол упражкі сабак. Ачэргын падышоў да іх, ступаючы маладым крокам.

Людзі расступіліся, прапускаючы гаспадара к нарце: чукча прайшоў ганарлівы, але каля нарты гонар прапаў, чалавек згорбіўся, здзіўлена гледзячы на людзей.

— Дзе жонка, Ачэргын?—кпліва спыталі з натоўпу.—Зноў выпусціў жонку, недарэка.—У натоўпе засмяяліся, зажартавалі, а чукча стаяў згорбіўшыся, прыдушаны падзеяй, у ваччу яго трапятаў боль, нема білася пытанне.

— Эх, ты! Дабыў жонку, а да ярангі давезці не змог,—не спыняўся кплівы голас.

— Дзе?—выціснуў нарэшце Ачэргын праз засохлыя губы.

— Вунь, вунь, — паглядзі!—Людзі расступіліся, паказваючы на

---

1) Торбазы—абутак чукчаў.
2) Кэлікель—дакумант, паперка.

істужку дарогі.—Прыехаў жончын брат, пасадзіў яе на нарту і павёз у тундру. Кажа, ты дрэнны мужчына і благі муж.

Ачэргын глядзеў у далячынь, вочы яго набракалі вільгаццю і праз яе бачыў ён, як развітальна віхурылася далёкае белае воблачка—снег, ускручаны быстрым гонам упражкі.

— Садзіся, даганяй!—падзужвалі з натоўпу. Ачэргын адвярнуўся, неяк крывячыся пабег да сваёй нарты, і, падаючы ў яе, прыглушана дзіка крыкнуў на сабак. Сабакі рванулі, з візгатам і брэхам, упражка паімчалася ўраганам у другі бок—к Чульхену, уздымаючы за сабою снежны пух, ратуючы гаспадара ад калючых насмешак.

3

І зноў пайшлі шэрыя дні, доўгія ночы. У Яндагаі смяяліся чукчы з вялікай Ачэргынавай бяды. Смех ішоў ад стойбішча да стойбішча. Ішла навіна пра тое, што:

— Ачэргын—дрэнны муж, выпусціў жонку.

З Ачэргына смяяліся. Праўда, смяяліся не зласліва (чукчы не умеюць зласліва смяяцца з чалавека), але нават жартаўлівы смех зможа дабіць згараванага і няўдачніка. І Ачэргын, баючыся смеху, ужо не ганяў сабак у прасторы снягоў, не наведваў Янгадая і Лаўрэнція. Параненым зверам прытаіўся ён у яранзе. Гадзінамі цягучымі, як выццё пургі, нуднымі начамі сядзеў ён у яранзе, каля агню жырніка і думаў...

Аб чым?

Трывожна спалі дзеці, хутаючыся ў рваныя скуры, у полагу варушыўся вецер і жырнік, змучаны барацьбой з ім, сыходзіў чадам. Чалавек сядзеў панура, упарта глядзеў на агонь, маўчаў і думаў...

Прасыналіся дзеці, апасліва разварушвалі бацьку, і той адрываўся ад думак, гатаваў чай, карміў дзяцей, механічна еў сам. Потым, быццам успомніўшы на неабходнае, выходзіў з полагу, кідаў сабакам мёрзлае мяса і спяшаўся зноў у ярангу, баючыся сустрэцца з людзьмі. Людзі гарэлі цікавасцю, яны хацелі смяяцца і чакалі Ачэргына, як вясёлага жарту. І людзі смяяліся, а чукча бег у ярангу і, садзячыся каля жырніка—маўчаў, думаў...

Аб чым?

Аднойчы, адарваўшыся ад думак, ён загаварыў, спалохаўшы прывучаных да бацькавай маўклівасці дзяцей.

— Пянтой!—паклікаў ён старэйшага сына. Той вынырнуў з мяккіх скур, сгорбіўшыся ад холаду, падышоў да бацькі.

— Пянтой, бяры нарту, сабак, гані у Яндагай да Кентоя. Скажы, што Ачэргын кліча яго. Доўга прасі, няхай хутчэй едзе, скажы вялікая бяда будзе.

Хлопчык, адчуваючы нядобрае, зласліва крычаў на сабак, але голас яго зрываўся да спалоханага плачу. І плачучы, ён прасіў Ачэргынава брата—Кентоя—хутчэй ехаць у Чульхен.

Раніцай, калі блакітнае святло лянiва расплылося па небу, Пянтой адзін вярнуўся ў ярангу. Бацька сядзеў і маўчаў, не заўважаючы сына, і сын, пачакаўшы, падышоў і сеў—як вялікі—з бацькам.

— Кентой смяецца, бацька. Ён кажа: „зноў Ачэргын будзе скардзіцца, мне абрыдла. Не паеду!“

...І яшчэ ездзіў хлопчык у Яндагай і прасіў Кентоя і плакаў, кажучы, што бацька вельмі ў дрэнным стане і будзе вялікая, вялікая бяда. Але Ачэргынаў брат жартаваў, пакарміў дзіця сакавітай аленінай і паклаў спаць у цёплым полагу разам са сваімі дзецьмі. Хлопчык спаў моцна, заспакоены ежай і блізкасцю старэйшых, а раніцаю прымчаўся у Чульхен—адзін—і прывёз адказ.

Ачэргын сядзеў як і раней моўчкі, твар яго быў абыякавы, нежыццёвы, як месяц, і толькі ў вачах—чорных затуманеных, непраніклых—зрэдку, быццам вобліскі забытага жырніка, мільгацелі невядомыя зялёныя агеньчыкі.

А потым...

У полаг увайшла жанчына, суседка. Яна любіла дзяцей, як любяць іх усе чукчы: звярынай любоўю самкі. Пакарміла дзяцей, старонячыся панурага Ачэргына, папpавіла полымя ў жырніку і той узгарэўся ярка і молада. Потым абшыла дзіцячыя торбазы і паклала дзяцей спаць.

Тады сама села па той бок жырніка, падгробшы бліжэй да сябе рваныя кухлянкі дзяцей, і зашывала іх хутка і ёмка.

Чукча глядзеў на чужую, думаў аб сваім.

Жанчына шыла моўчкі, адну за адной кухлянкі, але жанчына—гэта жанчына. І ў кожнай жанчыне не спіць цікавасць.

— Ачэргын,—не сцярпела яна яго маўклівасці,—чаго маўчыш?

— Маўчу...

— Пра што думаеш?

— Думаю...

— Ты ўсё скардзіўся—няма жонкі,—не ўтаймоўвалася жанчына,—а ўзяў жонку і не змог утрымаць. Чаму?

Чалавек маўчаў... У снегавых гурбах завыў сабака і, быццам, падцягваючы яму, заенчыў вецер: прыглушана, жалобна. Полымя жырніка, устрывoжанае пургою, пахіснулася.

— Дрэнны ты гаспадар,—сказала жанчына.—У полагу дзеці, а ты не можаш нават ярангі ацепліць: бачыш, пачалася пурга і вецер пранікае ў полаг.

Чукча глянуў на жанчыну і тая, спалоханая, змоўкла. Бо згледзела ў вачах мужчыны незразумелага зялёнага звярка. Пурга завыла мацней, шквaламі налятаючы на ярангу: па спіне жанчыны забегалі калючыя ільдзінкі страху.

— Я не пайду ў сваю ярангу,—сказала яна.—Пурга, ноч. З дзецьмі лягу.—Яна спыніла работу і лягла з малымі.

Ачэргын доўгі час сядзеў адзін, слухаючы плач белай начы. Потым павольна ўстаў. Ступіў да жырніка і патушыў яго. У цемені яранга здавалася яшчэ больш непрытульнай, пастылай, чукча пашоў у свой бок, не здымаючы адзення лёг, шукаючы забыцця.

Не засынаў. Сон не прыходзіў, панура стаіўшыся ў самай густой цемені, варушыўся там без гуку і адчужана. І чукчу здавалася, што чуе ён шолах, а ў шолаху шэпт, кплівы, як людскі шэпт.

Якія жорсткія людзі! Яны рады чужой бядзе. Замест дапамогі—прыносяць злосць, здзекваюцца, смяюцца... Не, не такія людзі былі раней, калі жыла жонка. О, тады ўсё было добра. Тады дзеці былі накормленыя і вясёлыя, у яранзе ўтульнасць моцна сябравала з дастаткам і людзі здаваліся добрымі і блізкімі. Ад іх не трэба было хавацца. Жонка заўсёды падыходзіла да яго, Ачэргына, так чула і хораша з ёю ён падзяляў усю радасць і нягоды. І жыць было лёгка.

А жонка памерла і ўсё пайшло навыварат: людзі не здаюцца больш добрымі: Ачэргын зразумеў—людзі злыя і кплівыя.

Ой, як было-б добра адпомсціць ім за здзек, зласлівасць! Дапячы ім так, каб адчулі яны яго, Ачэргынаў, цяжар і боль...

(Чукча ўздыхнуў, паварочваючыся на другі бок. Ён моцна, сударгава сцяў кулакі, злосна скрыгануў зубамі. Прыслухаўся. Жанчына спакойна спала, дыхала роўна і бесклапотна. І думкі мужчыны, пераходзячы да яе, паімчаліся даганяючы адна адну, быццам пурговая замець).

Спіць... Ёй няма справы да чужога гора: яна спакойна спіць.

А раніцою пойдзе ў сваю ярангу і раскажа які дрэнны гаспадар Ачэргын. Людзі будуць слухаць і таксама смяяцца з яго. Усе будуць смяяцца, бо ўсе, усе, усе—дрэнныя, брыдкія людзі. А ён зноў будзе сядзець у яранзе адзінокі і абсмеяны са сваім горам і дзецьмі.

Не, больш такіх людзей—добрых і чулых, як жонка,—няма. Адпомсціць-бы ім за ўсё! За кпіны, за гаркоту і боль... за крыўды... І адпомсціць гэтай, якая цяпер спіць, а раніцою будзе смяяцца... І Ачэргын прыўзняўся са скуры. Нават у цемені відаць злыя, зялёныя агеньчыкі ў яго вачах. Прытойваючы подых, ён павольна поўз да жанчыны: як на паляванні ён, лепшы паляўнічы стойбішча—падкрадаўся да чулага звера, баючыся спалохаць цішыню. І гэтак-жа як на паляванні, ён знямеў, ледзь даткнуўся рукамі вялікіх торбазоў чужой. Потым асцярожна папоўз далей, датыкаючыся да нагі, да цела, крануў грудзі і...

— Гха!—прыглушана выціснуў ён, удараючы ў спакойныя санлівыя грудзі. І зноў выхапіў нож з раны і зноў ударыў,—раз, і яшчэ і яшчэ—пакуль не сціхлі хрыпоты...

## 4

У ярангу увайшлі ўзрушаныя людзі і сталі ў змроку, каля ўвахода. Гаспадыня выглянула з полага здзіўлена. За ёю праснуўся Кентой.

— Хто?—спытаў ён.

— Я—дрыглівым голасам адказала цемень.—Кентой і дзеці.

— Ну? Кентой падышоў да дзяцей.—Чаго прыехалі? Дзе Ачэргын?

— Ачэргын у Чульхане: нам загадаў ехаць і сам застаўся адзін.

— Што сказаць загадаў? Ізноў кліча мяне?

— Не...

Дзеці туліліся напалоханай стайкай. Нават у змроку ярангі Кентой згледзіў смяротную бледнасць на іх тварах. Дзіцячыя вочкі гарэлі прытоеным звярыным страхам, дзеці глядзелі на дарослага так, як глядзіць ушчэмлены жалезамі песец на набліжэнне неухільнага і страшнага чалавека: па звярынаму дзіка, асуджана.

Кентой зразумеў: здарылася вялікае, жахлівае, такое назвычайнае, што нават зусім маленькая Некапой, немая ад страху, перастала быць дзіцем. Падыйшла Укуга, гаспадарова жонка, узяла малое на рукі, прыціснула да сваіх грудзей, пагладзіла па чорнай галоўцы. Дзяўчынка выпучвала на жанчыну неуразумёныя вочкі.

І раптам, быццам адчуўшы абарону, затрэслася, істэрычна заплакала, чапляючыся ручкамі за жанчыну. Укуга панесла малое ў палог, у цёплае рыззё спальных скур і там, моцна прыціснуўшы да сябе, шаптала ласкавыя ўспакайваючыя словы. І дзяўчынка прыціхла, лёгка ўсхліпваючы, засынаючы, а за жанчынаю ў палог прашыліся двое дзяцей, шукаючы апекі ласкі маці.

Старэйшы застаўся адзін. Кентой прыўзняў уваходную скуру, прапусціў хлопчыка ў полаг, пралез сам. Дарослы дастаў люльку, напхаў яе тытунём, распаліў.

— Курыць хочаш?—абыякава спытаў ён, не гледзячы на Пянтоя.

—К-ко...—ніякава адказаў той. Кент падаў яму люльку і Пянтой прагна засмактаў дым.

— Сабак тваіх пакарміць трэба,—праказаў дарослы бяручы люльку ад хлопчыка. І, слухаючыся бацькавага загаду, з полага выйшла старэйшая Кентоява дачка. У моцных сабачых ляпах захрумсцела мёрзлае мяса.

— Пургі няма?—зноў спытаў Кентой, гаворачы зусім пра другое. І пачаў даваць адцягненыя пытанні, гаворкаю, спакоем ярангавай утульнасці гонячы з дзіцяці страх.

Пазней ужо, калі ўся сям'я цяснілася ў полагу, глытаючы сакавітае мяса, дзеці зрабіліся дзецьмі, па-дзіцячаму бесклапотна бралі ежу і крыху сваволілі. Страх мінуўся, як веснавы снег: хутка, без следу, пакінуўшы пасля сябе толькі непрыемную гаркоту ўспамінаў. І было невядомае—што-ж здарылася ў Чульхене? Пра гэта дзеці не казалі, як бы забыліся на бацьку: гэта было таямніцай.

— Паеду ў Чульхен да Ачэргына,—устаючы сказаў Кентой. І тады зноў напалохана ускочыў Пянтой, учапіўся рукамі ў кухлянку дарослага, хлопчыкавы губы пабялелі, задрыжэлі, губляючы блытаныя словы:

— Не, не... не едзь... там бяда... бяда... не едзь. Бацька загадаў маўчаць... Бяда... Вялікая бяда!..

5

Жанчына ляжала вольна, разгарнуўшы рукі. Акуратная кухлянка калматым саванам ахутвала цела. Ногі выцягнуліся роўна. У грудзях, непатрэбна ўзвышаючыся, тырчэла асадка вялікага паляўнічага нажа, а лязо яго глыбока ўваходзіла ў цела. На адзенні і на твары жанчыны чарнелі крывавыя плямы. Адаслаўшы дзяцей, Ачэргын вярнуўся ў ярангу. Жырнік, запраўлены ўчора жанчынай, успыхнуў ярка і святло пачало коўзацца па панурай Ачэргынавай фігуры—трупу, — хаосу палога.

Ачэргын прысеў на карачках каля трупа, уважліва глядзеў на санлівы твар, злёгку шавелячы губамі, быццам шэпчучы заклінанні. Зялёныя агеньчыкі яго вачэй на заўсёды патухлі, непраніклы чорны туман ахутваў чалавекавы зрэнкі. Ён сядзеў так гадзіну і яшчэ гадзіну, а потым устаў, не адчуваючы анямелых ног і падышоў да вінчэстэра. Уважліва аглядзеў яго, прызвычаяна напхаў яго патронамі, быццам збіраючыся на паляванне. Вышаў, паглядзеў на ўсход, дзе расплывалася блакітнае світанне і сеў каля сваёй ярангі, паклаўшы на калені вінчэстэр. Мароз шчыпаў голыя рукі і галаву Ачэргына, але чукча не адчуваў холада.

На ўсходзе хвалямі яркімі і чаруючымі, як музыка, плыло світанне, заліваючы неба і ўзбярэжныя сопкі, ледзяное мора і снег.

Чукча сядзеў нерухома. Здавалася, ён вышаў у марозную раніцу і зачарованы так і застаўся сядзець, слухаючы і захапляючыся маўклівай сімфоніяй. І калі з ярангі насупраць выйшаў уздрыгваючы ад холада чалавек, Ачэргын паглядзеў на яго не зласліва і пуста, быццам не заўважваючы. Але чалавек заўважыў Ачэргына, ухмыльнуўся, махнуў рукою.

— Ачэргын! — крыкнуў ён. — Калі паедзеш зноў шукаць сабе жонку?—і засмяяўся.

Тады Ачэргын глянуў на яго пільна: вочы чукчы рабіліся ўсё больш і больш яснейшымі. Чорны туман быццам пад уплывам чырвоных праменняў сонца выпараўся без следу. І раптам у зрэнках шалёна завіхурылі, заскакалі зялёныя злыя звяркі.

Ачэргын успомніў: гэты смяяўся з яго сама больш, ён здзекваўся заўсёды, не даючы Ачэргыну супакоіцца. І тады ў чукчавай галаве забурліла кроў, шыбанула ў віскі, рукі сціснулі вінчэстэр, у галаве мітусілася, камяком падступала да горла адна думка:

— Адпомсціць!..

Чалавек, не дачакаўшыся Ачэргынава адказу, пачаў падыходзіць. Ачэргын паглядзеў на вінчэстэр, лёгка прыткнуў яго да пляча і, не цэлячыся, націснуў спуск. Сусед здзіўлена охнуў і паваліўся.

Ачэргын зноў паклаў вінчэстэр на калені і сядзеў нерухома. Твар яго акамянеў. Вочы па ранейшаму глядзелі туманна і абыякава, але праз туманавую непранікласць ірваўся нястрыманы агонь злосці.

Пачуўшы стрэл, з другой ярангі выскачыў здзіўлены сусед і Ачэргын—помсцячы яму і усім людзям, за крыўду, за сум, і адзіноту, зноў узняў вінчэстэр і націснуў на спуск. І другі паваліўся, смяшліва і недарэчна ўзмахнуўшы рукамі.

Яшчэ і яшчэ страляў Ачэргын, загнаўшы людзей у ярангі. А калі тыя баяліся паказвацца ўжо на двор, ён пачаў страляць па ярангах.

Стары ляжаў на падлозе, стараючыся зрабіцца меншым як быў. Побач і ззаду дыхалі дзеці, жанчыны. Жырнік патух. І ў цемені людзі чакалі стрэлаў, а калі стрэлы рвалі цішыню, людзі яшчэ шчыльней прыціскаліся да скуры, разасланай на падлозе. Кулі, шчоўкаючы з прысвістам, пранізвалі падатлівыя сцены ярангі.

— Бацька!— Да старога падпоўз хлопец.—Трэба бегчы ў Яндагай, у Лаврэнцій, сказаць людзям, няхай дапамогуць узяць Ачэргына, ён усіх пастраляе!

— Карэм. Нельга клікаць людзей.

— Тады дай вінтэстэр, а я сам заб'ю яго: глядзі ён сядзіць нерухома і страляць лёгка—не прамахнуся.

— Не, Таманья. Не дам страляць, не можна.

— Дык чаму бацька? Ён жа б'е людзей!

— Няхай б'е гэта не наша справа. У ім пасяліўся злы дух і цяпер духава, а не людская справа, разбірацца ва ўсім гэтым. Людзі не могуць. Старыя не памятаюць, каб оравелян забівалі сваіх. Звычайны оравелян гэтага не зробіць. Гэта робяць духі. Змоўкні ты,—зашыпеў ён, глянуўшы на сына.

Час цягнуўся павольна. Усё часцей і часцей у ярангах канвульсіўна ўздрыгвалі, а потым выпросталіся, паміраючы ад стрэлаў, людзі. Усё часцей і частей стагналі параненыя. Пад вечар Ачэргынава куля прабіла маленькую дзірачку ў сцяне полага Таманьі, на ўзроўні бацькавай галавы. Стары сударгава варухнуў нагамі і захрыпеў. Праз хвіліну ён змоўк.

— Бацька!—паклікаў Таманья і крануў старога за галаву. Бацька не адказаў, ляжаў нерухома. Таманья рвануў да сябе руку: рука была мокрая ад крыві.

— Маці!—павярнуўся ён,—дай вінчэстэр!..

— Карэм, Таманья,—голас маці быў прыглушаны.—Не дам страляць, не злуй духаў.

— Бацька забіты, дай вінчэстэр!—узлаваўся сын.

— Не...

— Э!.. Ён ускочыў, рвануўся да выхаду і знік з ярангі.

— Таманья! Таманья! а-а-а... зайшоўся ззаду напалоханы вокліч маці. Але хлопец бег не спыняючыся, кідаючыся ў бакі, падаючы і падскакваючы. Ачэргын раз-по-разу выпусціў у яго шэсць куль і не пацэліў.

Ачэргын выстраліў усе патроны і вярнуўся ў ярангу. Чыркнуўшы запалкай, ён распаліў жырнік, падліў у чашку жыдкага маржовага тлушчу. Беражліва, як самае дарагое, паклаў ён вінчэстэр на падлогу, а сам сеў каля жырніка, задумаўся.

Побач ляжаў халодны, як лёд, труп. Ачэргын паглядзеў на яго і ўспомніў многія трупы, якія ляжалі на снезе—трупы людзей, якіх

ён забіў за кпіны, за здзекі. Ён адпомсціў. Праўда, ён зрабіў недобра—але не яму, чалавеку, разбірацца ў тым, што зроблена: ён забіў і цяпер яму няма месца сярод жывых. Ён падпаў пад уладу духаў, а духі ведаюць што рабіць з забойцай.

Злосці на людзей больш няма. Ён павінен ісці да духаў і даць ім справаздачу аб сваіх учынках... Памерці... але як цяжка паміраць, ведаючы, што ні адзін блізкі чалавек не пашкадуе аб ім, не зробіць пахавальнага абраду... О, як цяжка!...

Ачэргын павольна ўстаў. Зняў са сцяны сваё лепшае ўбранне—белую кухлянку і торбазы—ён надзеў іх, а потым узяў тапор, дробнадробна пасек пясцовыя скуры, раскідаў кавалачкі іх па падлозе, парваў грошы, атрыманыя у факторыі за пушніну, пасек новую сабачую вупраж, адзенне,—усё каштоўнае, што не спатрэбціца чалавеку па той бок жыцця, і зноў раскідаў кавалачкі па падлозе: так трэба рабіць пры пахаванні нябожчыка.

Узяў вінчэстэр і патроны, крыху аленевага мяса, тапаром—зноў па звычаю—прасек у задняй сцяне полага шырокі выхад і ступіў з ярангі праз гэты праход смерці.

На зямлю сышла ноч, маўклівая і ўрачыстая. У белай імгле начы, сярод рапакоў крочыў чалавек, паскрыпваючы снегаступамі.

— Камой, вось прышоў Таманья з Чульхена, там Ачэргын страляе ў людзей,—Ганнуш, старшыня Яндагайскага нацсовета гаварыў усхвалёвана, спяшаючыся выкласці небывалую трывожную вестку.

— Страляе ў людзей?—здзіўлена бліснуў акулярамі настаўнік.—Чаму страляе?—

— К—ко, не ведаю,—адказаў Таманья.—Раніцою ён сеў каля сваёй ярангі і страляў ва ўсіх, хто выходзіў. Многа забіў людзей. А потым страляў па ярангам, мы ляжалі на скурах, і ён забіў майго бацьку. Я бег сюды, Ачэргын страляў—не пацэліў. Цяпер баюся ісці туды.

Усе трое змоўклі, кожны думаў пра здарэнне. Яны стаялі каля дзвярэй жалезнага сарая, а на сарай, на снег і ярангі спускалася сіняя, сіняя чукоцкая ноч. Дзе-ні-дзе ў стойбішчы перабрэхваліся сабакі, і рэха ад іх голасу адгукалася у далёкіх сопках прыглушана і ледзь чутна. Стойбішча абязлюдзела, прытаілася, устрывожаная весткаю аб забойствах у Чульхене. Людзі пахаваліся ў ярангі, баючыся Ачэргына, над стойбішчам навісла трывожная і палахлівая цішыня.

— Трэба паведаміць у Лаўрэнцій!—хвалюючыся сказаў настаўнік.—Там напэўна не ведаюць.

— А як пойдзеш?—развінуў рукамі Таманья.—Можа Ачэргын ходзіць па тундры, можа ў рапаках. Як пойдзеш, заб'е!..

— Ганнуш, трэба-ж паведаміць ў Лаўрэнцій!—зноў сказаў настаўнік.—Там ёсць многа рускіх. Яны возьмуць Ачэргына. Хто зможа пайсці?

— Не пойдуць,—махнуў рукою Ганнуш і агляну́ўся на цемень.—Я казаў людзям, ніхто не хоча ісці: баяцца. Ведаеш, Камой, дачакаемся раніцы, тады вырашым, хто пойдзе.—Ён паціснуў настаўнікаву руку і заспяшаўся да сваёй ярангі. Таманья пашоў за ім.

Настаўнік паглядзеў на іх, кіўнуў галавой і ўвайшоў у жалезны сарай.

— Оля—паклікаў ён жонку і пачаў расказваць пра падзею ў Чульхене. Жонка слухала, перапыняючы апавяданне пытаннямі.

— Як бачыш,—скончыў Комаў,—трэба паведаміць як хутчэй. І раніцай напэўна хто—небудзь пойдзе. Але я апасаюся, што ў Лаўрэнціі не зразумеюць чукчы, там-жа новыя людзі, якія не ведаюць добра чукоцкай мовы, а блытаны расказ чукчы толькі заблытае іх яшчэ горш. Я напішу ім запіску.

Раніцай зноў прышоў Ганнуш у жалезны сарай. За яго спіной вісеў вінчэстэр.

— Таманья ноччу пабег ў Лаўрэнцій,—радасна аб'явіў ён настаўніку.—Наўкола бег, тундраю будзе далёка абыходзіць Чульхен.

— Чаму-ж ты не прышоў да мяне? Я напісаў кэлікель у культбазу, яны не будуць ведаць, што з Ачэргынам, хлопец не зможа ўсё расказаць.

— Ну, не прышоў?—развінуў рукамі Ганнуш.—Не мог прыйсці, чалавек пашоў хутка-хутка.

— Тады трэба ехаць ў Лаўрэнцій!—рашуча сказаў настаўнік, і скамечыўшы напісаную ўчора паперку, адкінуў яе.—Ты паедзеш?

— Не ведаю...—неўпэўнена адказаў Ганнуш.

— Ты я і яшчэ людзі. Паедзем!—настойваў Комаў.—Многа ўпражак не страшна!

Жыццё ў Яндагаі замерла, прытаілася. Нават удзень стойбішча пуставала: людзі сядзелі ў ярангах. У абодвух школах спыніліся заняткі—людзі не пушчалі дзяцей, баючыся вар'ята.

Апоўдні са стойбішча рушыў доўгі поезд. На пярэдняй нарце ехалі настаўнік і Ганнуш. Чукча каюрыў нервова, сочачы за сцежкамі ў рапаках. Людзі ехалі моўчкі, прыглушаючы найменшы шум: чакалі стрэлаў, прытоенай у рапаках смерці. І толькі мінуўшы месца, дзе ідзе з дарогі сцежка ў Чульхен, людзі пасмялелі, разгаварыліся ўголас падганяючы сабак. У Лаўрэнціі прыехаўшых сустрэла гаўканне сабак, на якое яндагайскія сабакі адказалі звонка і адвечна варожа.

6

Асцярожна, групкамі падыходзіў невялікі атрад да Чульхена. Асцярожна ўвайшоў у стойбішча. Старонячыся маўклівай Ачэргынавай ярангі, людзі абкружылі суседнія ярангі, а з іх, чуючы гамонку прышоўшых, пачалі паказвацца перапалоханыя жыхары.

7

Ачэргын ішоў, не бачачы дарогі. За спіною у тахт крокам хістаўся вінчэстэр. Ногі перастаўлялі снегаступы рытмічна. Твар чалавека акамянеў: сабраная ў суровыя рэзкія маршчыны скура твару жоўкла зняможана і стомлена. Толькі вочы—чорныя крыху касаватыя—упарта імкнуліся наперад, адшукваючы там далёка вядомае толькі ім.

Ён шоў так гадзіну і яшчэ гадзіну.

Навакол у цішыні сінелі снягі.

Востра пахла марозам.

Думаў:

„Тундра. Вось за рапакамі тундра ляжыць, як вялізны калматы умка. Там, на ўскраіне тундры, ёсць месца (о, Ачэргын добра ведае гэта месца, ён зможа знайсці яго нават з завязанымі вачамі!)—дзе ляжыць захутаная снегам і смерцю жонка. Ён ідзе да яе і з ёю ён застанецца незаўсёды. Ён ляжа на снег і снег ахутае яго пяшчотна і супакойваюча, захавае назаўсёды ад вачэй злых, ненавісных людзей. Ён спакойны: духі прымуць таго, над кім зроблен пахавальны абрад. І духі памяркуюць: праў Ачэргын ці не, адпомсціўшы злым людзям.

Парваўся рамень у снегаступе, але Ачэргын не спыніўся, не справіў яго ідучы далей. Нага без снегаступа глыбака праваньвалася ў снег, ісці было цяжка і нязручна, але мэта апошняга шляху паўставала наперадзе невялікім ўзгоркам і ён дайшоў да яго.

— Тут!—прашаптаў чукча, спыняючыся на вяршыне. Побач гуллівы вецер навеяў адмысловую гурбу і Ачэргын сеў на снег, прыткнуўшыся да гурбы спіною. Мароз ласкава прыпаў да твару, заказлытаў у ноздрах.

Ачэргын зняў з плеч вінчэстэр, увапёр прыкладам у снег каля ног, а рулю паклаў між кален. Потым, быццам спраўляючы звычайную работу, адвязаў раменчык ад снегаступа, адзін канец яго прыладзіў да вінчэстэра вакол спуска, а другім канцом абвязаў ступню нагі. Выпрастаўся, уздыхнуў:

— Жонка, іду да цябе!—спакойна праказаў ён.

Раніцой людзі не хацелі ісці шукаць Ачэргына. Стары, выказваючы волю чульхенцаў, прышоў да начальніка атрада—настаўніка Комава—і рашуча заявіў:

— Не! Не пойдзем. Не нашая справа ўмешвацца сюды. Тут чалавек бяссільны, тут справа духаў.

— Але-ж Ачэргын можа вярнуцца і зноў будзе забіваць людзей,—даводзіў Комаў.—Тады што?

— Няхай прыходзіць, на тое воля духаў...

І людзі не адважваліся. Нават тыя, што прышлі з атрадам у Чульхен, цяпер, пад уплывам старых, захісталіся, а потым з'явіліся да начальніка і пачалі ўпрашваць адпусціць іх да хаты.

— Што рабіць, Таманья?—пытаў Комаў маладога чульхенца.—Відаць людзі не пойдуць і Ачэргын будзе зноў забіваць

— А што будзеш рабіць? Таманья сядзеў пануры, стараючыся не сустрэцца з поглядам рускага.—Калі пайшоў са стойбішча, значыць, не вернецца.

— А калі прыдзе?

— Ну...

— І зноў будзе страляць?

— К-ко...

— Яшчэ заб'е многіх...—Рускі наступаў.—Маці заб'е, дзяцей, старых. Будзеш маўчаць?

— А што рабіць?—Таманья глянуў на рускага.

— Ісці, лавіць!—горача адказаў той.—Злавіць і судзіць, пакараць за забойства невінаватых людзей.

Абодва змоўклі. І вакол, прыслухоўваючыся да іх маўчання, затаілі подых усе ў яранзе.

— Ты малады,—спакойна праказаў рускі.—Калі цябе ўдараць, таксама маўчаць будзеш?

— Карэм!—адказалі збоку.

— Не,—пацвердзіў Таманья.—Таксама ўдару. Навошта маўчаць!

— А бацьку забілі і ты маўчыш! Баішся ісці лавіць Ачэргына?

— Чаму баюся? Не!—жыва адгукнуўся Таманья,—не баюся, але чуеш,—старыя кажуць...

— Старыя!—перабіў смяшліва начальнік.—Старыя баяцца Ачэргына, значыць і ты баішся?

— Не баюся. Я пайду!—злуючы, узняўся Таманья.

...Адзін за адным, смялеючы, людзі парашылі ісці на пошукі Ачэргына. Атрад выступіў са стойбішча. Наперадзе крочыў, угледаючыся у Ачэргынавы сляды, Таманья. Сляды былі старыя. Дзе-ні-дзе нават занесеныя снегам, але вопытнае вока праваднікa ўпэўнена вяло па іх.

Знайшлі снегаступ.

— Ён згубіў,—сказаў, падымаючы знаходку і радуючыся, Таманья.—Ачэргынаў снегаступ.

Далей след выкручваўся выразна па лагчыне. След ішоў па ўзгорку. Таманьяпершым узбег на ўзгорак і раптам адскочыў, дзіка крыкнуўшы. Людзі падбеглі да яго.

На ўзгорку, прыхіліўшыся спіною да гурбы, сядзеў Ачэргын. Людзі падыйшлі да яго павольна і асцярожна. Ачэргын не бачыў іх, трымаючы ў роце рулю вінчэстэра.

— Ён мёртвы!—прыглушана сказаў Таманья.

І тады усе ўбачылі вялізную дзірку ў чукчавым чэрапе, кудой выйшла куля.

— У-у, гадзіна,—замахнуўся Таманья прыкладам на мерцвяка. І не ўдарыў: павольна, павольна апусціў стрэльбу да нагі і адвярнуўся. А мерцвяк сядзеў урачысты і халодны, узвышаючыся магутным абломкам заснежанай скалы і напоўадкрытымі вачыма глядзеў на людзей. Вочы былі непраніклыя, як смерць, у іх застыў халодны чорны туман.

Людзі—оравелян—паклалі зброю і падыйшлі да трупа. Асцярожна раздзелі яго, беражліва зняўшы кухлянку і торбазы. І голае цела Ачэргына седзячы сінела на снезе. Людзі зрэзалі нажамі на кавалкі адзенне самагубцы, паклалі труп на снег—па звычаю—галавой да ўсходу і нагамі да захаду.

— Тут пахавалі яго жонку, на гэтым месцы,—сурова праказаў адзін і астатнія згодна кіўнулі галовамі.

— Да яе паміраць прышоў,—дадаў другі.

Яны ледзь выпрасталі скаваны смерцю і марозам труп. Хруснулі рэзка ногі. Труп ляжаў роўна, скура сінела, наўкола сінеў снег. Тады людзі раскідалі абапал трупа кавалачкі адзення, побач з трупам паклалі вінчэстэр, Ачэргынавы снеступы—і пайшлі.

Зноў пачаліся заняткі ў яндагайскай школе, калі ўсе даведаліся аб Ачэргынавай смерці.

Пасля заняткаў, пусціўшы дзяцей, настаўнік і настаўніца сядзелі ў палогу жалезнага сарая і гаварылі пра вар'ята. У полаг ўвайшоў Ганнуш.

— Комой,—сказаў ён,—ты не палохайся, зараз людзі будуць трошкі страляць.

— Чаму?—здзівіўся настаўнік.

— Так старыя кажуць,—вытлумачыў чукча.—Адганяць ад яранг Ачэргынаў дух. Хочаш—ідзі глядзі.

Яны вышлі ў змрок начы. Нізка на небе вісеў, хістаючыся ў срэбных промнях, востры серп маладога месяца. Каля яранг таўпіліся ціха гамонячы людзі. Потым гамонка змоўкла і ў цемень неба ірвануўся дружнай успышкай залп шматлікіх вінчэстэраў.

І адразу ад яранг дайшоўся да Комава вясёлы смех, гамонка і крык. Журба і страх зноў адыйшлі ў небыццё, назаўсёды пакінулі краіну блакітных прастораў.

Люты—34 г.

Е. САДОЎСКІ

# СТАРАСЦЬ

## 1

Яны сустрэліся ў праходнай будцы заводскага двара. Верхаўцоў, не павышаючы голаса і асцярожна падбіраючы словы, спрачаўся з міліцыянерам.

— Так, я вельмі добра разумею вас. Нельга, забаронена, недапушчальна. Але няма правіл без выключэння. Праз тры хвіліны гудок. Калі я зараз не пападу ў цэх, людзі разыйдуцца і я нічога не паспею.

— Не магу, не магу, таварыш. Няхай у канторы напішуць пропуск,—настойваў на сваім нізкарослы міліцыянер з густымі кудрамі, якія заліхвацка выторкваліся з-пад памятай форменнай шапкі.

— Так, я быў у канторы, абышоў усе пакоі, стукаўся ў габінет дырэктара, але ніхто не адгукаўся. Гавораць, што ўсе пайшлі на нейкі сход. Я не магу чакаць.

Лабадаеў спачатку не звярнуў увагі на гэтага старыка з белай густой барадой, якая закрывала ледзь не палову твару. Як і заўсёды, калі яму трэба было быць на другой змене, ён на гадзіну раней выходзіў з хаты. Павольна, не спяшаючыся закрываў за сабою дзверцы і заўсёды па адной старане, па адных і тых-жа вуліцах ішоў на завод.

Ужо даўно праклалі трамвайныя рэйкі да самых варот таго завода, дзе працаваў Лабадаеў. Але ён не любіў трамвайнай мітусні, прыкрых штуршкоў пры астаноўках і ў вельмі рэдкіх выпадках ехаў трамваем. У Лабадаева ўсё было загадзя разлічана. Каля выхаду на ўскраінныя вуліцы, на мейсцы былых могілак завялі невялікі квяцісты сад. Тут Лабадаеў, сядзеў хвілін дзесяць, курыў папяросу і потым таксама павольна, не спяшаючыся ішоў далей.

Праз некалькі хвілін ён здымае пажоўклую марку, якую можа вобмацкам знайсці на табельнай дошчы. Калі ён падыйдзе да дзвярэй цэха, сіплым голасам, нібы ад прастуды, загучыць сірэна.

Лабадаеў зняў марку і павярнуў галаву ў бок старыка.

„Адкуль гэта такі знаёмы голас“—падумаў ён...

Калі імкнешся што-небудзь прыгадаць, на момант ахапляе цябе нейкая бязвольнасць. За гэты маленькі прамежак часу нібы набіраеш сілы, каб напружыць усю памяць.

Рысы твару нічога не нагадваюць Лабадаеву. Ён яшчэ некалькі секунд стаіць на месцы, потым хутка праходзіць будку, але каля самага выхада яго ізноў нешта затрымлівае.

— Дзе я мог бачыць гэтага чалавека? От, дзіравая галава. Дзе-ж я яго бачыў?

Старык такім-жа спакойным голасам ўсё яшчэ пераконваў...

— Я вас, таварыш міліцыянер, зразумела не збіраюся падманьваць. Калі хочаце—пакіну дакуманты.

У гэтым здаровым старыку нібы ўсё гаварыла аб вялікай сіле і аўтарытэце.

Нарэшце міліцыянер махнуў рукой.

— Ды ідзіце ўжо. Зараз зараве.

Каля выхада яны зноў сустрэліся. Старык хутка сышоў па сходках. Лабадаеў пашоў услед за ім.

Каля высокага корпуса кацельнай Верхаўцоў спыніўся.

— Вы мне часам не пакажаце, як прайці да ліцейшчыкаў?

Не адказаўшы адразу на гэтае пытанне, Лабадаеў зноў пачаў прыглядацца да твару старыка:

— Гарасім!

Старык уважліва паглядзеў на Лабадаева.

— Не паверу, ніколі не паверу, няўжо Міця.

Яны доўга стаялі на месцы, моцна пацiскалі рукі і доўга аглядалі адзін аднаго, нібы спрабуючы сябе ўбачыць такімі, якімі яны былі многа гадоў назад.

## 2

Вікенці Сцяпанавіч Мажаеў—шчупленькі, высахшы. Ён нагадвае гумавы шар, з якога выпусцілі паветра. Зморшчакаваты. Твар, лоб, рукі, шыя, у даўгіх абвіслых складках. Пенснэ ў залатым абадку. У руках заўсёды кій, моцны, але ўродлівы, з нейкімі незразумелымі завітушкамі... Над параднымі дзвярыма ў чатыры пакоі кватэры Мажаева—мядзяная таблічка. Яна паказвае прафесію Вікенція Сцяпанавіча—доктар.

За плячыма шматгадовая практыка. Ужо вельмі даўно Мажаеў збіраецца ў цесным сямейным коле адсвяткаваць юбілей сваёй дакторскай дзейнасці. Але здарылася няшчасце: у часе нейкага чарговага пераезда, ён згубіў ручны чамадан з самымі блізкімі рэчамі. Там ляжаў, акуратна складзены, надрукаваны залатымі літарамі дыплом. На самым дне чамадана знаходзілася агорнутая ў пергаментную паперу фатаграфія выпуска. Як на зло падвяла памяць, і Мажаеў, не гледзячы ні на якія разлікі, не мог устанавіць, калі-ж гэта іх выпусцілі з апошняга курса медычнага факультэта Санкт-Пецярбургскага універсітэта? А калі дата згублена, і ўжо няма ўпэўненасці ў ёй—няма і юбілея.

Першыя гады практыкі Вікенці Сцяпанавіч лічыў сябе спецыялістам па ўнутраных хваробах... Потым Мажаева раптам пацягнула да дзяцей. Гэта была першая адзнака надыходзячай старасці. Пакінуўшы практыку і прыём, ён набыў дзесяткі кніг, прысвечаных хваробам дзяцей груднога ўзроста, дыетыцы харчавання. Гэты дзіўны старык раптам зрабіўся самым частым наведвальнікам дзіцячых ясляў і больніц... Потым з'явілася новая страсць, якая канчаткова вывяла Мажаева з каляіны нармальнага жыцця і работы.

Страсць прышла позна, ужо ў тую пару, калі паветра напалову пакінула гумовы шар... Ногі зрабіліся менш упэўненымі, кій ужо не быў проста забавай, а зрабіўся неабходным спадарожнікам старыка.

Аднойчы раніцой, у часе звычайнага шпацыру па алеях гарадскога сада, азалочанага асеннімі фарбамі, яго надзвычайна рэзка, нібы рукамі дакранаўся нехта да свежай раны, усхвалявала думка аб старасці.

Гады, нібы лісце, ападалі адзін за адным. Нябачна, як вечар на шырокія палі, надыйшла старасць. Але толькі цяпер ён адчуў яе вельмі востра.

Было ранне. Пустыя вуліцы, якія яшчэ не абудзіліся ад сна выглядалі змрочна і сумна. З горла жалезнага лебедзя, прыладжанага да каменнай пірамiды фантана, стомлена булькатала вада.

Мажаеў на момант спыніўся, але потым як-бы адчуў немагчымасць захаваць спакой, пачаў хутка закідваць кій і потым ужо нібы даганяць яго.

— Старасць, старасць, старасць, старасць,—ад частага паўтарэння гэтае слова згубіла сэнс, зрабілася няпэўным і незразумелым.

Нітка думак абарвалася і ён, пераходзячы з алеі на алею, задыхаючыся ад стомленасці, ніяк не мог адгавіць яе.

Вяртаючыся з парку пашоў самымі шумнымі вуліцамі. Было а дзевятай. Насустрач, займаючы шырыню тратуараў, заліваючы вуліцы, спяшаўся людскі паток. Ішлі школьнікі, спрытна лавіруючы ў густым натоўпе, спяшаліся да машынак, да сакратарскіх сталоў дзяўчаты. Паважна праходзілі немаладыя ўжо людзі, нібы выкарыстоўваючы для шпацыру гэтае сухое, але ўжо працятае асеннімі халадамі ранне.

Мажаеў з нейкай няўхільнай і яму самому незразумелай упартасцю заглядаў кожнаму ў вочы, углядаўся ў рысы твараў, прыслухоўваўся да гутарак, нібы спрабуючы разгадаць ці ўсе думаюць так як і ён аб старасці. Калі яму сустракаўся старык, Мажаеў, прыцішаючы крокі, узіраўся на яго асабліва доўга, абарачваўся. Сачыў за рухамі. Яго штурхалі, адштурхоўвалі да сцен магазінаў, але ён, як чалавек якога моцна захапіла кніга, нічога не заўважаў і не адчуваў.

Стрэлка на гарадскім гадзінніку, якія ганарліва ўзняліся на вышыню востраверхай вежы пераваліла за рымскую дзевятку. Людскі паток значна аслабеў.

Дома вельмі здзіўлены яго спазненнем. У сталовай ужо накрыта палова стала. Аднатонна шуміць самавар.

Варвара Сцяпанаўна, сястра жонкі, худая, высокая, у чорным, павольная ў рухах, наглядае за самаварам. Самавар—падарунак жонкі. Жонка памерла ў першыя дні рэволюцыі... Лютаўскія халады. Трывожныя вуліцы... Хто-ж выдасць дазвол на пахаванне?

У студэнцкія гады, Вікенці Сцяпанавіч які блізка стаяў да рэволюцыйных гурткоў, адчуў сябе ў гэтыя марозныя лютаўскія дні ў два разы ўсхваляваным. Смерць жонкі. Цяжкая глыба катастрафічных падзей, няўжо і ён у студэнцкім гуртку, які тайным парадкам збіраўся на квартэры курсісткі Званаровай, падрыхтоўваў гэтыя падзеі.

Варвара Сцяпанаўна хвалюецца. Дзе-ж Мажаеў? Некалькі разоў ёй здаецца, што ён стукае ў дзверы, яна падбягае да дзвярэй але стук не паўтараецца... Цішыня. Аднатонна мармыча самавар. Цікае гадзіннік.

Вікенці Сцяпанавіч стаміўся. Ад бясконцай змены твараў зрабілася мутна ў вачах. Яны пачалі слязіцца. А тут яшчэ аддышка... Мажаеў спыняецца, выймае насоўку, адкашліваецца... Потым зноў паволі пачынае ісці. Ісці дамоў.

З-за рога на цэнтральную вуліцу выходзіць высокі старык. Прычасаная барада. Прымружаныя вочы. Выпадкова сустрэўся. Мажаеў спыніўся і прапусціў яго наперад. Старык нахілам галавы прасіў прабачэння і пашоў далей.

Зараз яны разыйдуцца. Мажаеў налева. У апошні раз ён акідвае поглядам высокую фігуру старыка, нібы для таго, каб надоўга запамятаць яе і паволі уходзіць у завулак. Нечакана паварочваецца і старык. Мажаеў зноў спыняецца ззаду. Часамі яму хочацца дагнаць старыка і пайсці з ім побач... Мажаеў паскарае крок. Не, нельга і зноў ідзе цішэй.

Старык спыняецца каля парадных дзвярэй яго кватэры. Ён падымаецца на ўсходках, надзяе акуляры і доўга разглядае медзяную таблічку на дзвярах.

— Вы да мяне?—са здзіўленнем пытаецца Мажаеў...

Старык замест адказа паказвае рукою на таблічку.

— Так, так, гэта я доктар Мажаеў.

— У такім выпадку да вас,—усміхаецца старык.

Мажаеў далікатна прапускае яго наперад. Падымаючыся па лесвіцы старык называе свае прозвішча;

— Нікалай Верхаўцоў... Ведаеце, доктар, нешта з сэрцам дрэнна.

Варвара Сцяпанаўна чакае каля дзвярэй... З сталовай даносіцца шум самавара.

3

Восень. Неба пакрыта халоднай навалай хмар. Часамі ідзе дождж. Восень, нібы рашыла кожную секунду напамінаць аб сабе. Прывыкаеш. І раптам прабіваецца сонца. Нечаканая ўсмешка сонца ўспрыймаецца, як вялікая радасць.

На наступны дзень пасля сустрэчы з Лабадаевым, Верхаўцоў сабраўся да яго ў госці.

Праз асенняе неба прарвалася сонца і калі Верхаўцоў уваходзіў ў двор—яно блішчэла на вільготным даху, адлюстроўвався ў лужынах вады.

Для Верхаўцова ў гэтым горадзе кожная вуліца, плошча, заводская ўскраіна былі напоўнены хвалюючымі ўспамінамі. Тут—ён пашоў у вучні, тут першы раз трапіў у цэх, у гэтым-жа горадзе пачынаецца яго рэволюцыйнай біяграфія. Потым жыццё перакінула яго на цёплы поўдзень. Одэса. І ўжо эдсюль нібы ў пакаранне за сінь мора, за палаючае сонца, на даўгія гады жыццё перакінула яго ў таежную вёску далёкай Сібіры—Байдарку... У ёй ён адбываў ссылку. Навокал нібы турма лясы—густыя непрыступныя... Рэволюцыю сустрэў тут-жа ў забытай Байдарцы. Потым—вялікі сібірскі горад. Вір напружанай і нервовай работы. Здаецца яшчэ ўчора святкавалі першае пяцігоддзе Кастрычніка, а за ім ужо ішло другое і трэцяе... Гады не хочуць ні з кім лічыцца. Дала сабе адчуць і ссылка.

Старасць надышла магчыма нават раней, чым чакаў. Таварышы заўважылі, як ён часамі бляднее, сударгава хапаецца за графін з вадою. Не пападаючы цурком у шклянку, праліваючы ваду на сарвэтку, наліваў яго. Прагна піў і цяжка дыхаў, нібы пасля бегу. Тады яны зразумелі, што чалавек не заўсёды падпарадкаваны сабе і сталі пакрысе, каб не так кідалася ў вочы, адхіляць яго ад цяжкай, будзённай работы.

Верхаўцова як і раней выбіралі на ўсе важнейшыя з'езды, уводзілі ў кіруючыя органы, але гэта рабілася больш для гонару і, амаль заўсёды здаралася так, што ён аставаўся без нагрузкі. Аднойчы ў замаскаваным выглядзе яму прапанавалі пенсію і гэта нібы ветрам садзьмула заслону з таго, што так старанна захоўвалі... Верхаўцоў у першы раз не змог стрымаць сваіх пачуццяў. Пачырванеўшы ад хвалявання ён пачаў бегаць па габінету сакратара, пагражаючы перадаць ў кантрольную камісію справу аб недапушчальным растрачванні народных сродкаў.

— Мяне на пенсію, другога на пенсію, трэцяга на пенсію...

У гэты момант Верхаўцоў паглядзеў на сакратара і не дагаварыў сказа. Ён быў лішнім... Сакратар ішоў да яго насустрач з працягнутымі рукамі.

— Мілы дзед, я дазволю сабе так назваць вас, але-ж гэта жыццё. Падрыхтоўваючы новае пакаленне, мы мала думаем аб тым, з якім болем будзем пакідаць свае пасты. Мы мала думаем, а жыццё хавае ў сабе гэты дзень і ён набліжаецца.

Яго пасылалі на поўдзень. Не паехаў. Пацягнула ў той горад, дзе многа гадоў назад пачалося яго жыццё...

У Лабадаева ўжо чакалі Верхаўцова. Зноў старыкі круцілі адзін аднаго, вітаючыся доўга траслі рукі, нібы калі іх апусціць, дык зноў наступіць развітанне.

Не па гадах спрытная старэнькая Фёдараўна пабегла за віном. Яно нібы асвяжыла памяць і тады, часта перабіваючы адзін аднаго, яны заняліся ўспамінамі.

Яшчэ раз зашумеў самавар. Прышоў рабфакавец Пеця—сын Лабадаева. За сталом зрабілася шумна і весела.

Успомнілі сустрэчу.

— Міця, дык выходзіць ад Шварца нічога не засталося.

— Так Гарасім, Варашылаў яго здарова пацiснуў.

У чугунна-ліцейнай майстэрні Шварца пачалі яны сумесную работу. На месцы ранейшай майстэрні вырас металургічны камбінат імя Варашылава і тое, што камбінат імя Варашылава адціснуў і засланіў саматужныя майстэрні Шварца напоўніла іх вялікім невымоўным гонарам.

Пеця ўключыў радыё. Слухалі. Падымалі кілішкі за маладосць... Раптам Верхаўцоў змяніўся ў твары. Неяк адразу пацямнела ў вачах. Галава схілілася да стала. Барада, прыціснутая падбародкам, страшэнна мятнулася ў бок. Яго зараз-жа палажылі, адкрылі каўнер, напаілі халоднай вадой... Перапалоханая Фёдараўна хацела бегчы за хуткай дапамогай, але Верхаўцоў падняўся...

— Ды ты, відаць, Гарасім, ужо зусім трансмісію спыніць думаеш... Чорт, а мяне наш з завода доктар тры разы збіраўся спускаць на пенсію, а я яму ў адказ—рукой па цэху абвяду— рабі брат, што хочаш, а без гэтага, зарэж, не магу...

— Ну, як табе, Гарасім?

— Лепш, лепш,—адказаў Верхаўцоў і імкнучыся быць як-мага больш бадзёрым, пашоў да стала...

Потым за сталом, нібы нічога і не здарылася, зноў зашумела весялосць. Пеця зацягнуў партызанскую. Старыкі падтрымалі. Нават Фёдараўна не уцерпела.

Нібы незнарок Лабадаеў завёў з Верхаўцовым гутарку аб здароўі.

— Гарасім, што-ж табе гавораць дактары?

— Ды я ў іх і не бываю.

— Як-жа гэта, Гарасім? Нядобра! Трансмісія парвецца—сашываюць. Хочаш, не хочаш, а заўтра да доктара. Ты яшчэ горада не забыў, па Владзімірскай, ёсць там доктар такі—Мажаеў, дзівак, гавораць, вялікі, але нібы разумее...

Умяшалася Фёдараўна.

— Сам ты дзівак! Доктар вельмі добры. Схадзеце Гарасім Пятровіч, што-ж гэтага вы адразу пабляднелі, нібы жыццё з рук выпадаць пачало.

Радыё перадавала бой гадзінніка з Крэмлёўскай вежы. Слухалі „Інтэрнацыянал“, потым не утрымаліся, пачалі самі падпяваць.

4

Варвара Сцяпанаўна замкнула французскім ключом дзверы. Увайшлі ў сталовую.

— Выбачайце, дарагі пацыент, але я яшчэ не снедаў. Прашу і вас,— Мажаеў гестам рукі запрасіў Верхаўцова да стала. Варвара Сцяпанаўна, уся у чорным, нагадваючая сваім адзеннем манашку, на хвіліну вынесла самавар. Калі яго прынеслі зноў, ён запеў ўдвая галасней, нібы адчуваў, што ён зараз абкружан слухачамі.

Мажаеў хваляваўся. Налівалі гарбату. Мажаеў падсунуў Верхаўцову вазу з садавінай.

— Абавязкова ешче яблыкі. Вы не чыталі ў газетах, недзе ў Амерыцы ці ў Японіі—адшукалі старыка. Ён жыве амаль сто пяцьдзесят гадоў і харчуецца выключна садавінай і гароднінай. Гэта зусім магчыма. Мяне зараз, наогул цікавіць праблема старасці... Мажаеў сказаў гэта не падымаючы вачэй, размешваючы лыжачкай гарбату.— Выключна цікавая праблема. Канешне, нельга сцвярджаць, што яна новая. Ёю займаліся і будуць займацца яшчэ, бог ведае, колькі гадоў. Але я ўжо зараз прышоў да вывада, што вырашыць гэтыя пытанні, рабіць назіранні, вывучаць малейшыя змены ў арганізме, можа толькі стары. Старык-доктар, старык-прафесар, старык-даследчык.

Мажаеў гаварыў павольна, часта спыняючыся, не спускаючы вачэй з адной кропкі, нібы яму ўсё гэта прыходзілася аднекуль вычытваць.

Перайшлі ў габінет.

— Кожны пацыент, зразумела, думае, што доктар павінен яго агледзець, папаўзці па яго целу з слыхавой трубкай і потым ужо сказаць некалькі ісцін. Курыце?

Верхаўцоў узяў папяросу.

— Я лічу,—працягваў Мажаеў,—што трэба лячыць не толькі арганізм, але ўлічваць і прычыны, якія схіляюць арганізм да захворвання і хуткай старасці.

Верхаўцову пачала надакучваць гэтая філасофія. Ён адчуваў, што доктар збіраецца зрабіць над ім нейкія эксперыменты. Недзе ўнутры нарадзілася незадаваленне прыходам.

— Садзіцеся дарагі. Адпачывайце.

Верхаўцоў сеў каля вакна.

— Вы выбачайце за рад маіх пытанняў, але яны неабходныя.

Верхаўцоў кіўнуў галавою, паказваючы, што згодзен адказваць.

—Колькі вам гадоў?

Семдзесят восем.

— Вы матэрыяльна забяспечаны?

— Зусім. Персанальная пенсія.

— Адсюль трэба разумець, што вы нічога не робіце.

— Я некалькі гадоў назад пакінуў не па свайму жаданню работу, але грамадскія нагрузкі выконваю да гэтага часу. Смешна пакінуць мой вопыт, мае веды, неперададзенымі моладзі... на металургічным камбінаце я і цяпер...

Мажаеў не даслухаў да канца, рэзка перапыніўшы Верхаўцова:

— А вось гэта ўжо дарэмна, дарэмна і недапушчальна.

Мажаеў дробнымі крокамі забегаў па габінету.

— Ці разумееце вы, што ваш арганізм жыве апошнімі запасамі энергіі, што гэтыя запасы толькі вашыя, што ніхто не мае права пасягаць на іх, бо гэта старасць, а яна зразумела толькі нам, дасягнуўшым яе.

Гэтыя словы балюча ўдарылі Верхаўцова. Ён прыгадаў чорную жанчыну, якая сядзела за сталом. Рысы яе, вобраз манашкі—адчуваліся ўсюды і нават тут у асобным Мажаевым габінеце.

Верхаўцоў адчуў, што яму не хопіць сілы заставацца далей у такой атмасферы.

— Куды гэта вы, куды?—захваляваўся Мажаеў.—Не, вы паслухайце, я кажу праўду, я прадумаў, я вывучыў... Не аддавайце нікому апошніх запасаў...

Верхаўцоў ужо не чуў апошніх слоў.

Ён хутка прабег у сталовую, намацаў французскі ключ, стукнуў дзвярыма і вышаў на вуліцу.

Сонца зноў прарвалася праз коўдру хмар.

Я. БРАНШТЭЙН

# СЫМОН БАРАНАВЫХ НА РАЗДАРОЖЖЫ

## I

У барацьбе супроць беларускага нацыяналдэмакратызма за апошнія гады імя і прозвішча Сымона Баранавых скланялася на розныя лады. Пры гэтым звычайна бралася яго славутая нацыяналістычная імпрэсія „Маці“, надрукаваная да юбілею Янкі Купалы. Было-б наіўна думаць, што ўвесь творчы, ідэйна-палітычны літаратурны шлях Сымона Баранавых вычэрпваецца гэтай невялікай, па сутнасці бездапаможнай нацыянал-алегарычнай імпрэсіяй, бо па-першае, ідэйна-палітычныя памылкі Сымона Баранавых выходзяць далёка за межы гэтай невялікай нацыяналістычнай імпрэсіі, па-другое, нацыянал-алегарычная імпрэсія, пры ўсёй яе арганічнасці для нацыяналістычнай беларускай прозы, аднак не выражае сутнасці стылявога твору Сымона Баранавых, бо Сымон Баранавых, у першую чаргу, бытавік, натураліст з установкай на народніцкую ідэалізацыю „здаровага народнага нутра“, з установкай на ідэалізацыю фізіялагічна-стыхійнага пачатку, працей кажучы, „ідыятызма вясковага жыцця“.

Для таго, каб дапамагчы Сымону Баранавых вызваліцца ад гэтага рэакцыйнага грузу мы павінны разгарнуць перад ім у в е с ь пройдзены ім творчы шлях так, каб прымусіць яго глянуць новымі вачмі на ўсё напісанае ім і на надыходзячы для яго творчы пералом.

Гэты шлях невялікі. Сымон Баранавых увайшоў у беларускую прозу ў перыяд социялістычнай рэканструкцыі.

Чатыры аповесці вызначаюць асноўныя вехі гэтага шляху: „Чужая зямля“, „Межы“ „Два канцы“, перароблена пасля у „Мурaвейнікі“ і „Пастка“.

Хоць гэтыя аповесці напісаны Сымонам Баранавых ў розныя часы і ўяўляюць розныя стадыі яго творчасці, аднак, у іх ёсць адно агульнае—Сымон Баранавых ва ўсіх гэтых аповесцях расказвае аб вёсцы, аб совецкай вёсцы. Гэтую вёску ён ведае ў той меры, якая даступна пісьменніку пераважна наглядаючаму, кажучы словамі Леніна „заднюю гісторыю“. Гэта веданне дрэннае, бо з такога наглядальнага пункта пісьменнік не зможа бачыць г а л о ў н ы я п р а ц э с ы г і с т о р ы і, з такога наглядальнага пункта пісьменнік не зможа бачыць асноўных рухаючых сіл рэчаіснасці. Аднак, нават з такога наглядальнага пункта р э а л і с т можа даць рад э л е м е н т а ў аб'ектыўна-пазнавальнага значэння.

Дапамагчы Сымону Баранавых прарабіць складаны шлях перабудовы—гэта значыць разбудзіць с і л у р э а л і с т а, якая ў ім д р э м л е. На жаль, наша літаратурная крытыка вельмі мала зрабіла для таго, каб у гэтым сэнсе дапамагчы Сымону Баранавых. Паасобныя рэцэнзенты нават шкодзілі яму. Я падам два прыклады з рэцэн-

зіі аб творчасці Баранавых для таго, каб паказаць, як рэцэнзенты часам шкодзілі Сымону Баранавых, бо яны змазвалі перспектывы яго далейшага літаратурнага і палітычнага росту.

У артыкуле аб аповесці Баранавых „Чужая зямля“ малады рэцэнзент Куніцкі пісаў:

> „Паказаць у абвостранай класавай барацьбе, паказаць адбіваемы ў аповесці гістарычны момант ў гарачым класавым запале з боку працоўнага сялянства і асабліва з боку батрацтва Баранавых не мог у сілу таго, што той соцыяльны пласт серадняцтва, прадстаўніком якога з'яўляецца Баранавых, гэтай класавай вастраты, гэтага гарачага запалу не мог так адчуць, як адчуваў бядняк і асабліва батрак у гэты гістарычны момант.“

У гэтай рэцэнзіі, рэцэнзент, як бачыце, раіць Сымону Баранавых не рыпацца, а перманентна паўтараць зады таму, бачыце, што яму вызначана быць прадстаўніком серадняцтва і ў такім стане завяршыць свой літаратурны шлях.

Гэты суровы прысуд не перашкаджае, аднак тав. Куніцкаму закончыць сваю рэцэнзію наступнай сентэнцыяй:

> „Працоўнага чытача яна (аповесць „Чужая зямля“—Я. Б.) будзе запальваць класавай ненавісцю да кулацкіх ідэй, будзе запальваць творчым энтузіязмам у барацьбе за нашае будаўніцтва“ (Маладняк“ № 1—1931 г.).

Ці не дзіўна, што ў адной і той-жа рэцэнзіі то паказваецца, што запалу класавай барацьбы няма ў аповесці ды і не можа быць, быццам таму, што аўтар з'яўляецца прадстаўніком серадняцтва, а то тут-жа у канцы рэцэнзіі чытач даведваецца, што аповесць „запальвае класавай ненавісцю“!

Але справа не толькі ў блытаніне і супярэчнасцях ацэнкі гэтага твору. Бяда ў тым, што асноўная ўстаноўка рэцэнзента зусім няверная, бо калі мы маем справу з пісьменнікам, соцыяльная база якога павінна быць перароблена, перавыхавана ва ўмовах пролетарскай дыктатуры (з пісьменнікам працоўных дробна-буржуазных пластоў) мы павінны паказаць, чым ён павінен стаць, а не аб'ектывісцкі канстатаваць тое, хто ён ёсць. Паказаць такому пісьменніку перспектыву яго творчага шляху, умацаваць у ім веру ў неабходнасць і магчымасць яго перавыхавання, не змазваць, не апраўдваць яго „предрассудков“ заўсёды апеліруючы к яго „рассудку“ (як гаварыў Ленін)—вось наша задача.

Прывяду яшчэ прыклад з артыкула тав. Плашчынскага аб кнізе „Межы“ Баранавых. Тав. Плашчынскі сутыкнуўся з сістэмай вобразаў у якіх увасабляецца ўстаноўка Баранавых на стылізацыю і ідэалізацыю фізіялагічнага стыхійнага пачатку. Я пасля даведу, што гэтае праклаленне пісьменніка перад фізіялогіяй не з'яўляецца чымсці выпадковым, а адыгрывае вялікую ролю ў аповесці „Межы“.

Нельга зразумець гэты твор, без таго, каб не перакласці на мову палітыкі і соцыялогіі існасць узаемаадносін паміж Макрынай, Пракопам і Яўгенам. Што-ж робіць Плашчынскі? Плашчынскі канстатуе наліччa гэтага матыву і піша:

> „Фізіялагічнае ў тым плане, у якім яно пададзена ў аповесці „Межы“ не мае арганічнай еднасці з асноўнай сюжэтнай лініяй, з яе соцыяльнай накіраванасцю“ („Узвышша“ № 2).

Не верна, што гэты план, гэты матыў не мае нічога агульнага асноўнай сюжэтнай лініяй. Ён наадварот, уманціраваны моцна ў сю-

жэт, ён складае яго асноўны стрыжань. Тав. Плашчынскі, як відаць, не ўяўляе сабе што такое „стрыжнёвы матыў", вось чаму ён піша:

„Баранавых усёй заскарузласці, кансерватыўнасці поглядаў серадняка Пракопа проціставіў серадняцкую масу, якая пайшла ў калгас.

... У вобразе Пракопа мы маем прадстаўніка вельмі нязначнай часткі старога серадняцтва, якое не прымала калектыўнай гаспадаркі.

Толькі знешне-фабульны аналіз можа апраўдаць такую ацэнку. Некаторыя нашы крытыкі, у прыватнасці маладыя рэцэнзенты думаюць, што цэнтральны альбо перыферыйны характар матыву і асноўная ідэя вызначаецца публіцыстычнай рэмаркай пісьменніка. Гэта шкоднае заблуджэнне. Асноўным вызначаючым матывам мастацкага твора з'яўляецца той, які мастацкі найбольш насычаны, а не той, які раіцца пісьменнікам альбо крытыкай. Трэба навучыцца вычытаць ідэю твора не з „добрачыннай канцоўкі" яго, не са знешне-фабульнага лёсу герояў, а з мастацкіх кампанентаў стылю. Лёс героя, яго месца ў творы рашае творчая сіла, якою ён—герой—мастацкі ўвасоблен. Самыя добрачынныя намеры пісьменніка аказваюцца бяссільнымі, калі, напрыклад, яго адмоўныя вобразы мастацкі больш насычаны ніж станоўчыя.

Што такое аповесць „Чужая зямля" з пункту погляду знешне-фабульнага яе аналіза? Гэта расказ аб тым, як пераможная пролетарская дыктатура забрала „чужую зямлю", г. зн. тую зямлю, якую кулак лічыў за сваю, і перадала бедняку.

Калі выходзіць з такога знешне-фабульнага аналіза, дык перад намі тут твор, які праўдзіва адлюстроўвае рэчаіснасць, бо сапраўды пролетарская дыктатура экспрапрыіравала „чужую зямлю"—кулацкую зямлю і аддавала яе калгасам і соўгасам.

Але прааналізуем гэту аповесць з пункту погляду яе вядучага матыву, з пункту погляду асноўнага каларыта.

Я разгортваю кнігі „Чужая зямля", „Межы", „Два канцы". Што-ж я адчуваю, у першую чаргу? Я адчуваю пах зямлі, бачу сакавіты, лірычна-сагрэты вясковы пейзаж. Менавіта з гэтых старонак Сымон Баранавых ярка і сакавіта гаворыць мне-чытачу. Гэтыя старонкі ствараюць мастацкі лейт-матыў аповесцей. І людзі і падзеі эмацыянальна афарбаваны гэтым лейт-матывам. Паглядзіце, які ўстойлівы гэты лейт-матыў у Баранавых:

„А лес... О, бедны лес! Колькі тлее твайго цудоўнага хараства.

Колькі зялёных ветак завяне пад агнём—засохне. Колькі ты даваў жыцця для людзей, а людзі апавілі цябе дымам" („Чужая зямля", стар. 82).

Гэты ўрывак з пейзажа, пададзенага ў кантэксце апісання грамадзянскай вайны. Баранавых сумуе па ўвядаючай прыгажосці лясоў. Баранавых з дакорам гаворыць аб людзях (якіх?), што „апавілі дымам" і скрамсалі гэтую прыгажосць у сваіх класавых бойках.

Чалавек, скарыся перад зялёнай веткай, перад маці-прыродай!—такі матыў для аўтара не выпадковы. Ён кананізаваны ў беларускай псеўда-народнай, нацыяналістычнай прозе. Ён заўсёды ўжываўся для таго, каб проціставіць адвечнае хараство прыроды „дробным клопатам" класа і яго барацьбы.

Я разгортваю наступную кнігу „Межы" і чытаю прыкладна такі-ж лірыка-пейзажны ўступ да падзей, якія здаваліся-б зусім не гарманіравалі з падобным пейзажам:

Я дазволю сабе падаць вялікі ўрывак:

„Стоячы на ўзгорку, за Бродам, яшчэ можна было-б пачуць—прыслухаўшыся добра—невядомыя гукі ад нябачных чалавечым вокам істот, у атуляючай імгле,—гэта спевы зямлі. Яна такая чорна-чорная пасля белага снегу! Яна такая мяккая, набрэнкшая, жывая. Во-во, здаецца, яе гукі ператвараюцца ў голас і загамоніць яна, вечна-маўклівая... пачне апавядаць пра цэлыя вякі мінуўшчыны. О, колькі ведае, чаго ведае кожная пядзя зямлі. Кожная падзя, чорная жывая, дыхае свежасцю. Ляжыць раскінуўшы свае прасторныя грудзі і дыхае поўна імі, жывымі. Прыслухаўшыся, можна-б пачуць у невядомых гуках новыя спевы... спевы радасці пасля адвечнага гора і слёз."

Чорная, чорная зямля! Вось яна—крыніца жыцця. У яе нетрах шукайце тайну жыцця, тайну Пракопа і Макрыны. Усё ёй падуладна. Яна мірыць супярэчнасці жыцця. Яна мірыць усё існуючае—маці-прырода!

„Маці вясна параскіданыя свае дні пазбірала: ад людзей ісці сабралася ў прочкі. І нішто да старой-маткі вясны не адклікнулася павагаю.

Забыліся людзі, што жыла вясна для іх птушынымі галасамі ды яркім рэхам трубы пастуха Аўдзея...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

..."І каму не давала лета толькі сваіх падарункаў: і добрым людзям і сярдзітым...

Наце бярыце мяне—гаварыла сваімі зялёнымі днямі—пацеху маю трымайце, а я за вас буду рада. Не сварыцеся толькі паміж сабою" (аповесць „Два канцы").

„Не сварыцеся толькі паміж сабою"—вось традыцыйная філасофія гэтых народніцкіх пейзажаў. Вось для чаго аўтар мабілізуе пурпуровыя ўсходы і захады сонца і „спевы зямлі" і „цудоўнае хараство лясоў", якія гінуць у агні грамадзянскай вайны...

„Скарыся чалавек перад прыродай!"

„Не сварыцеся толькі паміж сабою".

Я вам прывёў тры апісанні пейзажаў з розных аповесцей Сымона Баранавых і пытаюся, ці можа крытыка прайсці міма іх.

Не, адказваю. Трэба ведаць ролю падобных пейзажаў ў нацдэмаўскай эстэтыцы, каб зразумець іх значэнне.

## II

І вось на фоне гэтай, расстрэлянай грамадзянскай вайной, змучанай людзьмі маці-прыроды разгортваюцца ў аповесці „Чужая зямля" своеасаблівыя „спрэчкі Івана Іванавіча з Іванам Нікіфаравічам" аб тым, чыя вера „больш далікатная"—каталіцкая ці праваслаўная.

Іменна, такі асноўны каларыт жыцця і прыгод двух кулакоў—Макара Клямкі і Янака Трамбіцкага: стылізаваная ідылія гогалеўскіх „міргарадскіх" шляхцічаў. Іменна таксама, як Іван Іванавіч і Іван Нікіфаравіч пададзены з уласцівым Гогалю ідылічным юмарам, з уласцівым Гогалю лірызмам, гэтыя два кулакі-шляхцічы пададзены Сымонам Баранавых ў сваім быце дабрадушнымі, смешнымі „старасвецкімі памешчыкамі".

Адзінай супярэчнасцю,—гаворыць аўтар,—у жыцці гэтых двух кулакоў—польскага і беларускага, былі спрэчкі аб тым, якая вера таўсцейшая і якая танчэйшая.

Побач і імі віднае месца займае у аповесці другая пара: сын і дачка гэтых двух шляхцічаў—Ромусь і Лёля. Яны таксама пададзены у лі-

рыка-ідылістычным плане. Малады хлапец і дзяўчына кахаюць адзін аднаго. Гэты матыў кахання праходзіць яркай істужкай па ўсёй аповесці, яшчэ больш саграваючы яе лірычным і старасвецкім ідылічным цяплом. Ромусь і Лёля—гэта узноўленая, на новым пакаленні, старая традыцыя старасвецкай ідыліі з адпаведнай сантыментальна-любоўнай афарбоўкай.

Пачытайце дзённік Ромуся-дызертыра, і вы ўбачыце, што яго журба па дому—гэта ў першую чаргу журба па каханай дзяўчыне, г. зн. „агульначалавечая" журба, якую павінен прабачыць „любвеобильный" чытач.

Дзённік Ромуся наогул выклікае рад мысляў аб ролі дзённіка, як прыёма разгортвання вобраза. Я не хачу гаварыць катэгарычна, але лічу, што мы падыйдзем блізка к ісціне, калі скажам, што дзённік—гэта найбольш няўдалая для нашага часу мастацкая форма ў паказе класавага ворага. Бо што такое дзённік ворага? Гэта своеасаблівая „споведзь душы яго". Не можа-ж вораг на старонках дзённіка самому сабе шкодзіць! Марксізм таму і папярэджвае, што „людзі ўяўляюць сабою не тое, што яны аб сабе думаюць". Дзённік часцей за ўсё (хоць не заўсёды) даваўся пісьменнікам тады, калі патрэбен быў паказ вобраза „з нутра", з акцэнтам на складанейшыя перажыванні гэтага вобраза. Ці-ж можа Баранавых справіцца з падобным паказам ворага „з нутра" без таго, каб не ўшляхетніць яго? Не, не можа.

Некрытычны выбар такога жанра ў паказе актыўнага класавага ворага Ромуся-дызертыра, шпіёна, дыверсанта, без сумнення больш акрэслівае вобраз (дадатна!), чым цнатлівая канцоўка, чым рад публіцыстычных рэмарак, якія гавораць аб адмоўных палітычных адносінах аўтара к гэтым вобразам.

Хто з вас кіне камень у гэту ідылічную групу закаханых?

Можна меркаваць, што сам Баранавых адчуў, што ўжыванне прыёма дзённіка пры разгортванні вобраза Ромуся нават лагічна недапушчальны, бо Ромусь адсталы вясковы хлапец, які ўпяршыню,—так расказвае Баранавых,—будучы мабілізаваным, сеў у цягнік. Для таго, каб сістэматычна весці дзённік, трэба мець нейкую пэўную культурную вывучку, дысцыпліну. Не можа гэты, зусім некультурны вясковы хлопец, весці дзённік, яшчэ хоць бы і таму, што ён—шпіён—знаходзіцца ў Чырвонай арміі, дзе яму ўвесь час пагражае вобыск (што да рэчы заўважае і сам аўтар аповесці). Таму незразумела чаму Баранавых ужыў гэты прыём, калі не ў мэтах ідэалізацыі вобразаў.

Хто-ж проціпастаўлен гэтым „сімпатычным людзям"?

З часам, калі я перайду к разбору двух другіх аповесцяй, вы ўбачыце, што і тут і там, напорыста, лірычна-цёпла і сакавіта апісаны іменна адмоўныя вобразы, здзіўляючыя сваёй сілай чытача, засланяючыя сабою увесь астатні тыпаж і ўсякія „цнатлівыя канцоўкі". Станоўчы-ж тыпаж на рэдкасць несакавіты, шэры, дан пункцірам.

Вось у „Чужой зямлі", чалавек, які вырас у дыме грамадзянскай вайны Атрахім—совецкі чалавек, бядняк. Прыгледзьцеся да яго—як глуха гаворыць аб ім аўтар!

„Атрахім—хлапец 1905 года нараджэння. Моцны, связлы хлапец, смелы, дасціпны."

„Атрахім ад старшыні валвыканкома перайшоў на пасаду намесніка старшыні губвыканкома."

Вось і ўсё, што мы даведаліся аб ім. Выключная скупасць! А гэты-ж Атрахім ад першай старонкі аповесці да канца праходзіць вялікі шлях. Ён—звычайны вясковы хлапец—становіцца намеснікам стар-

шыні губвыканкома. Як-жа ён прайшоў гэты шлях? Якія супярэчнасці, пакуты і радасць гэтага роста—усяго гэтага вы не знойдзеце ў аповесці.

З боку з н е ш н е-ф а б у л ь н а г а аналіза ўсё абстаіць добра—Атрахім перамог! Вырас! Але мастацкі, па мастацкай інтэнсіўнасці малюнка вобраз Атрахіма недарэчны, шэры ў параўнанні з лірычна-чулым пейзажам расстрэлянага лесу, у параўнанні з ідыліяй спрэчкі паміж двума шляхцічамі, у параўнанні з закаханай парай і дзённікам, у якім адлюстроўваецца „набалеўшае сэрца“ шпіёна, дызертыра і дыверсанта.

Ёсць яшчэ ў гэтай аповесці комуніст Сініцкі. Але гэта—„голы звер“, кар'ерыст, нягоднік, які вызначае сваю ролю словамі: „Я на пасадзе, я апрадзяліўся“. І вось гэты „комуніст“ бескантрольна кіруе зямельнай палітыкай у раёне!

Пры такой расстаноўцы вобразаў, пры такой прапорцыі мастацкай выразнасці эфект атрымліваецца вядомы: ідэалізацыя аджываючага, рэакцыйнага, пасіўнае назіранне „задняй гісторыі“.

Пераходжу да наступнай аповесці Сымона Баранавых—да аповесці „Межы“. Знешне-фабульна і тут „усё абстаіць добра“; шкоднік пакараны, вёска пераходзіць у калгас, а што датычыцьстаноўчага тыпажа, то тут намечана група людзей, якія праціпастаўлены адмоўным чынам.

Але давайце і тут у аналізе аповесці „Межы“ глядзець „у корань“. Што-ж з'яўляецца, п а с і л е п а э т ы ч н а г а в ы р а ж э н н я, лейт-матывам гэтай аповесці?

Скажам проста, па сіле паэтычнага выражэння лейт-матывам гэтай аповесці з'яўляецца фізіялагічная першабытная стыхія, стыхія цела, стыхія „ідыотызма вясковага жыцця“, перад якой пракланяюцца ўсе і ўсё.

Ніхто з нас не можа адмаўляць, што к часу „вялікага пералома“, аб чым гутарка ідзе ў аповесці „Межы“ (першыя гады калектывізацыі) немала было сёл, у якіх совецкі апарат працаваў вельмі дрэнна. Але калі раней апазіцыянеры, ідэолагі ашалеўшай дробнай буржуазіі ў нашай партыі, а потым адкрытыя ворагі совецкай улады і нашай партыі (трацкісты) узводзілі паклёп на совецкую сістэму і гаварылі, што кулакі захапілі нашы советы—мы давалі ім рашучы адпор.

Цяпер прыгадайце першыя старонкі аповесці „Межы“, у якіх аўтар знаёміць вас з выбарамі ў сельсоветы:

„Пакуль галасаваць, ці за таго, ці за другога—ужо было вырашана.

— Ува што-б то ні стала—Яўгеня!

— Няма там чаго адвільваць!

— У хаце ўтраіх!

Па вёсцы гаманілі, што ніхто з іх, з Бурцелікаў,—ага!—ці цеперся— н е с л у ж ы ў. Бацька як служыў н е к а л і старастам, дык і ўсяго-ж. Так што гэта яшчэ аж перад вайною. І таму—у ж о, ц і ц е п е р с я, п а д ы й ш л а ч а р г а. І ніхто за іх, за Бурцелікавых, не будзе в ы с л у ж в а ц ц а.“

Вось яны „выбары ў совет“!

Калі паўстае пытанне, каго выбіраць кіруюцца тым, што выбраць трэба чалавека безгаловага і несумленнага „бо на пабягушкі ніякага сумлення такоўскага не патрэбна.“

У нашай літаратуры вельмі мала зарысовак работы нашых нізавых совецкіх ячэек і вось перад вамі жанравы малюнак на гэтую тэму, напісаны, без усякага сумнення, са значнай юмарыстычнай сілай.

Я заяўляю, што гэта жанравая сцэнка мастацка больш сакавіта і мацнейшая за многія знешне-фабульныя моманты ў гэтай аповесці,

але совецкая канстытуцыя тут мастацка скампраметавана, г. зн. скампраметавана палітычна мастацкімі сродкамі!

Вось на якім фоне пачынаецца барацьба за калектывізацыю.

Глухі, ненатуральна глухі фон!

Хто-ж вядзе гэту барацьбу, хто гэтыя людзі, якім трэба разварушыць гэту дасовецкую глуш?

„Чалавек з райкома вытлумачыў пра задачы комсамольскія, пра іхнюю работу“—вось і ўсё!

Які гэты таямнічы „чалавек з райкома“—невядома.

Мясцовы перадавік Ахісь, які вядзе барацьбу за калгас, палітычна непісьменны. Бо чым калі не палітычнай непісьменнасцю можна назваць яго прапаганду калгаснага жыцця, якая выражаецца ў наступным абмене думкамі:

„Дык добры ета рахунак: Матруна будзе жыць і я буду жыць. Нараўне.

Дык якая-ж мне ад етага выйгранка?

То-тож што няма выйгранкі—казаў Анісь.

— У гэтым увесь факт.

— Дык тады ета і лякціву не трэба“.

Ясна, што ўстаноўка на ўраўнілаўку ў калгасе павінна сустрэць адпор з боку кожнага, мала-мальскі палітычна пісьменнага актывіста, а не словы аб тым, што „то-то-ж няма выйгранкі“. „Без выйгранкі“, асноўная маса сялянства ніколі не пайшла-б ў калгас.

Ёсць яшчэ вобраз, які з пункту гледжання знешня-фабульнага з'яўляецца станоўчым. Ён стварае працівагу Пракопу і кулакам—гэта вобраз Яўгеня.

Але паглядзіце, як Баранавых характарызуе гэтага чалавека, якому трэба перамагчы не толькі ідэйна, але і мастацка, сакавіты, моцна зроблены вобраз Пракопа:

„Яўгень невысокага росту, але звязлы такі, карчукаваты, шыракаплечы. Блакітныя маленькія вочы. На губах—невялічкія тупа завітыя русыя востраканечныя вусікі. Ён іх накручвае, хоць і марудна ўзяць іх кончыкі ў два пальцы. Яўгень поўны з твару. На пераноссі, на самай седлавіне яго, рассыпаны кроплі, як на цецярукова яйку, кроплі рабаціння.

Любіць Яўгень прасторную вопратку. У яго—каб прымеў ён,—кашуля не павінна нідзе датыкацца. Рукавы павінны быць без манжэтаў. Каўнер на штрыфлях.

Есці любіць Яўгень, як і яго бацька, кіслую капусту, буракі. Рэдзька з цёртым пер'ем цыбулі. Хрэн. Картофлю ў „мундзярох“. Піць любіць бярозавы кіслы сок і хлебны квас. Мо'затым і дужы Яўгень, што любіць усё кіслае“.

Дзіўная „социяльная“ характарыстыка вобраза сельскага актывіста! Ён, бачыце, любіць квас піць, любіць буракі і рэдзьку, любіць насіць прасторную вопратку. Вы скажаце, гэта выпадковы знешні яго партрэт. Не, гэты партрэт спецыфічнымі сродкамі партрэта дае ўяўленне чытачу аб пэўным социяльна-псіхалагічным тыпу, аб нейкім мяккацелым, бязвольным, я-б сказаў нават прыдуркаватым і паталагічным чалавеку. І сапраўды, далейшае фабульнае развіццё паказвае, што Яўгень такім з'яўляецца. Цяпер параўнаем яго з дзедам Пракопам.

Які сакавіты, моцны каранасты вобраз! Пракоп з першых-жа радкоў пакарае вас сваёй магутнасцю:

„... Стары мусіць быў дужы. Не такім быў як цяпер Яўгень... Даўнейшыя людзі дужыя... Што ён цяперака робіць?

... Ён мусіць як быў малады... Які ён цудны... Я ніколі больш не сустрэнуся адно на адно. Я ніколі, ніколі... Яго гэта барада..."

У вобразе дзеда Пракопа аўтар даў самабытна-магутную фігуру славутага народніцкага дзеда, у якім увасоблена журба народніцкай і кулацкай інтэлігенцыі па „добраму старому патрыярхальнаму часу", па бязмежнай стыхіі ўласніцтва. Паглядзіце на Пракопа, на яго „пакарабачаны гадамі і маршчынамі карак... абросшы ўскалмачаны непадстрыжанымі валасамі, як ніцаю лазою", паглядзіце на яго бараду, на расхрыстаныя грудзі—ці-ж не прыгадваецца вам гамсунаўскі „Пан", няхай у сельсовецкім маштабе!

А журба Гамсуна па антычнаму „вялікаму Пану"—ці-ж не атрымала яна сваё паслядоўнае выражэнне ў апошніх захапленнях Гамсуна кулацкай рамантыкай „сокаў зямлі"!

Гэты матыў з'яўляецца вядучым ў аповесці „Межы".

Сілай сваёй мастацкай выразнасці ён перавышае па сутнасці ўсе астатнія матывы.

Вось вышаў народ у поле. Прырэзваюць зямлю маладому калгасу.

„Год вялікага пералому"!

Канец уласніцкаму свінству, галечы, ідыятызму вясковага жыцця!

Канец кулацкай кабале!

Якія яркія патэтычныя фарбы!

Які магутны соцыяльны рэзананс!

Але гэта не датычыць аўтара!

Ён увесь у палоне Пракопа, таксама як яго Макрына (вобраз маладой перадавой сялянкі).

Макрына ў натоўпе, на полі. Але яна ходзіць па маладой калгаснай зямлі, як чужая. Я-б нават сказаў,—як лунатык, прымаючы пад пад увагу асаблівы яе напоўпаталагічны стан. Яна бачыць перад сабою толькі старога—яго „пышную бараду", яго магутнае цела.

„Даўнейшыя людзі дужыя"—шэпча яна... „Не такія, як Яўгены!.. Які ён цудны!.."

Гэты вобраз прыцягвае яе са злавеснай сілай, як магніт—тлумачыць аўтар. Ён яе не пакідае нават на комсамольскім сходзе (чым не Мефістофель і Маргарыта!).

Вось як Сымон Баранавых разгортвае гэты ідэйны паедынак паміж комсамольскім „добрым духам" і „злым духам", увасобленым у вобразе ўпартага ўласніка, вернага „заветам продкаў", „моцнага мужыка"—дзеда Пракопа. Макрына на комсамольскім сходзе:

„Але перапыняе Макрыніну думку другая выразнасць, і яна як бачыць яе, як перад самымі вачыма сваімі:

... Калашманогі стары. Як стаіць на нагах—моцна стаіць. Упэўнена, вольна... Смела. З нейкаю сілаю, што як магнес.

Тады, каб заглушыць, каб не чуць свайго нутранога голасу яна слухае.

— ... Змагаючыся з багацеямі, ствараючы моцную змычку з серадняками, комсамол мае своей асноўнай апорай беднату...

— Дзе ён цяпер, пра што ён думае цяпер... Стары".

Пафас комсамола, пафас маладога калгаснага ладу, пафас класавай барацьбы—усе гэта развейваецца як дым перад тварам гэтай „таямнічай сілы цела".

Нарэшце звярніце ўвагу, як выкрываецца шкодніцтва Пракопа. Макрына, пад уплывам „нейкай невядомай сілы" нават ноччу не можа заснуць. Яна выходзіць на двор, яна шукае дзеда і... напатыкае шкодніцтва, якое наладжвае дзед сумесна з другім кулаком.

Ці-ж можна пасля гэтага гаварыць аб другараднай ролі „трыкут-

ніка"—Пракопа—Макрыны, Яўгеня? Той знешня-фабульны факт, што Пракоп аказваецца шкоднікам і пакараны па заслугах, не змяняе становішча. Перамог (мастацка, а значыцца і палітычна) адвечны, самабытны „беларускі дзед".

Пераходжу цяпер к аналізу трэцяй аповесці Сымона Баранавых „Мурaвейнікі" („Два канцы").

III

Дапамагчы такому пісьменніку, як Сымон Баранавых, у яго творча-ідэйнай перабудове можна толькі прынцыпова-непадкупнай крытыкай яго памылак, канкрэтнай дапамогай у перамаганні іх.

Жорсткай крытыцы творчасць Сымона Баранавых падвяргалася ўжо не адзін раз. Папярэднія раздзелы сведчаць аб тым, што гэтая крытыка была неабходна і поўнасцю абгрунтавана. Цяжкі груз нацыянальнай абмяжаванасці, нацыяналістычна-народніцкіх прадрассудкаў моцна даваў сябе адчуваць на творчасці гэтага пісьменніка.

Натуралістычная блізарукасць перашкаджала пісьменніку „глядзець у корань" рэчаў, бачыць дыялектыку рэчаіснасці, пазнаць яе рэвалюцыйную логіку. Сымона Баранавых паглынаюць бясконцыя, расцягнутыя дыялагі, ад якіх вее журбой „ідыотызма вясковага жыцця".

„Паладзя слухала, што кажа суседка, забылася на рудага парсючка, забылася, што дровы падпалены ў печы і што не папрыстаўлены гаршкі".

Ці-ж не так Сымон Баранавых піша свае аповесці?

Ён не можа абыякава прайсці міма баб, што гутараць каля студні, ён любуецца стыхіяй іх моўнага патоку, алагічнай структурай іх сказу, правінцыяльнай раскарачанасцю іх лёксікі. Ён сам пачынае гаварыць іх мовай. Ён „забываецца на рудага парасючка"—ён забывае дысцыпліну сюжэта і багна н а т у р а л і с т ы ч н а г а  а п і с а л ь н і ц т в а, пачынае яго засмоктваць.

І гэта, не гледзячы на тое, што падзеі, якія ён апісвае, насычаны вялікімі сюжэтнымі магчымасцямі.

Ён увесь час хістаецца паміж пасіўна-сузіральным, статычным натуралізмам (з дыяпазонам суседкі Паладзі) і сенсацыйнай дынамікай павярхоўнага прыгодніцтва (шпіоны, шкоднікі, спекулянты).

Ён-то любуецца сялянскім чалавечым прымітывам, то кідаецца ў абдымкі псіхакапальніцтва з намёкам на нешта „падсвядомае", „страшэннае". Нярэдка ён сам ад свайго ўласнага аўтарскага імя гаворыць „філасофскія"сентэнцыі.

Я прывяду прыклады:

„Гэта была іх хвіліна, але яны не ведалі аб гэтым. І г э т а  т а к  з а ў с ё д ы:  ч а л а в е к  н і к о л і  н е  м о ж а  в е д а ц ь  т а г о  в ы ш э й ш а г а  п у н к т у,  я к і  б ы в а е  я г о  н а й б о л ь ш а ю  р а д а с ц ю,  я г о найбольшым шчасцем у жыцці...

А між іншым не ведае таго чалавек, што перажывае цяпер, п е р а ж ы ў  я г о  ў ж о."

А вось другое месца:

„Але-ж жыццё людское не брат ветру, не таварыш; жыццё людское—глыбіня крынічная. Глядзіш зверху і як-бы нічога няма—адно гладкае дно...

Мудрая штука—жыццё. Колькі бур хавае яно ў сабе, колькі скрыжаваных дарог!"

Думаю, што дарэмна тут гаварыць аб выключна „нізкай столі" (гаворачы мовай лётнікаў) гэтай „філасофіі". Банальная „жыццёвая мудрасць" аб тым, што „чалавек ніколі не можа ведаць таго вышэй-

шага пункта" і г. д.; банальна-сантыментальная філасофія (ды яшчэ ў бездапаможна-„паэтычнай" прозе) на тэму аб тым, што бачыце, „мудрая штука жыццё,"—гэта, сапраўды, зусім не да твару совецкаму пісьменніку. Я прывёў толькі некалькі прыкладаў.

Думаю, што не перавялічу, калі скажу, што ў нашай прозе небяспека гэтага таннага „философствования" вельмі вялікая. Некалі праф. Піотуховіч пісаў, што душы беларуса ўласціва філасофская сузіральнасць. Бярэ мяне сумненне наконт гэтай расавай асаблівасці таямнічага „беларуса", асабліва пасля таго, як беларускія рабочыя і сяляне недвусэнсоўна паказалі, што яны не „філасоўствуючыя сузіральнікі", што яны не толькі тлумачаць свет, але і змяняюць яго.

Ва ўсякім выпадку барацьба за інтэлектуальнае багацце нашае прозы (а такая барацьба неабходна) іменна і дыктуе патрэбу зжыць вышэй цытаванае мудрагельства.

Але вернемся да аповесці „Муравейнікі".

Ці-ж вызваліўся тут С. Баранавых ад усяго гэтага ідэйна-творчага груза мінулага?

У значнай меры не вызваліўся.

І тут перад намі ў наяўнасці тыя-ж з'явішчы, аб якіх мы гаварылі вышэй. Калі не стаць на пункт гледжання знешня-фабульнага аналіза, дык і тут акажацца мастацкая гіпертрафія адмоўнага тыпажа і рэзкае малакроўе станоўчага.

І ў гэтай аповесці калгас напоўнен і кіруецца кулакамі і ворагамі з партбілетам у кішэні.

Неяк мімаходзь прыгадваецца моцны хоць і малады бродаўскі калгас, з сухім пералікам яго поспехаў, але нажаль не туды накіраваны позіркі аўтара.

Калгасны і совецкі актыў і тут вельмі скупа намечан. Ды і апрача таго ён выкрывае ў сабе рад абураючых палітычных дэфектаў.

Узяць хоць-бы Ваціка—арганізатара калгаса, рабочага. Як дзіўна ён тлумачыць палітычную і соцыяльна-эканамічную сутнасць калгаснай сістэмы:

„Нашу фабрыку, завод можна зваць калгасам; вашу гаспадарку трэба зрабіць так, каб можна было называць заводам."

Папулярызацыя вельмі шкодная. Нельга змешваць соцыялістычны завод з калгасам. Прапагандыст і арганізатар, які не разумее гэтага, наўрад ці зможа быць карысным у справе калгаснага будаўніцтва.

Хоць трэба тут-жа заўважыць, што ў радзе канкрэтных выпадкаў Вацік аказваецца чулым, свядомым работнікам.

Гэтаму ледзь намечанаму станоўчаму вобразу праціпастаўлена шматлікая, зарысаваная з асаблівым смакам і стараннасцю галерэя ворагаў калгаснай сістэмы.

З якой сілай і ўпэўненасцю яны праходзяць па старонках аповесці! Яны часамі здаюцца непераможна-сакрушальнымі.

Некаторыя сцэнкі пакідаюць жахлівае ўражанне.

Вось старшыня сельсовета Харытон. У яго ў кішэні партыйны білет. Гэты білет дае яму неабмежаваную ўладу і ён разышоўся ва-ўсю. Ён—увасабленне самага наглага лявацтва, якое, фактычна, на справе, змыкаецца з кулацкай палітыкай. Ён раскулачвае беднату, пад кулацкую дудку, з совецкай фразай на вуснах.

Аўтар клапатліва вырысоўвае самыя найдрабнейшыя дэталі цынічнай расправы старшыні сельсовета над белняком. Ён, я-б сказаў, праяўляе тут выключную віртуознасць і садызм.

Вось іменна: садызм.

„Едзе ён з маладою сваёю з ЗАГС'у. От яны зараз пад'едуць, а іх будуць сустракаць... з гармонікам, з вясельнымі песнямі. Яны пойдуць у хату, а іх вітаць будуць...“

Так члену партыі, старшыні сельсовета Харытону прадстаўляецца яго паездка на раскулачванне бедняка.

Побач з ім,—старшынёй сельсовета,—у брычцы сядзіць яго будучая „маладая“, якая нелегальна працуе па заданнях дыверсантаў,—шпіонка Міхля.

Харытон і Міхля—у ролі „будаўнікоў“ калгаса!

Але гэтага цынізма мала аўтару. У выключна яркай і злой сцэне ў кватэры бедняка гэты цынізм дасягае свайго апагея. Харытон прымушае сынка бедняка акампаніраваць раскулачванню і граць на гармоніку „белая армія, чорны барон“. Маці плача, шпіонка Міхля яе пацяшае, а нарэшце Харытон прысвойвае сабе гармонік.

З пункту гледжання знешня-фабульнага аналіза і ў гэтым нічога страшэннага няма, бо ў канцы канцоў „совецкая цнота“ перамагае і меч рэволюцыі апускаецца на галавы Харытона, Міхлі, кулака Танцулькі і іншых.

Але падумайце, які глыбокі след пакінуў ў галаве чытача вышэй прыведзены эпізод! Надрукаваная ў 1931 г. у разгар барацьбы за калгас, у першыя гады гэтай барацьбы, гэтая аповесць немінуча павінна была запалохаць асноўную сялянскую масу зданню Харытона, Міхлі, Танцулькі і затармозіць іх прыліў у калгас.

Гэта бясспрэчна!

Баранавых не зразумеў, што пры адсутнасці мастацкай меры паказ наступлення класавага ворага на калгасы ператвараецца ў панікёрскае перавялічванне ролі класавага ворага, у смакаванне яго перавялічанай магутнасці.

Гэта адносіцца таксама да паказа вобраза кулака Танцулькі—старшыні калгаса.

Побач з бледна-абрысаванай галярэяй совецкага, калгаснага актыва сакавітая, магутная фігура Танцулькі прыметна выйгрывае. Танцулька разумны, разбітны. Сапраўды здзіўляешся той хітрай сістэме „ціхай сапы“, якую кулак Танцулька праводзіць у сваёй калгаснай практыцы.

Ён праводзіць прынцып ураўнілаўкі, каб сыграць на інстынктах адсталых мас і разбурыць калгас. Ён вядзе тыповую тактыку „ціхай сапы“, аб якой гаварыў у сваім дакладзе тав. Сталін.

„Жызні інакшай не відаць. Жызня наша падышла да кліна і далей ісці ёй няма куды. Я цяпер нічога свайго не шкадую. Усё аддаю на абвагуленне,“ так кажа кулак Танцулька.

Ён ужывае „хітры“ кулацкі метад разбурэння калгаса пад фальшывым сцягам „сустрэчных планаў“.

„Я вельмі радуюся, што мы вывезлі збожжа на станцыю. Нам трэба-б здаць трыста пудоў, а мы вывезлі пяцьсот дзевяноста... і для ўлады мы на воку і для сябе карысна. От цяперака ўжо няма хлеба як у Петрыка, ды ў Старавойта; калі ласка: улада з'ела вашу работу“.

Якая моц!

Які мізэрны і бяссільны ў параўнанні з ім рабочы Вацік і ўвесь калгасны актыў!

Вось дзе корань зла!

Сымон Баранавых спатыкаецца „кажинный раз на эфтом самом месте“.

Але тут нельга прайсці міма аднаго вельмі выдатнага факта: веданне совецкай вёскі, няхай яно аднабаковае, „ущербное“, накіроўвае рэаліста Баранавых на рад праўдзівых зарысовак рэчаіснасці. Вобраз кулака Танцулькі і агаленне яго сістэмы „ціхай сапы“ з'яўляўся ў 1931 г. каштоўным укладам у беларускую прозу. Веданне быта вёскі відаць на многіх старонках аповесцяй Баранавых. Гэта лепшыя найбольш карысныя бакі яго творчасці, якія маюцца ў аповесці „Межы“. Яны маюцца ў радзе яго новел. Няма таму ніякай патрэбы, каб Баранавых пакінуў гэтую тэматыку блізкую яму і вядомую. Няхай ён піша праўду аб совецкай вёсцы—гэта немінуча прывядзе яго к социялістычнаму рэалізму і поўнакроўнаму адлюстраванню рэчаіснасці, у яе рэволюцыйнай дынаміцы. Няхай ён пачне больш пільна углядацца ў жыццё і ў першую чаргу ў тых, хто рушыць гэтае жыццё наперад.

Няхай ён зменіць свой творчы назіральны пункт.

## IV

Сымон Баранавых не зразумеў адразу сутнасці той жорсткай крытыкі, якой падверглася яго творчасць. Надрукаваная ім нацыяналістычная імпрэсія „Маці“ сведчыла аб тым, што пісьменнік трапіў у абдымкі контррэволюцыйнага нацдэмакратызма. Працягваць далей у гэтым напрамку азначала для яго зрабіцца зброеносцам нацыяналдэмакратызма і выбыць з беларускай совецкай літаратуры.

Перад тварам разгрома беларускага нацдэмакратызма і гіганцкіх поспехаў социялістычнага будаўніцтва Сымон Баранавых адчуў усю асуджанасць і беспрасветнасць сваіх нацыяналістычных блуканняў.

Адкрытая, прынцыпова-большэвіцкая крытыка яго памылак, у спалучэнні з дапамогай ў яго далейшай рабоце, прымусіла Сымона Баранавых задумацца над неабходнасцю ідэйна-палітычнага і стылявога паварота ў сваёй творчасці.

Павольна, са скрыпам шоў гэты паварот. Сымон Баранавых не знайшоў у сабе даволі сілы, каб паскарыць тэмпы сваёй перабудовы. Ён больш чым трэба маўчаў. Але першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены ім.

Прызнацца, нясмелыя крокі!

Асобна трэба пагаварыць аб апошняй аповесці Баранавых „Пастка“ і наогул аб яго дзіцячых навелах.[1])

Баранавых не ўпяршыню выбірае дзіця аб'ектам сваёй творчасці.

Была вялікая спакуса, каб Баранавых па старой традыцыі абыграў „лірычную наіўнасць і нявіннасць“ свайго персанажа і тым затушаваў вялікую суровую тэму.

Але перад намі—адваротнае.

Баранавых тут ужо навучыўся ненавідзець класавага ворага.

Баранавых навучыўся бачыць тых, хто з'яўляецца магільшчыкамі капіталізма.

Лёгкі дзіцячы юмар яго персанажа, наіўная многаслоўная гутарка яго, своеасаблівае дзіцячае „остранение“, тое асаблівае аголенае (непрыкрытае ніякімі агульна-прынятымі „жыццёвымі правіламі“) успрыняцце класавай барацьбы—усё гэта вельмі добра выкарыстана аўтарам для таго, каб падкрэсліць жорсткае звярынае абліччa кулака.

Чым больш мілы, наіўны і непасрэдны гэты хлапчук, які ніяк не можа зразумець, чаму яго бацька абадраны, а дзядзька багата апра-

---

[1]) Гэтае пытанне патрабуе асобнага аналіза.

нуты, чым больш наіўныя мары гэтага хлапчука аб „ботах"—тым ярчэй выступае (па кантрасту) жорсткі вобраз дзядзькі-кулака.

Баранавых робіць у гэтым апавяданні значны крок наперад па лініі насычэння сваёй прозы дынамікай падзей, займальнасцю. Зразумела, барацьба за сюжэтнасць прозы не вычэрпваецца тымі прыгодамі, якія суправаджаюць жыццё бядняцкага хлапчука у дзядзькі-кулака. Аднак для прозы Сымона Баранавых моцны фабульны касцяк гэтай аповесці з'яўляецца пачаткам плённага паварота.

Баранавых на раздарожжы. Ад яго самога залежыць далейшы шлях яго творчасці. Ён мае ўсе даныя для таго, каб стаць пісьменнікам карысным для сваёй соцыялістычнай радзімы.

---

**АЛЕСЬ КУЧАР**

# ТВОРЧЫЯ ПРАБЛЕМЫ СОВЕЦКАЙ ПАЭЗІІ

## 1

За 15 год існавання пролетарскай дыктатуры ў совецкай Беларусі беларуская совецкая паэзія вырасла ў магутны літаратурны атрад. За 15 год існавання пролетарскай дыктатуры ў совецкай Беларусі беларуская совецкая паэзія ўпісала сапраўды слаўныя старонкі ў развіцці літаратуры Совецкага Саюза. Імёны такіх паэтаў, як Чарот, Александровіч, Крапіва, Янка Купала, Колас, Броўка, Глебка, Куляшоў, Зарыцкі, лепшыя іх творы уваходзяць у фонд здабыткаў паэзіі Совецкага Саюза.

Нашы вялікія поспехі ў развіцці паэтычнага мастацтва пасля Кастрычніцкай рэволюцыі заключаюцца і выражаюцца у наступным: калі напярэдадні рэволюцыі 1917 г. мы мелі паэтаў адзінак, мы мелі на Беларусі некалькі паэтаў, якія па сваіх палітычных поглядах у большай ці меншай ступені выражалі буржуазна-нацыяналістычныя погляды і настроі, дык пасля Кастрычніцкай рэволюцыі мы стварылі якасна новую, совецкую паэзію, якасна новую пролетарскую паэзію. Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі замест паэтаў адзінак вырас магутны паэтычны фронт. Фронт паэзіі беларускай совецкай літаратуры за гады пасля Кастрычніцкай рэволюцыі развіваўся, удасканальваўся, мужнеў. Паэты набывалі новыя формы, новыя метады творчасці, усё новыя і новыя якасці ў мастацкім сваім развіцці. Калі мы паглядзім на гісторыю развіцця нашай паэзіі за 15 год, дык убачым, што ўвесь гэта шлях быў шляхам барацьбы яе супроць нацыяналістычнай абмежаванасці, супроць вясковай абмежаванасці. Гэта быў шлях да ўзыхода паэзіі на вышэйшую культурную ступень. Шлях развіцця паэтычнага мастацтва ў БССР быў поўны змагання супроць буржуазных нацыяналістаў, якія імкнуліся ў паэзіі культываваць багемства, упадніцтва, есеніншчыну, імкнуліся адрываць пісьменнікаў ад удзела ў соцыялістычным будаўніцтве, накіраваць іх творчасць на службу кулаку і інтэрвенту.

Паэзія сапраўды высокая па якасці, культурная паэзія, ёсць магутная зброя ў руках пролетарыята, у яго барацьбе супроць ворагаў пролетарскай рэволюцыі. Сапраўдная паэзія павінна арганізоўваць пачуцці, думкі і настроі чытача на службу нашаму вялікаму будаўніцтву. Паэзія мае справу з чалавечымі думкамі і пачуццямі, г. зн. што яна мае справу з чалавекам і яму ўласцівым. Вось чаму так востра стаіць задача: стварыць такую паэзію, якая-б гэтыя чалавечыя думкі і чалавечыя пачуцці выражала найбольш ярка, найбольш поўна, каб яна выражала важныя істотныя думкі і пачуцці чалавека. Не дзіва, што чытач адварочваецца ад тэй паэзіі, якая мае ў сваёй аснове толькі выкрыкі, толькі аголеныя лозунгі нават удала зрыфма-

ваныя—ён хоча бачыць глыбокія думкі і глыбокія пачуцці. І там, дзе гэтых глыбокіх думак і хвалюючых пачуццяў няма, там зразумела няма і паэзіі. Белінскі заўсёды падкрэсліваў, што паэзія цяснейшым чынам звязана з жыццём, што „паэзія ёсць выражэнне жыцця ці лепш сказаць,—само жыццё і, што паэзія павінна з жыцця чэрпаць свае матарыялы, свае элементы і абагульняць гэтыя элементы да радавога і тыповага значэння“. Сапраўды толькі на жыццёвыя факты, толькі на багатую і складаную рэчаіснасць соцыялістычнай эпохі павінна абапірацца паэзія, толькі з жыцця павінны паэты чэрпаць не толькі змест сваёй творчасці, але і форму. Паэтычная форма цалкам належыць жыццю.

Беларуская совецкая паэзія удасканальвала свае мастацкія формы не праз габінетную работу, не ў габінетах паэты шукалі новых форм творчасці. Пошукі новай якасці верша, культуры верша, адбываліся праз жорсткае класавае змаганне. У часы, калі на ўсіх фронтах культуры мы вялі змаганне супроць буржуазнага нацыяналізма, дык і на фронце літаратуры наша палітычнае змаганне супроць буржуазных нацыяналістаў было змаганнем і супроць мастацкага убоства, і супроць бескультур'я, і супроць вясковай, нацыяналістычнай абмежаванасці і, зразумела, у першую чаргу, супроць варожага, кулацкага ідэйнага зместа, якім былі поўны паэтычныя творы буржуазна-нацыяналістычных паэтаў. Жорсткае класавае змаганне адбывалася на працягу ўсяго перыяда роста нашай паэзіі, перыяда змены формы і кірункаў у ёй.

Паспрабуем прасачыць за асноўнымі зменамі форм і кірункаў у развіцці нашай паэзіі пасля Кастрычніцкай рэволюцыі. Трэба рэзка падкрэсліць, што наша совецкая паэзія развівалася пад уплывам паэзіі народаў СССР у процілегласць сцверджанням буржуазных нацыяналістаў, што быццам бы беларуская совецкая паэзія развівалася ізалявана ад совецкай паэзіі брацкіх рэспублік Совецкага Саюза, ад паэзіі перадавой і брацкай нам рускай літаратуры, што быццам бы беларуская паэзія ёсць самабытны „голас“, самабытны „крык“ „нацыянальнай душы“. Гэтая ілжывая і пошлая тэорыя ўсімі метадамі і спосабамі працягвалася і распаўсюджвалася буржуазнымі нацыяналістамі, але яна абвяргаецца жывымі фактамі, жывой гісторыяй. Беларуская совецкая паэзія развівалася пад уплывам паэзіі брацкіх нам народаў Совецкага Саюза і ў першую чаргу пад уплывам перадавой рускай совецкай паэзіі. Брацкая нам расійская совецкая культура, перадавая культура, аказвала велізарнейшы ўплыў на маладую паслякастрычніцкую беларускую совецкую паэзію і на паэзію іншых народаў Совецкага Саюза, гэтак сама, як маладыя літаратуры народаў СССР уплывалі на развіццё рускай совецкай паэзіі.

Ад старой беларускай дакастрычніцкай паэзіі маладая совецкая і пролетарская паслякастрычніцкая паэзія магла ўнаследваць вельмі незначныя элементы. Мы крытычна ўнаследвалі рэволюцыйна-дэмакратычную спадчыну Якуба Коласа і Янкі Купалы, галоўным чынам тыя рэволюцыйна-дэмакратычныя элементы ў іх творчасці, якія выяўляліся на этапе першай рускай рэволюцыі, але мы сустрэліся пасля Кастрычніцкай рэволюцыі ў старой беларускай літаратуры з вялікім ідэёвым багажом буржуазнага нацыяналізма ў цэлага рада пісьменнікаў. Даволі ўспомніць такога фашысцкага паэта, як Гарун, які у грамадзянскую вайну прадаўся інтэрвентам і разам з імі ў інтэрвенцкіх бандах змагаўся супроць пролетарскае рэволюцыі. Альбо паэта Максіма Багдановіча—майстра паэтычнага слова, але які напярэдадні пролетарскай рэволюцыі стаяў на ярка-выражаных буржуазна-нацыя-

налістычных пазіцыях. Совецкая паэзія, якая пачала развівацца пасля Кастрычніцкае рэволюцыі не магла ўнаследаваць ідэйны багаж нацыяналістаў і нацыяналістычны багаж у творчасці Янкі Купала і Якуба Коласа ў дні Кастрычніцкай рэволюцыі і грамадзянскай вайны.

Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі ўзмацняецца ўплыў на маладую беларускую пролетарскую паэзію з боку рускай пролетарскай паэзіі. Найбольш выразна былі ўплывы пролетарскай „Кузніцы", Дзем'яна Беднага, але ўплывалі і рускія сімвалісты перадкастрычніцкай пары. Вялікі ўплыў на нацыяналістычных паэтаў зрабіла старая народніцкая, нашаніўская, літаратура Беларусі.

Міхась Чарот быў першым сапраўды соцыялістычным голасам у беларускай літаратуры. Міхась Чарот ёсць пачынальнік нашай пролетарскай паэзіі. Ён у сваім творы „Босыя на вогнішчы" намаляваў выключна яркія карціны змагання за Совецкую Беларусь. Ён быў творцам і новых фармальных кірункаў у нашай паэзіі. Мы з сапраўднай любоўю слухаем паэтычны голас Міхася Чарота ў яго паэме „Босыя на вогнішчы". Міхась Чарот паказвае не толькі разбурэнне старога: на пажарышчы над разбураным старым, як сімвал мінулай няволі і будучага вызвалення выплывае „чырвоны крыж". Ён плыве з усходу, ён нясе вызваленне падняволеным Беларусі:

І пылае мур струхнелы,
іскры скачуць па страсе
Раптам вецер, вецер смелы,
крыж чырвоны нам нясе
Адным крыжам будзе болей,
шэпча змучаны народ...
На крыжы чытаюць „Воля"—
Братцы! Глянце на Усход.
То-ж агонь. агонь збавення
нам нясе чырвоны крыж
—Братцы, песню вызвалення!
Люд гаротны, што маўчыш.
Панясласе песня волі,
між лясоў густых, балот...
І аб лепшай вольнай долі,
стаў ля рэчкі пець чарот.

У гэтых радках ярка выяўлена тое новае, што прышло на змену слязлівай сантыментальнай, а то і проста атручанай шавіністычным і нацыяналістычным ядам паэзіі „Нашай нівы". Паэма Міхася Чарота „Босыя на вогнішчы", якая паказала герaічны шлях змагання пролетарыята, поўпролетарыята, батрацкіх і бядняцкіх мас за сваё соцыяльнае вызваленне, была вялікім ударам па буржуазных нацыяналістах, і сапраўдных мастацкіх якасцяй гэтай паэмы не маглі адмовіць нават нашы ворагі. Крок, які зрабіў сваёй паэмай „Босыя на вогнішчы" Міхась Чарот у ідэйным і фармальна-мастацкім развіцці беларускай літаратуры быў мажлівы толькі дзякуючы Кастрычніцкай рэволюцыі.

Адначасова, калі мы паглядзім на першыя творчыя выступленні Міхася Чарота, дык мы ўбачым, што акрамя гэтай пролетарскай тэндэнцыі, на яго аказвалі ўплыў і народніцкая, нацыяналістычная паэзія і рускія сімвалісты, ад якіх ён паступова вызваляўся. Найбольш характэрны ў гэтых адносінах яго твор „Чужына". У гэтым творы народніцкія і, нават больш, нацыяналістычныя ноткі яскрава выражаюць варожы ўплыў на пролетарскага паэта.

Чужая краіна... Дзень цэлы ў сумоце,
І думкі дадому ляцяць.
Дзе хата старэнька стаіць пры балоце
І вербы над рэчкай шумяць.

Як дадатную з'яву трэба адзначыць уплыў на Міхася Чарота пролетарскай „Кузніцы". Праўда, „Кузніца" уплывала на Міхася Чарота і з некаторымі адмоўнымі якасцямі: выключная гіпербалізацыя з'яў, захапленне касмічнымі маштабамі падзей,—але „Кузніца" накіроўвала Міхася Чарота на шлях апявання і ўсхвалення перамог соцыялістычнай рэволюцыі. Гэта асабліва яскрава праяўляецца ў вершах „На чырвонай дарозе" і інш. Пасля гэтых прыкладаў развіцця нашай паэзіі на першых этапах пасля Кастрычніка зразумелым становіцца, што наша паэзія развівалася ў цеснай сувязі з брацкай нам рускай культурай.

Мы асабліва адзначаем дадатную ролю з'яўлення на гістарычнай арэне такога паэта, як Міхась Чарот, таму яшчэ, што ў перыяд грамадзянскай вайны і нэп такія паэты, як Якуб Колас і Янка Купала, займалі нацыяналістычныя пазіцыі ў літаратуры, і кола іх палітычных ідэй і мастацкіх вобразаў ішло ад прынцыпаў, высунутых у літаратуры нацыяналістычнай „Нашай нівай" далёка да Кастрычніка.

Калі мы далей прасочым за зменай кірункаў і форм у беларускай паэзіі, мы павінны спыніцца на вельмі значным адрэзку часу ў гісторыі развіцця нашай літаратуры. Гэты час прыпадае галоўным чынам на першыя гады нэп. Гэты перыяд найбольш цяжкі ў гісторыі развіцця нашай паэзіі. Буржуазныя нацыяналісты пралазілі ва ўсе культурныя ўстановы і расстаўлялі там сваіх людзей з тым, каб праводзіць шкодніцкую, інтэрвенцыянісцкую работу супроць дыктатуры пролетарыята. Яны паслалі сваіх паўпрэдаў і на фронт літаратуры. Не гледзячы на тое, што пролетарская паэзія і пролетарскія паэты, што ўздымаліся і ўзрасталі, упэўнена адстойвалі свае пазіцыі і творчасцю і змаганнем на культурным фронце, буржуазныя нацыяналісты пачынаюць праз мастацкую творчасць прапагандаваць ідэі адрыву Совецкай Беларусі ад Совецкага саюза, ідэю змагання супроць пролетарскай рэволюцыі. У паэзіі шэраг паэтаў праводзілі кулацкую ідэалогію, кулацкія погляды і настроі. Нацыяналісты выгадоўвалі ў сваіх паэтаў нянавісць да пролетарскай рэволюцыі. Найбольш яркімі выразнікамі гэтых настрояў з'явіліся Дубоўка, Пушча, Лужанін, Жылка—ідэолагі нацыяналістычнай контррэволюцыі. Нашым чытачам даволі вядомы нацыяналістычныя „літанні" Пушчы, калі ён пісаў пра Беларусь, што:

> Беларусь краіна наймічай астатняй
> ў апранасе рванай днём і ночку ходзіць.

Альбо:

> Хто з крыжа краіну распятую зніме!

Досыць напомніць творы контррэволюцыянера Дубоўкі „І пурпуровых ветразяй узвівы", „Камбайн", якія з'яўляюцца яскравейшым выражэннем ідэалогіі нацыяналістычнага кулацтва.

Але тут нас цікавіць яшчэ адна справа. На працягу цэлага шэрагу год буржуазныя нацыяналісты распаўсюджвалі думкі, што нібыта іх творчасць з'яўляецца творчасцю „высока-мастацкай", што нібыта яны ствараюць „вышыні мастацкага слова", што нібыта яны з'яўляюцца „сапраўднымі пісьменнікамі", а творчасць тых пісьменнікаў, што змагаюцца за лінію партыі ў літаратуры, нічога не варта. Яшчэ і цяпер недабітыя рэшткі буржуазных нацыяналістаў сеюць варожыя нам думкі (і гэта мае месца сярод некаторае невялікае часткі пісьменнікаў), што буржуазныя нацыяналісты тыпу Дубоўкі і Пушчы ўнеслі вялізарнейшыя мастацкія каштоўнасці ў літаратуру, стварылі вялікі мастацкі стыль паэзіі, што яны, Дубоўка і Пушча, з'яўляюцца „злымі

геніямі“ мастацтва, непрызнанымі і неацэненымі. Можна ўпэўнена сказаць, што ўсё гэта ёсць новая форма змагання буржуазных нацыяналістаў супроць совецкай літаратуры. Тэорыі пра тое, што паэты контррэволюцыянеры унеслі вялікія мастацкія каштоўнасці ў паэзію, акрамя таго, што з‘яуляюцца паклёпам на сапраўднасць, яны яшчэ накіраваны на абарону буржуазнага нацыяналізма перад тварам пролетарскай дыктатуры. Між іншым характэрна, што і ўкраінскія нацыяналісты ад літаратуры казыраюць тымі-ж довадамі, што і беларускія. Не даючы па сутнасці добраякаснай прадукцыі, яны балбаталі пра геніяльнасць розных эпігонаў, упаднікаў, плагіатараў ад буржуазнага нацыяналізма. Такога роду буржуазныя нацыяналісты бязлітасна абязброены і выкрыты ў выступленні С. В. Косіора на ўсеукраінскім з‘ездзе совецкіх пісьменнікаў. Тав. Косіор сказаў:

„На гэтым з‘ездзе трэба прыгадаць тое становішча, у якім была совецкая літаратура на Украіне яшчэ некалькі год таму назад. Я маю на ўвазе той вялікі ўплыў, што мелі на літаратурным фронце нацыяналісты. На працягу многіх год нацыяналістычныя элементы, не даючы, уласна кажучы, ніякай якаснай прадукцыі, імкнуліся сваім уплывам, сваімі імёнамі дэзарганізаваць нашу літаратуру; яны намагаліся скіраваць яе на іншы шлях, не на той, на які заклікала партыя. Яны намагаліся накіраваць літаратуру супроць пролетарскай рэволюцыі, супроць соцыялістычнага будаўніцтва. Яны намагаліся дыскрэдытаваць тых пісьменнікаў, якія змагаліся з імі, якія выступалі за сапраўды-пролетарскі шлях украінскай літаратуры, за соцыялістычны яе змест. Нацыяналістычныя элементы імкнуліся ўзяць манаполію на званне сапраўднага пісьменніка. Сапраўднымі пісьменнікамі яны лічылі толькі сябе, а тых, хто праводзіў партыйную лінію ў літаратуры, яны відавочна ганьбілі і цкавалі. Нейкі час некаму нават так і здавалася, што ў нас сапраўдныя пісьменнікі гэта тыя, хто ў свой час змагаўся супроць партыі...“

Гэтая тэорыя, якая распаўсюджваецца буржуазнымі нацыяналістамі і іх агентамі ў нас на Беларусі, павінна быць бязлітасна разбіта як варожая пролетарыяту.

Паглядзім-жа на сапраўдны творчы твар паэтаў буржуазных нацыяналістаў, гэтых „злых геніяў“ ад мастацтва. Асноўная творчая іх асаблівасць, акрамя дзікае нянавісці да пролетарскай рэволюцыі, гэта велізарнейшае эпігонства, вялізарнейшае падражацельства, велізарная, нават плагіатарская, залежнасць ад старых упадніцкіх буржуазных пісьменнікаў. Эпігонамі каго толькі не былі Дубоўка, Пушча, Лужанін і ім падобныя. Гэтыя паэты бязлітасна „выкарастоўвалі“ буржуазнага паэта перадкастрычніцкай пары Максіма Багдановіча, былі ў велізарнай залежнасці ад імажыністаў, прывівалі на беларускай глебе есенінщчыну. Прайшло тры-чатыры гады з часу першага разгрому буржуазных нацыяналістаў на літаратурным фронце, і творы іх з мастацкага боку гучаць па-эпігонскаму ўбога і дзіка. Уважліва прагледаючы творчасць паэтаў буржуазных нацыяналістаў, не знаходзіш у іх творчасці нічога такого, што-б звярнула на сябе ўвагу, як сапраўднае мастацкае. Вядома, што паэты буржуазныя-нацыяналісты тыпу Дубоўкі і Пушчы былі не адзінокімі. Гэта яны распаўсюджвалі ўпадніцтва, песімізм, містыку, ідэйнае ўбоства, якое было ахапіла ў першыя гады нэп невялікую колькасць паэтаў. Мы добра помнім культ кілішкаў, налівак, сіні, просіні, крышталяў у цэлай групы паэтаў. Гэта было выражэннем багемскага, упадніцкага-нацыялістычнага выраджэння некаторых паэтаў блізкіх да Дубоўкі і да Пушчы. Дубоўка ў нацыяналістычным вершы „Вясна на чужыне“ піша:

Кіну смутак я і маркоту аж на ніцыя лозы,
У вечар гэты, вечар трауня, вечар нецвярозы
Вольны вецер я паклічу, як пяюць наўкола:
„Час да хаты, час—жыцця майго золак“...

Альбо:

Жыццё гарэлкі пеннай чарка,
Жыццё, атруты чарка,—згіны!..
Не разбівай ты нашай мары:
У свой час возмеш усе даўгі.

Хто з нацыяналістаў і іх прыхвасняў адважыцца сцвярджаць, што культ гарэлкі, перамешаны з хамскім нацыяналізмам, нацыяналістычнай абмежаванасцю, выражанай у гэтых творах, з'яўляецца сапраўдным мастацтвам? Хто адважыцца сцвярджаць, што заалагічны звярыны нацыяналізм Дубоўкі, выражаны ў вершы „Нафарбавала навошта вусны“ у наступных радках, дзе паэт шалее ад нядзейсненых мар пра існаванне буржуазна-нацыяналістычнай беларускай рэспублікі:

Рыхтык воўк на снягу—завалюся
Буду зубамі з роспачы ляскаць—

— з'яўляецца сапраўдным мастацтвам? Мы сцвярджаем: наскольк і тут многа нацыяналізма і звярынай нянавісці да пролетарскай рэволюцыі, настолькі тут мала таго, што мы называем мастацкім, эстэтычным і прыгожым.

Але характэрна і другое, пра што ўжо ўпаміналася вышэй, што аўтарамі чарак, налівак, пялёстак, сіняй, ніцых лоз, псеўда-народных выразаў, якія так размнажаліся ў творах шэрагу пісьменнікаў упаднікаў, былі контррэволюцыянеры Дубоўка, Пушча, Жылка, Лужанін і інш.

Звярыная ненавісць Дубоўкі да пролетарскай рэволюцыі найбольш яскрава выражана ў сапраўды бандыцкім вершы Дубоўкі „Далёкае мы любім надта“. Гэты верш, які пачынаецца з эпігонскіх перапеваў Максіма Багдановіча, канчаецца заклікам да змагання супроць пролетарскай рэволюцыі.

За сапраўднае мастацтва не можа быць таксама выдана і другая асаблівасць творчасці паэтаў буржуазных нацыяналістаў. Гэта іх хамская, вясковая, нацыяналістычная абмежаванасць. А гэта найбольш характэрна праяўляецца ў вершах Пушчы. У вершах „Маўклівая радасць мая“ ён піша:

Не муч мяне гэтак, чужына,
Гатоў воўчым яхам завыць!
Браты мае й сёстры 'шчэ жывы,
Хачу памаліцца за іх.

А вот гэта Пушча піша з Ленінграда, з выдатнага горада, калыбелі пролетарскай рэволюцыі:

Самотна жыць мне тут
Нішто вачэй не дзівіць;
Схіліцца хочу хараству
Там, на сваёй радзіме.
Рыпіць як пад нагамі снег!
Ды толькі снег не наскі.
Расказваў я сягоння ў сне
Зімовыя вам казкі.

Бачыце, хараство Ленінграда не захапляе Пушчу. Ён хоча схіліцца „хараству“ толькі на сваёй радзіме. І нацыяналістычная, хамская абмежаванасць Пушчы даходзіць да таго, што ён нават не задаволены ленінградскім снегам толькі таму, што гэты снег „не беларускі“, „не наскі“. Калі ў якія вякі вялікае і сапраўднае мастацтва стваралася выра-

жэннем ідэй шавіністычнай, правінцыяльнай абмежаванасці—спытаемся мы! Заўсёды ва ўсе вякі сапраўднае мастацтва стваралася людзьмі вялікіх інтэрнацыянальных маштабаў дзеяння і думкі.

Багемскаму і ўпадніцкаму выраджэнню на перыядзе нэп падпаў шэраг паэтаў, якія стаялі тады на нацыяналістычных пазіцыях: Дудар, Кляшторны, Дарожны, Маракоў, Звонак, Бобрык. Часта можна пачуць і такія думкі, што ўпадніцтва, песімізм, есеніншчына было далёкім ад нацыяналізма. Гэта памылковы погляд. Буржуазныя нацыяналісты натхнялі і харчавалі ўпадніцкія ідэі і ўпадніцкія настроі сярод некаторае часткі паэтаў. Якія вобразы панавалі ў гэтых паэтаў? Вось яны: туманы, экраны, ледзяныя гітары, шклянкі, наліўкі, бомы, сінь, віно, карчмар, пялесткі, лілеі, бярозавая просінь, ружовасць, восень, крышталь, зоры. Мы ўжо ўстанавілі, што вытокі ўсіх гэтых атрыбутаў зыходзяць ад буржуазна-нацыяналістычных паэтаў, тыпу Дубоўкі, Пушчы, Жылкі. Акрамя таго вялікі ўплыў на гэтых паэтаў мелі імажыністы і ў прыватнасці есенінскае ўпадніцтва. Дапамагалі іхным настроям у гэты час буржуазныя нацыяналістычныя пазіцыі Купалы і Коласа. Культ багемства і ўпадніцтва асабліва ярка выражаўся ў гэтыя часы ў паэта Кляшторнага:

Праходзяць дні,—а з днямі ўсё праходзіць  
На скаце дзён праз чорнае вакно,  
Стары карчмар нас разлічыцца просіць  
За п'янае юнацкае віно.

І гэты карчмар, які ўсё просіць разліку ў Кляшторнага і не можа яго ніяк атрымаць, паўтараецца бадай што ва ўсіх вершах гэтага перыяду:

Калі над цінаю імшараў  
Засвішча волат гарадоў,  
Я разаб'ю пустую чарку  
На полі выпітых гадоў.

Паказальны верш Кляшторнага „У Сібір“. Ён заклікае свайго сябра з Сібіры вярнуцца назад у Беларусь. І вось, каб прыманіць яго чым небудзь, ён яму абяцае:

Цяпер снягі... Вячэрняю зарою  
З пунсовой шлянкі белая зіма  
Частуе Менск наліўкай ледзяною  
Цябе-ж няма.

Безліч раз у Кляшторнага паўтараецца фраза „як сумна любая, дакоры з твайго кілішка дапіваць“. Творчасць Кляшторнага гэтага перыяду, даволі нізкая па сваёй мастацкай якасці, была заражана ўпадніцкім зместам, прадыктаваным яму буржуазнымі нацыяналістамі. Яшчэ больш яркі прыклад выяўляе ў упадніцтве Звонак. Ён звяртаецца да „начной кветкі вуліцы“.

Асфальт і пыл, і брудная панэль  
І на панэлі п'яны я спяваю...  
І ты адна, як краска палявая,  
Чамусці сёння ўспомнілася мне.

А вось Бобрык „кволы аматар мяшчанскай лірыкі“:

На вазёрах белыя лілеі  
І маўклівасць ціхая, як рань...  
Радасць звонкая у лесе—пунсавее,  
Пурпурова-сіняя зара.

Па-нацыяналістычнаму ідэю ўпадніцтва і „кволых мяшчанскіх пяшчот“ выражаў і Гурло:

Для цябе я быў нязнаным
Ты такою-ж для мяне
Я пайшоў з табой нязваны,
Каб бляднець і чырванець.

Ці-ж не зразумела, што ўвесь гэты арсенал мяшчанскай лірыкі быў надзейным дапаможнікам у змаганні нацыяналістаў супроць соцыялістычнага будаўніцтва, за мастацтва нібыта „апалітычнае“, нібыта „надкласавае“.

Паказальна, што новая пакаленне нацыяналістаў, выкрытае намі ў канцы 1932 года, унаследавала ўсе атрыбуты, ідэёвыя і мастацкія прыёмы сваіх папярэднікаў. Да гэтага хіба яшчэ можна дадаць тое, што метады маскіроўкі такіх паэтаў, як Таўбін, Астрэйка, Астапенка былі больш тонкімі і складанымі. Стваралі гэтыя паэты што небудзь сапраўднае, мастацкае? Не. Успомніце Таўбіна, які харчаваўся падражацельствам Гумілёву—рэакцыйнаму паэту; Астрэйку, які бязлітасна спісваў з Дубоўкі і выдаваў за сваё, дадаючы адпаведную дозу нацыяналістычнага, шавіністычнага яду; Астапенку, эпігона клюеўскай, кулацкай паэзіі. Для таго, каб пакончыць з гэтым нацыяналістычным смеццем, прывядзем некалькі прыкладаў з заходня-беларускай фашысцкай паэзіі. Ідэйнае і мастацкае ўбоства характарызуе гэтых заходня-беларускіх прыяцеляў Дубовак, Пушчаў, Жылак, Лужаніных, Таўбіных і інш. У гэтым сэнсе ў іх поўнае адзінства мастацкіх сродкаў і метадаў.

Вось паэт Янка Быліна піша:

Як улетку ў полі дзесь ручэй
Так міла голас твой ліецца,
У душы мне рэхам раздаецца
Як улетку ў полі дзесь ручэй.

Ці-ж не нагадвае гэты ўрывак багемскую і ўпадніцкую паэзію Дубоўкі, Пушчы і іншых нацыяналістых, якія ўжо вышэй цытаваліся. Характэрна, што ў Заходняй Беларусі фашызм уцягвае у літаратуру і духоўных „айцоў“. Вось дргугі „лірык-паэт“ ксёндз Казімір Сваяк „нацыянальны“-беларускі ксёндз. У вершы, прысвечаным Псіхеі, ён проста і няскромна хоча завесць з Псіхеяй такія адносіны, якія не толькі па ксяндзоўскіх, а і па звычайных чалавечых законах караюцца. Вось чаго-б ён жадаў:

Разгарнуць твае чорныя косы
Цалаваць у паўночнай цішы,
На твар вызваць слязістыя росы
Аддзяліць твой дух ад душы.
След іроніі з вуснач́кі сцёрці,
Заглыбіцца да язні на дно,—
Для заблуднага свету умерці
І стварыць вяселле адно.
Не таі, не віляй—а прызнайся
Што таемна ты любіш мяне,—
А ці я... Ты мяне не пытайся:
Прада мной ты на яве і ў сне.

Вот вам і ксёндз Казімір Сваяк!

Паказальна, што фашысцкая літаратура Заходняй Беларусі пераклікалася па сваіх настроях і поглядах з буржуазна-нацыяналістычнымі паэтамі-контррэволюцыянерамі ў Совецкай Беларусі. Але ў Заходняй

Беларусі супроць гэтай фашысцкай, пахабнай літаратуры паўстае сапраўдная, рэволюцыйная літаратура, пролетарская літаратара, якая гадуецца ў турмах, расце сярод вязняў фашысцкіх засценкаў.

Такім чынам для нас ясна, што буржуазныя нацыяналісты, якія пераклікаліся з фашызмам Заходняй Беларусі, не толькі не ўзбагачалі сапраўдным мастацтвам нашу літаратуру, а наадварот, цягнулі яе назад да прымітыву, да нацыяналістычнай абмежаванасці, да мастацкага ўбоства. Але існуе і другі погляд. Другая катэгорыя нацыяналістаў крычыць не пра мастацкія здабыткі паэтаў-нацыяналістаў, але пра тое, што быццам-бы нацыяналісты змагаліся за вялікія ідэалы „адраджэнне бацькаўшчыны", што яны змагаліся за вялікія ідэі. Падобныя ідэі, за якія змагаліся нацыяналістычныя паэты і нацыяналісты наогул, надзвычай ярка ахарактарызаваў вялікі рэволюцыйны паэт Гайнрых Гайнэ:

„Бываюць брудныя сем'і ідэй, якія гнездзяцца ў шчылінах гэтага старога свету, гэтага пакінутага ложа боскага духа... Як сем'і клапоў гнездзяцца ў ложку. Калі раздушыць адну з гэтых клопа-ідэй, яна распаўсюдзіць смурод, які будзеш адчуваць вельмі і вельмі доўга".

Вось гэтая характарыстыка Гайнэ надзвычай ярка перадае „веліч" тых ідэй і „веліч" тых інтарэсаў, якія абаранялі буржуазныя нацыяналісты і іх літаратурна-мастацкія прадстаўнікі.

Але і ў першыя гады нэпа пролетарская і совецкая паэзія змагла высунуць выдатных сваіх прадстаўнікоў, якія тварылі новую гісторыю паэзіі, а не прэсмыкаліся перад буржуазна-нацыяналістычным атрэп'ем. Гэта былі Міхась Чарот, Андрэй Александровіч, П. Трус і Кандрат Крапіва. Гэтыя паэты на тым этапе сваю творчасць супрацьстаўлялі буржуазным нацыяналістам і іх агентам. Гэта зусім не значыць, што на іх не ўплывалі варожыя метады творчасці. Але ў той час, калі пералічаныя вышэй паэты пагразлі ў багне буржуазнага нацыяналізма, Чарот, Александровіч, Трус, Крапіва вялі наперад лінію і гісторыю совецкай паэзіі. Успамінаецца паэма Міхася Чарота „Комсамолія", „Карчма". У гэтых творах адлюстравана жыццё і побыт комсамольскай моладзі на вёсцы, поступ соцыялізма на мястэчка, на дробна-ўласніцкія элементы вёскі. А творы Крапівы? Праўда, яны не былі пазбаўленыя некаторых уплываў нацыяналізма. Але лепшыя яго творы знайшлі велізарнае распаўсюджанне на вёсцы і ў горадзе! Успамінаецца цэлы шэраг выдатных твораў Андрэя Александровіча. Усё гэта даводзіць, што совецкая літаратура і ў гэты перыяд вырошчвала свае новыя совецкія кадры. Калі нацыяналісты вылі пра чаркі, ледзяныя гітары, Андрэй Александровіч яшчэ у 1926 г. напісаў верш, дзе гучыць новая тэматыка, новыя адносіны да рэчаіснасці, дзе знойдзены новыя вялікія аб'екты для сапраўднай мастацкай творчасці. Зразумела, што ніжэй прыведзены верш адлюстроўвае ўзровень, на якім стаяла паэзія Александровіча ў тыя часы, а пасля тых гадоў паэзія Александровіча далёка пайшла наперад. Вось ён гэты верш:

Аздобілі бель-снежныя узоры
Шыбіны застыўшых камяніц.
На фабрыцы машынным звонкім хорам
Кіраваў сівенькі машыніст...
Павевам гордай радасці—урачыстасць
Рабочы клуб прыветліва спаткаў:
— Героя працы—машыніста—
Насіла моладзь на руках.

Вось гэты верш ужо вызначаў кола **новых** тэм, **новых** праблем, якія як поўнапраўныя ўваходзілі ў нашую совецкую паэзію. Вядома, што і творы Чарота і творы Александровіча, і творыТруса, Крапівы

высока былі ацэнены шырокімі масамі працоўных. Пафасныя вершы Чарота, Александровіча, Труса, сатырычныя вершы Крапівы, якія высмейвалі багоў, папоў, растратчыкаў, хабарнікаў, бюрократаў, шырока былі распаўсюджаны ў народных масах.

II.

Рэканструкцыйны перыяд робіць пераварот ва ўсім развіцці беларускай совецкай паэзіі. Рэканструкцыйны перыяд будаўніцтва соцыялізма ўнёс у нашую паэзію новыя формы, новыя метады і новыя кірункі творчасці. Гэтаму садзейнічала і тое, што мы нанеслі першы сакрушальны ўдар буржуазным нацыяналістам на літаратурным фронце і ізалявалі іх ад совецкай літаратуры. Гэтаму садзейнічалі вялікія перамогі рабочага класа пад кіраўніцтвам ленінскай партыі на фронце індустрыялізацыі краіны, на фронце калектыўнай сельскай гаспадаркі. Пафас і энтузіязм мільёнаў будаўнікоў соцыялізма ўнёс новыя ідэі, новыя рытмы, новыя мелодыі, новыя песні ў нашу літаратуру. Вялікія дадатныя якасці, якія ўнёс рэканструкцыйны перыяд, у совецкай паэзіі выразіліся не толькі па лініі тэматыкі і не толькі па лініі чалавечых вобразаў, але і па лініі фармальных прыёмаў, фармальных метадаў творчасці. Дадатны ўплыў на беларускую совецкую паэзію аказаў паэт рэволюцыі Владзімір Маякоўскі. Галоўнае, што прынёс рэканструкцыйны перыяд у совецкую паэзію, выражалася ў тым: што мы вызваліліся ад мяшчанскай, абывательскай упадніцкай паэзіі, унесенай у літаратуру нацыяналістамі. У рэканструкцыйны перыяд адбываецца паварот асноўных мас паэтаў да тэматыкі соцыялістычнага будаўніцтва, да нашых фабрык і заводаў. У рэканструкцыйны перыяд з'явіліся такія творы Александровіча, як верш „Сасна" і „Партыя кліча", паэма „Цені на сонцы", новыя творы Крапівы, Чарота і цэлага раду маладзейшых паэтаў Пятруся Броўкі, Пятро Глебкі, Аркадзя Куляшова, Зарыцкага.

Андрэй Александровіч у адным з сваіх вершаў у пачатку рэканструкцыйнага перыяда будаўніцтва соцыялізма, заклікаў:

На фронт, таварышы!
  На фронт,—энтузіясты!
    Такія дні
      страчаюцца
        не часта...
У барацьбе, за працаю
што дзень сабе прыблізім—
заваёваны
    ў баёх
        соцыялізм.

Верш Андрэя Александровіча „Сасна" быў ударам па нацыяналістах не толькі па лініі тэматыкі. Гэта быў удар і па лініі фармальнай. Александровіч, у процілегласць нацыяналістам, высунуў новыя прынцыпы скарыстання фальклора. Сасна, якая ў нацыяналістых была сімвалам плачу, прыгнёту, сасна, якая нават у такога паэта, як Паўлюк Трус, выступала ўбогай, занядбанай, пад якою співаюць жабракі, гусляры—гэтая сасна ў Александровіча ўваходзіць у працэсы вытворчасці і атрымлівае зусім якасна новае гучанне:

Эх, сасонніца сасна,—
  нашы дні суровыя,
бервяно да бервяна,—
  хата новая.
Дзе-ж раскінута багна,
  вырастуць дубровамі
за сасонкаю сасна—
  сосны новыя!

Верш гэты недарма лічыцца адным з лепшых вершаў Александровіча таму, што ён у ім стары традыцыйны вобраз зразумеў і паказаў па новаму.

Паварот нашых паэтаў да тэматыкі фабрык і заводаў, соцыялістычнага будаўніцтва, да ўсхвалення перамог пролетарыята ў выкананні першай пяцігодкі было вялікай дадатнай якасцю, вялікай гістарычнай перамогай нашай паэзіі.

Але аднačасова з гэтымі перамогамі нашай паэзіі адбываецца працэс вульгарызацыі і апашлення фабрык і заводаў у некаторых варожых нам паэтаў, адбываецца працэс вульгарызацыі аратарскага, трыбунскага голаса Маякоўскага тымі нацыяналістамі, якія прабуюць прыстройвацца, прыстасоўвацца да новых умоў. У іх мы бачым выключную рытарычнасць, голую абстрактнасць, нічым не прыкрытую схему. Найбольш характэрным тут з'яўляецца Лужанін, які найбольш прынізіў, які найбольш апошліў аратарскі, трыбунскі голас вялікага паэта Владзіміра Маякоўскага, і для якога „левая“ фраза служыла маскай для прыкрыцця нацыяналістычнага твару. Такая-ж тэндэнцыя выразна відаць і ў такіх паэтаў, як Багун, Казлоўскі, часткова ў Кляшторнага.

Адным з вялікіх грахоў нашай паэзіі, які яшчэ праяўляецца ў значнай ступені аж да сёнешняга дня і які таксама вынікае з вульгарызавання рэволюцыйнай патэтыкі Владзіміра Маякоўскага, з'яўляецца так званая „одапісь“ на тэмы соцыялістычнага будаўніцтва. Такі „одапісец“ мала клапоціцца пра вывучэнне фактаў соцыялістычнага будаўніцтва, пра вывучэнне таго аб'екта, пра які ён піша, ён часамі вельмі мала нават зацікаўлены нашымі перамогамі, ён проста складае доўгія і нудныя оды на нейкія абстрактныя тэмы. Так званая „одапісь“ найбольш паражае невопытную руку маладога пісьменніка. Такі паэт усё хваліць, увесь свет паўстае перад ім у ружовым тумане, усюды ён бачыць поступ, усюды ў яго цвіце ўсё, але ён нават не думае дзе гэты поступ і што за поступ. У яго творы няма асноўнага, няма хвалюючых чалавечых пачуццяў і чалавечых думак. Я звяртаю на гэта ўвагу, як на сур'ёзную хваробу нашай паэзіі таму, што яна праяўлялася не толькі ў першыя годы рэканструкцыйнага перыяда, а праяўляецца ў значнай колькасці і цяпер. Возмем, напрыклад, Кляшторнага. Вось назва яго зборніка, які толькі што вышаў з друку: „Праз шторм на штурм“. Адразу відаць, што паэт сур'ёзна не думае над тым, што піша, бо гэта пустая фраза, якая абсалютна нічога не гаворыць. Да катэгорыі „одапісных“ твораў належаць некаторыя творы Хведаровіча. Між іншым у Хведаровіча найбольш ярка выяўляецца ўся парочнасць гэтага метаду абстрактнай одапісі. Хведаровіч вельмі часта піша на зусім канкрэтныя тэмы: пра свята Першае мая, Кастрычнік, пра перамогі першай пяцігодкі. І ўсюды словы, якія выражаюць усё адзін і той-жа сэнс: „уздым“. „Край дыша ўздымам“, „гамоняць фабрыкі“, „заводы цвітуць“ і нідзе ў гэтых вершах няма чалавечых пачуццяў:

> Таварышы!
> Моладасць кіпіць настроем,
> Кожная слова бяру я з боем,
> Нервы дранцвеюць такою парою,
> Жылы і каморкі налівающца кроўю.
> Хочацца кінуцца ў бойку рашуча,
> Урэзацца куляй у бар'ер перашкодаў.

Альбо:

> Мацней загартоўвайце дух
> У творчым разбегу дзён!
> Правады гудуць, правады гудуць
> Энергіяй рабочых калон.

Кажуць, што ў такіх вершах нічога дрэннага няма. Я згодзен, што ў іх нічога дрэннага няма, але ў іх і нічога добрага няма. У іх няма таго, што мы называем мастацкім творам. Гэта голая абстракцыя, якая нікога ні ў чым пераканаць не можа.

Другая адмоўная якасць у нашай беларускай совецкай паэзіі, якая на фоне агульнага росту і ўздыму, перашкаджае развіццю нашай паэзіі і якая з'яўляецца вынікам няправільнага разумення тых новых гіганцкіх зрухаў у нашай краіне, што адбыліся за часы першай пяцігодкі, выяўляецца ў складанні абстрактных і беспачуццёвых вершаў пра бетонамешалкі, вагранкі, домны наогул. Чым характэрна творчасць такіх вершаскладальнікаў пра бетонамешалкі, вагранкі, домны? Іх творчасць характэрна тым, што ў ёй багата машын, альбо дэталяў, частак гэтых машын, але няма людзей, няма складаных і шматгранных пачуццяў будаўніка бескласавага соцыялістычнага грамадства. Гэта было характэрна на вельмі раннім перыядзе і для творчасці Андрэя Александровіча, калі ён пісаў: „Гэй, шыпі, спявай, машына, весялей гудзі кацёл". Гэта характэрна і для творчасці Пятруся Броўкі значна пазнейшага часу, калі ён пісаў:

Мне сонца сёння домна
А цэх—мая радзіма.
Бі, молат многатонны!
Бі, молат, без спачыну!

Усхваленне машын, падпарадкаванне чалавека волі машыны, нівеліроўка чалавека і яго пачуццяў на фоне машын, складанне „од" пра кавадлы, молаты, домны з'яўляецца ў агуле пройдзеным этапам нашай совецкай паэзіі, але ў некаторай найбольш мастацкі бездапаможнай часткі паэтаў жыве яшчэ і цяпер. Напрыклад Хведаровіч складае вершы пра „бетонамешалак жалезныя храпы"

У гэтым шуме, у гэтым звоне,
У гэтай цяжкай пылкай працы
Павырасталі сягоння
Дум вясёлкавых палацы.
Сталь, бетон, жалеза, камень
І напружнасць творчай працы.

Адразу, што кідаецца ў вочы чытачу ў такіх вершах, гэта лёгкая бесклапотнасць паэтаў у дачыненні да аб'ектаў сваёй творчасці, так званая бяздумнасць. Паэт не клапоціцца нават падумаць пра што ён піша, таму ён блытае бязбожна домны з мартэнамі, сталь з жалезам. Ён гатоў усхваляць камень, сталь, бэтон, жалеза, але толькі не рабочых, якія кіруюць ўсімі машынамі, кіруюць усім працэсам вытворчасці, бо ён не ведае ні іхніх думак, ні іх пачуццяў. Такога-ж характару недахопы ёсць у паэта Кляшторнага. Прычым у яго пануе выключная абстрактная „одапісь", пра якую я гаварыў ужо раней:

З дарогі, крот і кракадзіл,
З дарогі прошласці асвістанай абломкі!..
Рэспубліку Кастрычнік нарадзіў
Наш творчы дух загартавалі бойкі
Мы новай эры—новая зара,
Мы перагналі меркаванняў мілі.

Я звяртаю ўвагу не толькі на гэтых „кратоў і кракадзілаў", якія, на думкуКляшторнага, увасабляюць нашых ворагаў, але і на выключную абстрактнасць гэтых радкоў. Удумайцеся ў фразу: „Мы перагналі меркаванняў мілі" і адразу адчуеце празрыстую абстрактнасць, пустату гэтай фразы. Альбо ў таго-ж Кляшторнага:

Размах утрой і якасць дай
І якасць дай, і тэмпы дай, эх!

Але найбольш характэрна вульгарызацыя і апашленне паэтычнага голасу Владзіміра Маякоўскага праяўляецца ў Казлоўскага. Казлоўскі быў „лірыкам танчэйшай струны", пры тым лірыкам мяшчанскім, і вось ён пачаў перабудоўваць свой голас пад магутны голас Маякоўскага. Атрымліваецца па карлікаваму ўбога. Казлоўскі часамі настолькі высока падымае голас, настолькі пачынае высока фальшывіць, што сапраўды не разбярэш, як казаў Маякоўскі, „адкуль гук пайшоў":

Я паэтам яшчэ не быў,
Я паэтам і быць не мару:
Я прагну ў агні барацьбы
Звярнуць свайму ворагу карак.

Гэты „танчэйшы лірык" настолькі „расхрабрыўся", што пачаў крычаць:

Калі пры змаганні ўступлю ў азарт,
Ворага буду да смерці рэзаць.

Казлоўскі ўзнімае паэзіі „капур" і абяцае, што ім будзе майстраваць свае паэмы. Бачачы халтурную бездапаможнасць сваіх вершаў, Казлоўскі імкнецца іх падмяніць усім, чым хочаце: жарствой, цэглай, кельняй і крычыць, што толькі ў перамешку з жарствой яны будуць сапраўднымі, вартымі эпохі.

Нашто тут вершы—патрэбна жарства.
Трэба цэглу паліць, каб спявала пад кельняй.
Буду пакуль не ахрыпне гартань,
Рытмаваць песні цэглы з душой пякельнай.

У другім месцы Казлоўскі абяцае, што ён пойдзе „пршрубоўваць рэйкі да шпал ад Менску да Мрочак". Ён пайшоў на зусім выключную ахвяру, бо Мрочкі гэтыя знаходзяцца аж за сем кілометраў ад Менску. Ніхто, зразумела, не паверыць Казлоўскаму, што мяшчанскі дух, гэтым робленым пад Маякоўскага голасам, ён выгнаў з сябе. У вершы „Тачачнік", дзе, акрамя ўсяго, мы бачым выключную вольнасць у расстаноўцы радкоў, агаляецца ўся сутнасць „томнага" лірыка Казлоўскага. Ён піша:

Не пытай, старэнькая матуля,
Ад чаго асмуг я галавой,
Ад чаго я душу маладую
Асыпаю скаргамі півонь.
О, не плач, старэнькая, на стрэчу
Мне душы не вылячыць сляза.
Тачкамі надломаныя плечы
Я прынёс ад рання паказаць.

Акрамя абыватальшчыны, тут агаляецца і класава-варожы твар Казлоўскага, які паўстае ў вобразе мучальніка-тачачніка, што нібыта на совецкай вытворчасці зламаў сабе карак. Мы гаворым тут шмат пра Казлоўскага не для таго, каб давесці, што ён халтуршчык, а таму, што такая менавіта ўяўная перабудова характэрна для многіх паэтаў з нацыяналістычнага лагеру, і супроць гэтага мы павінны абвясціць бязлітасную вайну.

Беларускай совецкай паэзіі трэба перамагчы і хваробу рэгістрацыйных вершаў, якіх вельмі багата распаўсюдзілася за апошнія часы. Гэтая катэгорыя вершаў паказвае рэчаіснасць наступным чынам: у іх вельмі часта гаворыцца пра рабочага, пра завод, пра фабрыку, пра людзей на заводзе, пра адносіны паміж гэтымі людзьмі. Але ўсё гэта паказваецца шэра, буднічна, людзі без складаных думак і пачуццяў, яны размаўляюць адно пра выкананне промфінплана, іх думкі

і настроі ў паказе такога паэта нудныя, не цікавыя. Гэтая хвароба паўтараю, як і ўсе вышэй адзначаныя хваробы нашай паэзіі, не з'яўляюцца прыватным праяўленнем таго ці іншага паэта. Яны ў большай ці меншай ступені паражаюць і творчасць больш буйных нашых паэтаў. Вось чаму я пра іх сёння гавару.

Да рэчы пра выражэнне чалавечых пачуццяў. Успамінаецца Лермантаўскі „Парус“.

Под ним струя, светлей лазури,
Над ним луч солнца золотой,
А он мятежный ищет бури,
Как будто в буре есть покой.

Лермантаў праз парус выражае чалавечыя пачуцці, а ў нас вельмі часта паэты пра жывых людзей выражаюць „драўляныя“ пачуцці. Вось некалькі прыкладаў такой рэгістрацыйнай паэзіі, дзе і людзі ёсць, і нейкія адносіны паміж людзьмі, але сапраўднай паэзіі, па сутнасці, няма. Пытанне пра рэгістрацыйную паэзію цесным чынам звязана з пытаннем пра пісьменніцкі талент і таму я на гэта звяртаю асаблівую ўвагу.

Перада мною апошняя паэма Хведаровіча „Палітаддзел МТС“. Вось як начальнік палітаддзела размаўляе з кулаком:

Моніч дзяжурыў заўчора ноччу
Моніч, пытаю,—так?
Моніч, прашу гаварыць мне у вочы:
— Ты пракруціў на світанні бак?
Праўду кажы, не выкручвайся гадам,
Факты ў маіх руках!
Гэта агідная ціхая здрада
Замаскаванага кулака.

Бачыце, нічога тут ад сапраўднай паэзіі няма, няма тут нічога і ад рэчаіснасці. Дзе-ж гэта было, каб прыехаў начальнік палітаддзела, вызваў кулака і пачаў яму пры ўсіх калгасніках тлумачыць, што нямо жна шкодзіць совецкай уладзе, што гэта „ціхая здрада замаскаванага кулака“.

Альбо вазмеце паэму Дудара „Слуцак“. У ёй часамі, сустракаюцца не дрэнныя мясціны, накіраваныя супроць нацыянал-дэмакратаў, але ў большасці гэта паэма беспачуццёвая, без вялікіх страсцей. Дудар, напрыклад, піша пра спаборніцтва на лесапілцы:

Свіргочуць рамы—шух-шух-шу—
Сцякаюць пахкім пілавіннем.
Я пагашу, я па-га-шу
рахунак складзены краінай.

Далей ідзе цэлая ўборыстая старонка дзе апісва[illegible]ца ў рэгістрацыйных беспачуццёвых радках як ішла вайна за тэм[illegible]ы, за якасць і нарэшце мы знаходзім, што ўся гэта пісаніна ішла н[illegible]гое каб давесці, што

Звыш плана мы яшчэ, сябры,
шэсць дошак выпіліць павінны:

І вось на гэтыя шэсць дошак патрачана велізарная колькасць апісацельскіх, рэгістрацыйных паэтычных радкоў.

Альбо вазміце „маладога“ Гомельскага паэта Р. Сабаленка. Тут мы бачым рэгістрацыйную гладкопісь. Вось як апісваецца калгасная нарада:

Сышліся на сход, ды які там сход,—
На дзесяць мінут нарада.
Загарэлыя твары—вясёлы народ,
Іх спадарожнік—радасць.
Слова бярэ комсамолка Маня:
Шчэ шмат недахватаў,—патрэбна
Каб усе каласкі да звання
Пашлі на калгасны хлеб.

Прачытайце ўсю паэму і вы ў ёй не знойдзеце ні аднаго жывога месца.

Трэба тут успомніць, што гаварыў тав. Стэцкі на сходзе маскоўскіх пісьменнікаў. Нам не патрэбна голая публіцыстыка абстрактнарытарычная літаратура, нам патрэбны мастацкія творы,—вось асноўная думка тав. Стэцкага. Паэт павінен быць з вялікімі прыроднымі здольнасцямі. Толькі тады ён пры ўмове глыбокай вучобы і глыбокай работы над сабой будзе пісаць сур'ёзныя творы. Пра гэтае мы знаходзім выключныя па яркасці радкі ў В. Белінскага. Ён піша: „Быў час, калі ўсе цвярдзілі пра тое, што паэту патрэбен толькі талант і натхненне, што ён вучаны без навукі, усё ведае без навучання; што ён сам сабе суддзя і закон; што яго фантазія ёсць крыніца адкрыцця усіх тайн быцця; што ўнутраны свет яго адчуванняў і бачанняў цікавейшы ўсіх фактаў рэчаіснасці, і што таму ён можа не ведаць, што робіцца вакол яго на белым свеце, і павінен гаварыць нам, натоўпу, толькі пра самога сябе, а мы натоўп, стоячы на каленях, з разяўленым ротам павінны слухаць яго з благагавеннем, лічачы сябе шчаслівымі, калі яму ўздумаецца аблаяць нас добра, энергічным вершыкам.

Цяпер не тое: усе крычаць пра неабходнасць ведаў для паэта, пра ідэі, пра кірунак, пра спачуванне сучаснай дзейнасці, з'явілася другая крайнасць: людзі без талента паэзіі сталі рабіцца паэтамі. Ці таму, што на самай справе што небудзь ведалі і зразумелі, ці таму што захапілі некалькі чужых хадзячых думак і палічылі іх сваімі уласнымі. Без прыроднага, непасрэднага талента творчасці немажліва быць паэтам. Тут не дапамогуць ні веды, ні вучонасць, ні розум, ні характар ні нават здольнасць глыбока адчуваць і разумець прыгожае. Але і аднаго прыроднага талента мала. Можна яшчэ абыйсціся без навукі як навукі; але немажліва не стаяць па адукацыі нараўне з сваім векам, нельга абыйсціся без жывой кроўнай сімпатыі, з духам, кірункам, надзеямі, радасцямі і хваробамі,—словам, з усім дабром і злом сваёй эпохі".

Гэта зусім правільна, што сустракаюцца часта такія паэты, якія нахапаюць чужых думак, і ўяўляюць, што гэта іх уласныя. Паэт павінен мець вялікі талент і вялікую кроўную зацікаўленасць з духам і кірункам эпохі. Таму ў паэзіі рэгістрацыйнай і яе прадстаўніках у абстрактнай одапісі, у паэтаў пра бетонамешалкі і вагранкі наогул— мы павінны бачыць як раз тых людзей, якія кроўна не зацікаўлены духам і кірункам эпохі, яе гіганцкімі соцыялістычнымі справамі. Сапраўдны соцыялістычны паэт будзе такім паэтам, які будзе усёй сваёй істотай, усімі сваімі пачуццямі, усімі сваімі думкамі, кожным сваім атамам адчуваць вялікае і высокае слова „эпоха соцыялізма". Гэта будзе чалавек-будаўнік і актыўны ўдзельнік вялікай соцыялістычнай эпохі.

Вось у Андрэя Александровіча сустракаецца таксама адзін грэх. Гэта замена ўсяго комплекса фармальных сродкаў вершу, адным з іх. Бывае так, што Александровіч іграе на адным рытме, забываючы пра тое, што слова мае і сэнсавы бок. І вось рытмічна верш гучыць добра, а сэнсавы бок парушаны. Гэта асабліва ярка у яго „Песні першамая":

> Зрокаў цень
> З вока здзень,
> Першамайскі крочыць дзень!
> Веснавой зары далонь
> Рассыпае свой агонь.
> Ён рэзлівамі ў вачох—
> Грае славай перамог,
> Зьяе дружбаю людзей
> Большэвіцкіх дум і дзей.

Асноўная хіба такой пабудовы вершу заключаецца ў тым, што сэнсавы бок твору прыходзіць у нямінучую супярэчнасць з рытмічнай лёгкасцю і ігрывасцю вершу. Такая пабудова твору цесным чынам звязана з фармалістычнымі ўплывамі на творчасць паэта і Александровіч павінен пазбаўляцца гэтых уплываў.

Падагульваючы трэба сказаць, што рэканструкцыйны перыяд выклікаў у паэтаў новыя дачыненні да соцыялістычнай рэчаіснасці, ён штурхнуў нашу паэзію на кроўную звязанасць з соцыялістычнай эпохай, ён вызваліў нашу паэзію ад есенінршчыны, ад абывательскай, упадніцкай лірыкі.

Заўсёды рост паэзіі выклікаў яркую і выразную дыферэнцыяцыю паэтычных галасоў. Адным з паказчыкаў вялікага росту ў нашай паэзіі з'яўляецца выпрацоўка сваіх уласных спосабаў і прыёмаў творчасці ў кожнага з асноўных нашых паэтаў. Калі ў перыяд нэпа мы мелі выразную, утрыраваную аднабаковасць у распрацоўцы тэм і падыходу да прыроды, да рэчаіснасці, дык па меры росту нашых паэтаў яны пачынаюць гаварыць пра эпоху соцыялізма сваім адменным паэтычным голасам. Вазьміце вы такога паэта, як Андрэй Александровіч. Яго паэма „Цені на сонцы" была такім творам, які, акрамя таго, што дапамагаў нашаму змаганню супроць нацыяналістычнай контррэволюцыі, але і быў новым творам у фармальных адносінах. Сатырычны верш, якім дасканала валодае Александровіч у паэме „Цені на сонцы", стварае тонкія не шаржыраваныя вобразы класавых ворагаў пралетарыята. Другая якасць, якая таксама выразна вызначалася ў паэме „Цені на сонцы", гэта спалучэнне сатырычных элементаў з лірычнымі. Александровіч сатырычным вершам гаворыць пра нашых ворагаў і лірычным голасам пра беларускую соцыялістычную краіну:

Краіна родная, совецкая краіна<br>
Табе я ў песнях сэрца аддаю.

Вы ўбачыце ў гэтай паэме Александровіча адчуванне новага соцыялістычнага скрозь тхлань старога і варожага. Александровіч малюе у заключнай частцы паэмы перспектывы росквіту, якія паўстаюць перад беларускай рэспублікай. Выпрацоўка свайго паэтычнага голасу, сваіх паэтычных прыёмаў ішла ў Александровіча і праз новае пролетарскае выкарыстанне фальклору. Гэта асабліва яскрава мы бачылі у вершы „Сасна", у п'есе „Напор", у паэмах „Векапомная восень", „Шчаслівая дарога". Трэба заўважыць, што апошнія паэмы Александровіча „Векапомная восень", „Прыгранічная вясна" як па лініі выкарыстання фальклора, так і па лініі кампазіцыйнай будовы, з'яўляюцца крокам наперад. Да рэчы пра кампазіцыю. Мы не раз падкрэслівалі, што кампазіцыйная выразнасць пабудовы твору з'яўляецца момантам, вырашальным у паэзіі. Вазьміце паэму Александровіча „Векапомная восень". Пры ўсіх сваіх фармальных недахопах і памылках з кампазіцыйнага боку яна пабудавана менавіта так, як павінен будавацца паэтычны твор. Нават моманты інтрыгі, найбольш цяжкія для ўвядзення ў паэтычны твор, добра даны Александровічам. Такім чынам мы можам адзначыць наступныя асноўныя паэтычныя перамогі Александровіча за гады рэканструкцыйнага перыяда. Александровіч за гэтыя годы вырас у баявога большэвіка-паэта, які ставіць найбольш актуальныя і баявыя пытанні ў сваёй паэтычнай творчасці. Александровіч набыў свой адменны паэтычны голас. Александровіч паказаў добрыя спробы выкарыстоўвання фальклора, аратарскага паэтычнага голасу, і нарэшце дасягнуў дадатных вынікаў у кампазіцыйнай будове сваіх твораў.

Альбо такі паэт, як Пятрусь Броўка. Броўка якраз на працягу многіх гадоў шукаў свайго паэтычнага голасу. Мы не заўважалі Броўку, як паэта тады, калі ён гаварыў голасам падобным на галасы дзесяткаў іншых паэтаў. Мы заўважылі Броўку, як паэтычную фігуру, калі ён загаварыў пра зямлю, пра большэвіцкую социялістычную зямлю, якая просіць, каб яе грудзі ўклалі гноем, каб яе даглядалі і кармілі каліем, тады яна родзіць вялікі ўраджай. Мы заўважылі Пятруся Броўку тады, калі ён склаў лірычныя радкі пра Сцяпана Байлука—выдатнага калгасніка з Барысаўшчыны. Мы заўважылі Броўку тады, калі ён стварыў надзвычай страстныя вершы пра гераічных чырвонаармейцаў Самарскай дывізіі, якія праз франты пранеслі сцяг рэволюцыі. Якраз вялікая паэтычная страстнасць і любоў да эпохі соцыялізма з'яўляецца момантам, вырашальным для савецкага паэта. І вось гэтыя якасці Пятруся Броўкі высунулі яго адразу ў лік лепшых нашых паэтаў. І Александровіч, і Броўка, першы ў большай ступені, другі ў меншай, насычаюць сваю паэзію баявымі палітычнымі лозунгамі. І гэта зусім не з'яўляецца заганай іх творчасці, бо гэтыя лозунгі пачуццёвыя, патэтычныя і выражаюць яны вялікую адданасць соцыялістычнай справе. Але паміж Александровічам і Броўкам мы заўважаем не толькі агульнае, мы заўважаем і тое, што мастацкія метады падыходу іх да рэчаіснасці акрэслены розныя. І гэта якраз забяспечвае найбольш поўнае развіццё іх абодвух, як паэтаў.

Якраз таго, чым жыла паэзія Пятруся Броўкі,—страстнасць, пафас,—на працягу доўгіх часоў не хапала Пятро Глебку. У творчым шляху Глебкі заўсёды найбольш трывожыла чытача тое, што гэты паэт з пэўным запасам паэтычнай культуры займае нейкае прамежнае месца паміж паэтамі і не гаворыць яркім, арыгінальным паэтычным голасам. Мы гаварылі, што ў Глебкі шмат рацыяналістычнага, „сухога“ ў паэзіі. А вось ў апошні час мы з радасцю заўважаем, што Глебка праклад-вае шляхі новай савецкай лірыкі, лірыкі глыбокай і поўнай рэволю-цыйнай страсці. Гэта найбольш яскрава відаць у яго вершы „Кара“ пра смерць большэвіка і ў вершы „Вясёлыя песні“, пра якія гаворка будзе далей. Цікава, што такія два паэты, як Броўка і Глебка, могуць дапаўняць адзін другога. Калі ў Глебкі пераважае рацыяналізм і разважлівасць, дык у Броўкі пераважае пафас. І тут своеасаблівы „обмен веществ“ паміж двума паэтамі можа прынесці вялікую карысць абодвум.

Асобнае месца ў нашай паэзіі займаюць Аркадзь Куляшоў і Алесь Зарыцкі. У іхняй паэзіі багата агульнага захаплення прыродай, імкнення гаварыць ад імя вялікага голасу прыроды, аб рэках, аб дубровах, аб пячорах, пра ўсё тое, чым жыве прырода. Зразумела, што паэма Куляшова „Аманал“ паэма бездапаможная і наіўная, але нават у ёй мы знаходзім выключныя лірычныя месціны, як напрыклад жніво на радзіме Калюжнага, смерць настаўніка і інш. Куляшоў і Зарыцкі распрацоўваюць спалучэнне лірыкі з эпасам. Іх нешматлікія творы, „Крыўда“, „Эпічныя фрагменты“, але высокія па мастацкай якасці высунулі іх ў першыя рады нашай паэзіі.

З маладых паэтаў расце Зяма Півавараў. У яго кніжцы „Лірыка двух нараджэнняў“ мы знаходзім шмат неапрацаваных вершаў, але асобныя вершы і нават асобныя строфы некаторых вершаў гавораць пра рост Піваварава. Вось верш „Мы рабочыя такелажнікі“:

> Паравозы на рэйкі турксібскія
> Узнялі не дамкратамі, воляю.

У гэтым вершы мы адчуваем паэта, якому вытворчасць, рабочае жыццё найбольш блізка і зразумела. І ён гаворыць пра яго смела і ўпэўнена.

Пасля доўгага перыяду блуканняў то па нацыяналістычных шляхах, ці то ў багне мяшчанскай лірыкі рост паказвае паэт Сяргей Дарожны. Адменнай рысай яго вершаў з'яўляецца перадача ўзнятага, пафаснага настрою паэта, праз спакойныя вершаваныя, лірычныя радкі. Яго верш пра паход „Чэлюскіна", з'яўляецца лепшым з ліку тых, што надрукаваны за апошнія часы.

Цяжэй адбываецца працэс перабудовы Кляшторнага і Маракова. Паэзія Кляшторнага неправільна і аднабакова скіравалася на абстракцыю, на няапраўданую лазунговасць, між тым як Маракоў працуе зусім іншымі метадамі. Ён лічыць, што праз старыя есенінскія мяшчанскія вобразы можна выразіць і героіку соцыялістычнага будаўніцтва. І вось гэтая непрымірымая супярэчнасць тармозіць творчую перабудову Маракова, у яго і цяпер яшчэ пераважаюць вобразы мяшчанскай паэзіі.

Складаней справа ў паэта Уладзімера Хадыкі. Ніхто ніколі не адмаўляў, што Хадыка паэт вялікай сілы. Прыходзяць на памяць зусім выключныя па сіле радкі, якімі аднак Хадыка выражае ўпадніцкую ідэю. Ідэю сканання, смерць:

Паду на сухазем'е лістам
Начэй ўладар і дзён уладар,
Вятры па горле галасістым
Прагоняць вір крыві і хмар.
Тады сваіх здабыткаў кайстру,
Што не дабраў, што стойваў сам,
Я перадам другому майстру
Другому сэрцу перадам.

Справа ў тым, што творчасць Хадыкі абцяжарана вялікім грузам нацыяналізма. Цяжкасці перабудовы Хадыкі вынікаюць яшчэ і з таго, што Хадыка лічыць, што яго старыя метады і прыёмы творчасці яшчэ могуць быць прыгоднымі ў стварэнні соцыялістычнай паэзіі. Няма сумнення, што Хадыка шчыра хоча служыць соцыялістычнаму будаўніцтву, аднак, усе спецыфічныя фармальныя прёмы Хадыкі—прынцыпы разарванай кампазіцыі, складанасць слоўнага вобразу, ён пераносіць у свае новыя, праўда пакуль што, дэкларацыйныя вершы пра соцыялістычнае будаўніцтва. Вызваляючыся ад грузу нацыяналізма паэт Хадыка павінен вызваліцца і ад грузу сваіх старых фармальных сродкаў, толькі тады яго вялікі талант зможа служыць нашаму будаўніцтву.

На паэтычнай нарадзе ўвосень 1933 года я прыводзіў вершы Крапівы ў якасці прыклада, як трэба будаваць кампазіцыйна закончана і стройна твор. Гэтую сілу кампазіцыйнай закончанасці твору верш Крапівы атрымлівае ад закончанасці і аформленасці думкі. Адной з галоўных якасцей сатыры Крапівы з'яўляецца тое, што ён змог вясковы юмар, вясковую сатыру ўзняць на ідэйную і фармальную вышыню, зрабіць свае вершы культурнымі. Ясна, што некаторыя з ранніх вершаў Крапівы можна было-б абвінавачваць у натуралістычнай залежнасці ад вёскі, але галоўныя творы Крапівы гэтая якасць не характарызуе. Сатырычная паэзія, якая распрацоўваецца Крапівой, з'яўляецца асабліва карыснай у нашым змаганні супроць недабітых рэштак класава-варожых элементаў, супроць балячак і наростаў на совецкім дзяржаўным арганізме. Калі мы прыгадваем верш Крапівы „Кувалда", дык ён з'яўляецца добрай одпаведдзю апартуністам, што падобны на таго дзядзьку, які замест таго, каб дапамагаць справе крычыць, што ўсё яму баліць. Альбо верш „Ці я над яслямі сумую", дзе так выразна для сатырычнага жанру вызначаецца супярэчнасць

формы і зместу, выкарыстоўванне формы пушкінскай элегіі для агітацыі супроць кулацкага зарэзу коняй у дні калектывізацыі. Астрата канцовак, значныя ідэі, якія ўкладае Крапіва ў свае сатырычныя вершы, робяць яго творы жалезным фондам нашай совецкай паэзіі. Крапіва не абмяжоўваецца, як некаторыя хочуць гэта сцвярджаць, выключна вясковай тэматыкай. У гэтым сэнсе найбольш яркі твор „Махальнік Іваноў", які разбройвае падхалімаў і які даны зусім на новым для Крапівы жыццёвым матэрыяле.

Вялікі ідэйна-палітычны і творчы рост мы бачым за апошнія гады у Янкі Купалы і Якуба Коласа. Паэма Янкі Купалы „Над ракой Арэсай" не раз разглядалася нашай крытыкай. Яна звяртае на сябе ўвагу і ў сувязі з выкарыстоўваннем фальклора у паэтычнай творчасці. Да паэмы „Над ракой Арэсай" Купала пераносіў фальклорныя элементы ў сваю паэзію, без якога-б та ні было крытычнага падыходу да іх. А ў дарэволюцыйныя часы ён вельмі часта выкарыстоўваў і містычныя элементы фальклору. У паэме „Над ракой Арэсай" фальклор вызначае ўвесь тон твору, прытым фальклорныя элементы скарыстаны на ўсхваленне нашага пераможнага росту.

Асобна стаіць пытанне пра стварэнне вялікіх эпічных палоцен. Пра гэта, як і пра пытанне фальклору, я буду гаварыць далей. Тут справа стварэння вялікага эпічнага палатна цікавіць мяне толькі ў сувязі з выхадам з друку новага выдання паэмы Якуба Коласа „Новая Зямля". Паглядзіце, які размах у паэме, якая распрацоўка асобных дэталяў, якое багатае веданне жыцця, які гіганцкі матэрыял трэба было накапіць пісьменніку, каб з такой паслядоўнасцю адначасова зацвердзіць і разбурыць сілу ўласнасці. Якраз у гэтым творы з аднаго боку Якуб Колас зацвярджае сілу ўласнасці, з другога боку разбівае яе. Якраз у гэтым трагічная супярэчнасць і адсюль трагічная развязка лёсу галоўнага героя Міхала. Калі ўсім дэтальным і шматгранным паказам прывабнага ўласніцкага жыцця селяніна (успомніце раздзелы „Падгляд пчол") Колас зацвярджае сілу ўласнасці, дык смерцю Міхала ён уласнымі рукамі разбурае гэтую страшную сілу ўласнасці. Стварэнню твора, напоўненага важнымі канфліктамі, стварэнню твора вялікай эпічнай сілы мы павінны вучыцца ў Якуба Коласа. Колас, даючы ў такой вялікай колькасці раздзелаў побыт вёскі, нідзе не паўтараецца толькі таму, што ён адчуў, вывучыў, выпакутваў увесь гэты жыццёвы матэрыял і ўсё гэта дало яму сілы з такой паслядоўнасцю выразіць сваю ідэю ў вялікім эпічным творы.

Вось чым характарызуецца рост нашай паэзіі за гады першай пяцігодкі і першыя гады другой пяцігодкі. Мы бачым вялікі рост культуры паэтычнага майстэрства, мы бачым удасканаленне і развіццё асобных відаў, асобных форм, асобных жанраў нашай паэзіі. На фоне гэтага росту і ўсяго таго адмоўнага, што павінна перамагчы наша паэзія і пра што я гаварыў вышэй, устаюць новыя задачы, новыя складаныя праблемы перад нашай паэзіяй.

### III.

Ужо цяпер відавочна для многіх паэтаў, што рост і развіцце соцыялістычнай лірыкі, лірыкі новага чалавека — будаўніка бяскласавага грамадства, з'яўляецца адным з тых асноўных і правільных шляхоў, па іх павінна развівацца наша паэзія. Не ўваходзячы глыбока у філасофскую сутнасць пытання пра развіццё соцыялістычнай лірыкі, мы можам упэўнена сказаць, што чым больш чалавек будзе вызваляць сябе ад сілы і традыцый старога грамадства, тым больш будзе развівацца і працвітаць паэзія асабовых пачуццяў, адчуванняў, думак

і настрояў, тым больш будуць развівацца пачуццёвыя дачыненні чалавека да свету па за сабой, да прыроды, да дрэва, кветак, усіх складаных фарбаў прыроды; да людзей—каханне, дружба, адчуванне жыцця, смерць і інш. Усе мерапрыемствы ленінскай партыі і яе правадыра т. Сталіна ў галіне мастацкай літаратуры, ад гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) ад 23/IV-34 г. да апошніх пастаноў пра школу, накіравана на паглыбленне кола тэм і праблем нашай літаратуры, на ўдасканаленне яе мастацкага, эстэтычнага боку. Вазьміце такое пытанне як лірыка прыроды. Зразумела, што ў нашыя часы і разуменне самае прыроды значна паглыблена і дачыненні паэта да прыроды павінны быць прынцыпова новыя, і супроцьлеглыя як гэта было, скажам у паэтаў дэкадэнтаў і буржуазных нацыяналістаў. Але глыбокае адчуванне пейзажу, дрэва, кветак, вясны—усё гэта павінна выражацца ў творах нашых совецкіх паэтаў. Тут справа не ў тым, каб адлюстраванне ўсяго гэтага супроцьстаўляць адлюстраванню працэсаў вытворчасці, а наадварот, каб спалучыць працэсы вытворчасці, паказ рабочых людзей з прыгожасцю прыроды. Менавіта да гэтага імкнуцца рабочыя нашай перадавой вытворчасці. Мы маем ужо шматлікія факты азеляненне цэхаў і гэтае азеляненне з'яўляецца не толькі фактарам гігіенічным, але і фактам эстэтычным.

Невыпадкова, што ў дзяцей у школах, да гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) пра школу, выхоўвалі здольнасць адчуваць прыгаство прыроды, прыблізна, на такіх вершах, пра якія пісалі ў сваім фельетоне Ільф і Пятроў:

> Эй, ребята, выйдем в поле,
> Вырвем с корнем конский хвост.
> Рвите ценный конскій волос и т. д.

Такім чынам, паказваючы новага чалавека ў паэзіі, гэтага чалавека трэба паказваць поўна ў яго дачыненнях да працэсаў вытворчасці і да ўсіх з'яў і працэсаў жыцця. І вось совецкая лірыка прыроды, прырода, якая па новаму будзе паказана совецкім пісьменнікам, павінна заняць пачэснае месца ў нашай новай соцыялістычнай паэзіі. Характэрна, што за гады першай пяцігодкі мы не мелі бадай і ніводнага самастойнага верша пра прыроду ў беларускай совецкай паэзіі.

Калі вызначаць асноўныя задачы, якія стаяць перад нашай совецкай паэзіяй ў сувязі з развіццём лірыкі, мы можам сказаць: справа не толькі ў тым, каб у вершы быў сюжэт, фабула, персанажы. Ясна, што гэта з'яўляецца вельмі важным для развіцця паэзіі, але гэта не знімае пытання аб лірычнасці верша. Самае галоўнае, каб паэтычны голас аўтара, або голас героя быў хвалюючым. Адчуванні рабочага, калгасніка, совецкага інтэлігента, які паказваецца ў творы, павінны быць значныя, важныя і, я-б нават сказаў, нязвычайныя, не шэрыя і не будзённыя. У паэта павінны быць глыбока лірычныя дачыненні да ўсіх з'яў і працэсаў нашага будаўніцтва. У гэтым сэнсе вялікіх поспехаў дасягнуў малады паэт Алесь Зарыцкі. Алесь Зарыцкі у вершы „Дзень індустрыялізацыі“ піша пра мітынг на заводскім двары. Які-небудзь паэт „звышіндустрыял“ стварыў-бы пейзаж з карпусоў, труб, дыму, а ў Зарыцкага наадварот рабочая маса глыбока адчувае прыроду. У мітынг урываюцца парывы ветру.

> І вецер плыў па чалавечай лавіне
> Паўдзённы, шчаслівы ад шыры і моцы,
> І рамшчыкі, і слесары, апырсканыя плавіннем,
> Цяклі і цяклі да прамоўцы...

Выступаючы за развіццё новай социялістычнай лірыкі, мы разумеем гэта такім чынам, што паэт не павінен абмяжоўваць сябе толькі глыбокімі лірычнымі дачыненнямі да прыроды, або нават да чалавека, да рабочага ўдарніка; яго лірыка павінна гаварыць нам і пра нашу новую соцыялістычную тэхніку. І пра домны, і пра вагранкі павінен пісаць такі паэт, адно ён павінен па новаму паказаць нам магутную соцыялістычную тэхніку, адыйсці ад існуючых шаблонаў, ад існуючых схем (да рэчы, схем малапісьменных) пры паказе нашай соцыялістычнай тэхнікі, паказаць яе па-новаму ва ўсёй яе прыгожасці і велічы. Выступаючы за развіццё новай соцыялістычнай лірыкі, мы адначасова выступаем супроць лірыкі нацыяналістычнай па сваёй ідэалогіі, лірыкі абмежаваных пачуццяў і настрояў, якой з'яўляецца лірыка Хадыкі.

Я ўжо вышэй гаварыў, што ў сапраўднай новай лірыцы павінны быць нейкія новыя пачуцці, пачуцці незвычайныя, і яны павінны выражацца ў новай мастацкай форме. Гастрыня вершу, многагранласць пачуцця, блеск формы і думкі, уладанне гіранічным вершам,—усё гэта павінна быць якасцямі нашай совецкай лірыкі. Я падкрэсліваю вялікае дадатнае значэнне апошняга верша Глебкі „Вясёлыя песні". Нельга сказаць, што гэта верш з пункту гледжання формы—дасканалы. Аднак, ён вызначае новы кірунак, новы шлях у творчым развіцці Глебкі. У ім па-новаму выражаны такія адчуванні, і у такой форме на якую небагата беларуская совецкая паэзія. У вершы гутарка ідзе пра совецкага марака і рабочую дзяўчыну, пра іх каханне.

У гэты час пад-поўнач,
З усіх канцоў зямлі
Нагружаныя поўна
Прыходзяць караблі.

. . . . . . . . . . .

Ад першай нашай стрэчы,
І па астатні дзень
Мы ходзім кожны вечар
На мора паглядзець.

Верш невялік, аднак, мы ў ім адчуваем і постаць марака, і постаць дзяўчыны, абаіх людзей совецкай краіны, гордых за сваю соцыялістычную радзіму, якія маюць права на радасць, на шчасце, на сонца, на весялосць. Мы адчуваем, як яны ідуць да порта, як яны жартуюць, як яны смяюцца, маючы пад сабою вольную совецкую зямлю і за сабою прасторы совецкіх марэй. Звяртае на сябе ўвагу і кампазіцыйная будова гэтага верша Глебкі. Праз увесь верш праходзіць адна думка ў іранічнай варыацыі яе. Такая-ж вялікая паэтычная ўдача пасцігла і паэта Алеся Зарыцкага ў яго вершы „Перабежчык". Гэта верш пра смерць баявога таварыша—брата па класаваму змаганню маладога хлапца Заходняй Беларусі, які імкнуўся пабачыць радасны совецкі сцяг на совецкай зямлі. Але на самай мяжы яго забілі белапольскія жандары. Совецкія комсамольцы—соўгасаўцы хаваюць яго, як свайго роднага, і праз іх паэт выразіў вялікую ненавісць да белапанскіх жандараў і вялікую любоў да свайго класавага брата. Вось малюнак пахавання яго:

А мы, як след, падраўнялі зямлю,
Пад хвояй старой і пахілай,
І нам застаецца апошні салют
Аддаць над яго магілай.
І ахнулі сем дубальтовак дружна
І ў пушчах ласіных залп застываў
І плыў далей урачыста і мужна
Ярасці нашай дзевяты вал.

Такія-ж вялікія поспехі ў галіне лірыкі паказвае і Аркадзь Куляшоў у сваёй новай паэме „Гарбун". Лірыка ўваходзіць, як паўнацэнны і раўнапраўны элемент, і ў эпічныя творы. Александровіч у сваёй новай паэме „Шчаслівая дарога" уводзіць шмат элементаў лірыкі. Бадай усе асноўныя малюнкі гэтай паэмы афарбованы глыбокім суб'ектыўным падыходам і суб'ектыўнай ацэнкай аўтара ўсіх падзей. Паэма Александровіча „Шчаслівая дарога" ёсць выразны паказальнік і роста нашай эпічнай паэзіі, і роста самога паэта Александровіча, бо тут пісьменнік пераходзіць да канкрэтных чалавечых вобразаў, пры тым узята ім смелая тэма і смела выршана. Паэма мае акрэсленае сюжэтнае развіццё. На нашых вачах адбываецца развіццё, рост героя, перавыхаванне яго. Ясна, што гэты твор, які распрацоўвае тэму соцыялістычнага будаўніцтва на канкрэтных і складаных жыццёвых канфліктах, ёсць паказальнік нашага росту, нашага поступу наперад.

Я вышэй гаварыў, што твор павінен распрацоўваць нейкую значную тэму, павінен адсвечваць гастрынёю і досціпам. Адно не трэба гэты досціп ператвараць у дзікую, або дурную дасціпнасць. Гайнэ, найвялікшы па сіле гастрыні і досціпу паэт, пісаў пра гэта: „Гастрыня, узятая сама па сабе, наогул не мае каштоўнасці. Гастрыня цярпіма толькі тады, калі яна грунтуецца на сур'ёзнай аснове. Звычайная гастрыня ёсць проста разумовае чханне, паляўнічы сабака, які ганяецца за ўласнай ценню, малпа ў чырвонай куртцы, якая грымасьнічае паміж двума люстрамі, ублюдак, зачаты сярод вуліцы, на хаду шаленствам і розумам".

Такім чынам ясна, што толькі на сур'ёзнай аснове, толькі выражаючы вялікую ідэю, гастрыня твору будзе дапамагаць мастацкасці і глыбіні паэзіі.

Падагульваючы сказанае пра развіццё лірыкі, пра развіццё эпаса, трэба выразна падкрэсліць, што: нам патрэбны творы, якія-б не наогул крычалі: ура, мы дасягнулі, мы перамаглі, а нам патрэбны паэтычныя творы, якія-б паказвалі людзей, што твораць нашу рэволюцыйную, гераічную рэчаіснасць. Нам патрэбны вершы з глыбокімі драматычнымі канфліктамі. Нам патрэбны вершы пра нашу большэвіцкую мужнасць. Перад паэтамі тут разгортваюцца тэмы і сюжэты, якіх не бачыла ўся мінулая сусветная гісторыя. Чэлюскінская эпапея, якая ёсць ўвасабленне найвялікшае мужнасці, найвялікшага гераізма, найвалікшае адданасці большэвікоў совецкай краіне, можа быць матэрыялам для стварэння твораў сусветна-гістарычнага значэння. Вельмі часта ў нас на сур'ёзныя тэмы пераважаюць лёгкавесныя, не сур'ёзныя творы. А перад намі шмат матэрыялу для стварэння найвялікшага твору, якога ніколі не бачыў яшчэ свет, пафаснага і трагічнага характару. Я маю, напрыклад, на ўвазе адзін шчаслівы і другі трагічны палёт у стратасферу. А ці не паказаў перад тварам фашысцкага суда Дзімітраў найвялікшую мужнасць, на якую толькі здольны большэвікі? Паэтам нашым трэба зразумець, што ўсё гэта такія тэмы, якіх не мелі пісьменнікі ніводнага мінулага пакалення. Гэта такія тэмы, якім могуць пазайздросціць найвялікшыя розумы чалавецтва. Гэта такія тэмы, якія могуць усхваляваць вялікі пачуццёвы дух паэта. Такога выключна багатага падзеямі часу,у які жывуць нашы пісьменнікі, не бачыла яшчэ ніколі чалавечая гісторыя,

Вось ён, вялікі жыццёвы матэрыял для стварэння новай соцыялістычнай лірыкі.

Мы не раз звярталі ўвагу на тое, што пафас, страстнасць у паэзіі з'яўляюцца момантамі вельмі важнымі. У паэзіі патрэбен вялікі пафас,

вялікая паэтычная страстнасць. Аднак, нельга думаць, што толькі гэта вырашае поспех паэтычнага твору. От возьмем да прыкладу апошнюю паэму Пятруся Броўкі „Так пачыналася маладосць“. Я-б не сказаў, што гэта паэма ёсць няўдача паэта. Наадварот, яна яшчэ ёсць яго поспех. Але яна надзвычай паказальна ў тым сэнсе, што адным пафасам нельга існаваць, што адной страснасцю нельга ствараць вялікія паэтычныя творы. Патрэбны яшчэ „кармы“ нейкай большай канцэнтрацыі. Агульная культура вершу, у прыватнасці культура слова, як раз ёсць тое, чаго не хапае Пятрусю Броўку. І, зразумела, пафас нельга ператвараць у тое, што паэт павінен цалкам „выспеўваць“ сябе ў творах. Вельмі важна, каб пафас непадмяняўся крыкам. Бо крыкам нічога нельга дасягнуць. А як раз паэма „Так пачыналася маладосць“ хварэе на гэтыя недахопы. Паэт, акрамя пафасу, страстнасці павінен яшчэ дасканала валодаць ціхім паэтычным голасам, валодаць сваімі пачуццямі і па свайму культурнаму ўзроўню павінен быць куды з большым запасам ведаў, ні-ж ён гэта выкладае ў сваім творы. Ці-ж не недахоп культуры слова характарызуе тая, адзначаная ўжо, з'ява ў паэме Броўкі, што эпітэт „гарэння“ і „звяры“ ужываецца безліч разоў. Паэма Пятруся Броўкі „1914 год“ паказвае, што ён шукае новых шляхоў для сваей паэзіі, што ён шукае спалучэння пафаса з паказам рэчы, прадмета, чалавека.

Колы і расійскіх і беларускіх паэтаў цікавіць ўсё больш і больш пытанне пра матэрыялізацыю, пра так званую рэчавасць вобраза ў паэзіі. Матэрыялізацыя вобразу, скульптурная яркасць і выразнасць чалавека, звера, прадмета з'яўляецца вялікай зброяй паэзіі. Наша паэтычння моладзь пачынае ўсё больш і больш захапляцца такім метадам паказу рэчаіснасці. Унаследуе яна гэтыя прынцыпы ад Эдуарда Багрыцкага, а ў рэакцыйнай частцы паэтаў яно ідзе ад буржуазных акмеістаў. Найбольш яркім творам, дзе агаляецца прадметнасць вобразу, матэрыялізацыя вобразу ў Багрыцкага ёсць верш „ТБЦ“. Аднак маладыя паэты, унаследуючы прынцыпы матэрыялізацыі вобразу, вельмі часта даводзяць яго да крайнасці. Напрыклад, у ленінградскага паэта Карнілава гэта прымае абрысы фізіялагічнай адчувальнасці, грубасці, празаічнасці. Добра, калі ў творы адзін раз прысутнічаюць „рагатыя валы“, якія з'яўляюцца сімвалам земнасці, але калі яны пачынаюць з'яўляцца ў кожным творы, тады справа набывае характар нейкай несур'ёзнай паэтычнай гульні. Аркадзь Куляшоў—паэт вялікіх здольнасцяй і мажлівасцяй, аднак ён злоўжывае прынцыпамі матэрыялізацыі, рэчавасці вобраза, і самае горшае, што гэтыя матэрыялізаваныя, скульптурна-выразныя вобразы ў яго пачынаюць паўтарацца.

Калі-ж мы возьмем Эдуарда Багрыцкага, дык пабачым, што ў яго матэрыялізацыя вобраза спалучаецца з магутным песенным голасам, з вялікай лёгкасцю і гібкасцю верша. Напрыклад, паэма „Смерць піонеркі“. Альбо возьміце нават яго верш „ТБЦ“. Там матэрыялізацыя вабразу спалучаецца з вялікім пафасам рэволюцыі. Вось як ён піша пра Фелікса Эдмундавіча:

> И я почувствовал тяжкий груз
> Опущенной на плечо руки,
> Подстриженный по солдатски ус
> Тоже касался моей щеки.
> И стол мой раскидывался, как страна:
> В крови и чернилах квадрат сукна
> . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> О, мать революция, не легка,
> Трехгранная откровенность штыка!

Такім чынам ясна, што скульптурнасць, „рэчавасць" вобраза павінна спалучацца з вялікай песеннасцю, пафасам, рытмічнай гібкасцю і лёгкасцю верша. Інакш яна ператворыцца ў паэтычныя празаізмы, якія толькі будуць абцяжарваць верш.

Вялікае значэнне для далейшага развіцця нашай паэзіі будзе мець правільная пастаноўка пытання пра ўнаследванне фальклора ў паэзіі. На мой погляд унаследванне фальклора адбываецца па трох асноўных лініях. У расійскага паэта Эдуарда Багрыцкага старыя фальклорныя элементы, песні кабзароў,—выкарыстоўваюцца для ўсхвалення гераічнага поступу рэволюцыі ў дні грамадзянскай вайны. Найбольш характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца песня кабзара ў оперы „Дума пра Апанаса", пабудаваная цалкам у народных тонах. Тут старыя фальклорныя элементы выкарыстаны на выражэнне новага рэволюцыйнага зместу. Часамі такое выкарыстоўванне фальклора адбываецца і праз новую трактоўку старога аб'екта народнай творчасці. Напрыклад, такі ўзор выкарыстання фальклору дае нам Александровіч у сваім вершы „Сасна". Узяты стары аб'ект, але ён па-новаму пададзены, па-новаму ацэнены і выражаны паэтам.

Другі ўзор выкарыстоўвання фальклораў мы знаходзім у расійскага паэта Пракоф'ева. Тут выкарыстанне старога фальклору, ладажскай песні адбываецца праз спалучэнне яго з разгаворнай мовай, нават „косноязычной" гарадскога прадмесця. Старая ладажская песня спалучаецца з разгаворнай мовай чырвонагвардзейцаў, чырвоных партызан. Адсюль і вельмі часта сумысная, няправільная пабудова сказу. І ўяўленне ад многіх лірычных вершаў Пракоф'ева такое, што гаворыць не сам аўтар, а чырвонагвардзеец, або партызан, дарэшты адданы і захоплены грамадзянскай вайной. Такое спалучэнне старых фальклорных форм з новым фальклорам, народжаным рэволюцыяй, на мой погляд, будзе мець перспектывы на сваё развіццё.

І нарэшце трэці від выкарыстоўвання фальклора мы знаходзім у буржуазных нацыяналістаў і ў кулацкіх пісьменнікаў. Успомніце паэму Дубоўкі „І пурпуровых ветразяй узвівы". У гэтай паэме выкарыстаны кулацкія элементы фальклору і накіраваны яны супроць пролетарскай дыктатуры. Дубоўка бярэ старыя легенды, забабоны, пераліцоўвае іх на свой лад і адна з гэтых легенд аказваецца накіраванай супроць партыі, яна высмейвае змаганне за генеральную лінію партыі; другая гаворыць, што ў Совецкай Беларусі той, хто больш клапоціцца пра краіну і лье за яе слёзы, сам-жа на ўласнай спіне носіць цяжар гэтых слёз (так званае апавяданне пра слёзы). Такім чынам мы бачым, што Дубоўка выкарыстаў фальклор супроць пролетарскай рэволюцыі ў сваіх контррэволюцыйных мэтах. Такое-ж выкарыстоўванне фальклора мы мелі ў нацыяналіста Ліхадзіеўскага. Для расійскай паэзіі найбольш характэрным прыкладам рэакцыйнага выкарыстоўвання фальклора з'яўляецца паэт Павел Васільеў.

Апошняе пытанне, гэта пытанне пра філасофскую глыбіню ў паэзіі. Нам, зразумела, патрэбна глыбока філасофская паэзія. Гэта зусім натуральна і зразумела. І чым больш социялістычны чалавек будзе расці, будзе развіваць свае творчыя мажлівасці, тым больш ён будзе імкнуцца да філасофскіх абагульненняў. Асабліва гэта стасуецца да лірычнай паэзіі. Але мы павінны адначасова рэзка выступіць супроць злоўжывання тэрмінам філасофская паэзія. Часамі на зусім пусцяковы факт „напускаецца" мнімая філасафічнасць. Малады паэт прыносіць цэлую нізку вершаў пад кароткай назвай „Смерць". І вось гэты паэт пачынае разважаць пра бяссмертнасць яго душы, пра тое, што будзе з ім, калі ён памрэ. Верш наіўны, прымітыўны, не апраўданы. Вось такая напуск-

ная, не апраўданая філасофія, вось такая напышлівасць павінна выганяцца з нашай совецкай паэзіі.

Альбо выключны па яркасці прыклад, які прывёў Тіханаў на ўсесаюзнай паэтычнай нарадзе. Паэт прыехаў у калгас. Ён *спыніўся* ў калгаснай хаце. І цэлую ноч паэта, які астаўся ў хаце ўдваіх з катом, катуюць думкі. Ён кідаецца ў глыбокую філасофію, ці саграшыць кот у хаце, ці не. Такія праявы ў нашай паэзіі можна было-б смела назваць разбэшчанасцю формы. Багатыя здабыткі формы іншых паэтаў і сваіх уласных паэт ужывае на пусцяковыя праблемы і справы. Такім чынам адбываецца злоўжыванне паэтычнай формай.

За глыбока філасофскую паэзію, за паэзію вялікіх праблем мы не пераставалі змагацца і будзем надалей змагацца, але не за пустую філасофскасць, а за філасофію паэтычнага твору, якая вынікае з жыцця, з рэчаіснасці нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Перад нашай паэзіяй вялікія задачы. Наша паэзія ў значна большай ступені, чым драматургія і проза, адстае ад тэмпаў і ўзроўню нашай магутнай і гераічнай соцыялістычнай эпохі. Паэтам яшчэ трэба шмат папрацаваць над сваім светапоглядам, над ауладаннем адзіна рэволюцыйнай тэорыяй пролетарыята—тэорыяй Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна. Паэтам трэба раўняцца на вышыні нашага соцыялістычнага будаўніцтва, упарта змагаючыся за рэалізацыю лозунга Алексея Максімавіча Горкага пра якасць нашай літаратуры.

Беларуская совецкая паэзія пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, якая ўвесь час дбайна выхоўвала, накіроўвала і папраўляла нашых паэтаў, дасягне нябачнага яшчэ ў гісторыі росквіту.

---

ЯНКА ШАРАХОЎСКІ

## „ДУЖАСЦЬ" Б. МІКУЛІЧА

Раман „Дужасць" ахоплівае значны перыяд часу. Напісан раман на матэрыяле грамадзянскай вайны, аднаўленчага перыяда і будаўніцтва Магнітагорскага камбіната. Змена перыядаў даецца праз падзел на часткі.

Калі твор будуецца на матэрыяле, які ахоплівае значны адрэзак часу, то вынікае неабходнасць адшуквання характэрных дэталяў для перадачы гістарычнага каларыту.

У першай і трэцяй частках Мікулічу перадаць гістарычны каларыт ў значнай ступені ўдалося. Але аўтар не заўсёды скарыстоўвае мажлівасці, якія ў яго былі.

Тэма рамана—тэма соцыяльнай дужасці, разгорнутая на матэрыяле гісторыі сяброўства комуніста Краўчанкі і дробна-буржуазнага рамантыка Юткевіча. Соцыяльную маладосць і дужасць можа знайсці толькі той, хто аддана працуе на рэволюцыю, хто бярэ актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве,—такі вывад з рамана.

Невыпадкова большэвік Краўчанка адчуў сябе дужым, калі перад ім паўстала грандыёзная панарама індустрыяльнай начы, калі ён адчуў усёй сваёй істотай магутнасць тэхнікі. Тут знаходзіць выражэнне наш час з яго палкаю верою ў навуку, тэхніку, у сілы чалавека. Мы з поўным правам можам сказаць „Чалавек—гэта гучыць горда". Іменна такім павінен паўставаць герой нашай літаратуры, чалавек працы.

Адным з прынцыпаў рэалістычнага мастацтва з'яўляецца адзінства ідэі. Ідэя павінна пранізваць увесь твор, небачна прысутнічаць за кожным паказваемым фактам. Гэта дае цэльнасць твору. Але ідэйнасць ні ў якім разе не павінна пераходзіць ў грубую тэндэнцыйнасць. Пісьменнік расказвае праўду жыцця, прычым расказвае так, што самі падзеі наводзяць чытача на пэўную думку. Інакш кажучы, ідэя павінна выражацца праз вобраз.

Раман „Дужасць" гаворыць пра тое, што Мікуліч працуе над падвышэннем майстэрства ідэйнага выражэння. Ёсць значныя станоўчыя вынікі працы. Але самага галоўнага ў гэтым,—умельства дамагчыся ідэйнага адзінства твора, Мікуліч яшчэ не выпрацаваў. Матыў соцыяльнай дужасці, як асноўны матыў, як пункт гледжання, пад якім падаецца матэрыял, як яго філасофскае асэнсаванне, як ідэя твору, не ахоплівае, не пранізвае усю мастацкую тканіну рамана. Мы бачым у рамане сяброўства Краўчанкі і Юткевіча, бачым, як сяброўства пераходзіць у ненавісць. Мы бачым, як мяняюцца ў рамане палажэнні персанажаў (Юткевіч пераходзіць да белых і г. д.), але мы не бачым унутранага сэнсу ўсяго гэтага, мы не бачым што рухае персанажамі, ці то проста выпадак, ці то стыхійная ігра сіл прыроды, ці свядомасць, ці што-небудзь іншае.

Без выяўлення ўнутранага, скрытага за вонкавую абалонкаю, сэнса падзей, учынкаў, без раскрыцця істотных бакоў рэчаіснасці, без яе філасофскага асэнсавання нельга даць высока-мастацкіх твораў пра нашу эпоху. Але гэта пытанне не толькі літаратурнага майстэрства, а ў значнай ступені пытанне агульнай культурнасці пісьменніка. Для таго, каб глыбока паказаць жыццё, пісьменнік павінен падняцца да ўзроўню перадавых ідэй часу. Трэба, каб совецкі пісьменнік па агульнаму запасу ведаў, багаццяў культуры, па веданню жыцця, па глыбіні светапогляду, сапраўды стаяў вышэй за сваіх папярэднікаў, за лепшых найбольш культурных і таленавітых прадстаўнікоў дваранскай і буржуазнай літаратуры. У гэтым увесь сэнс праблемы авалодання культурнаю спадчынай.

Культурная спадчына нам патрэбна, не як мёртвы груз, не проста як сума ведаў, а як стымул да дзеяння, як сродак для стварэння новай вышэйшай культуры і літаратуры. Совецкі пісьменнік—гэта пісьменнік рэволюцыянер, а не архіварыус, які класіфікуе і калекцыяніруе помнікі культуры мінуўшчыны.

Разуменне сапраўднага сэнсу падзей, якія адбываюцца ў творы, іх трактоўка звычайна даецца або ад аўтара, або праз аднаго з персанажаў. У рамане „Дужасць" Мікуліч не бярэ на сябе ролі каментатара падзей. Ён іх проста расказвае. Элементы аўтарскай трактоўкі мы знаходзім у рамане ў вобразе мяцеліцы, якая з'яўляецца акампаніментам, музыкай для падзей часу грамадзянскай вайны. Успрынядце рэволюцыі, як мяцеліцы мае вялікую літаратурную традыцыю. Тут можна было-б успомніць імёны Блока, Пільняка і некаторых іншых. Пра гэта ужо шмат пісалася. Мабыць і яшчэ будзе пісацца, бо Мікуліч выяўляе дзіўную настойлівасць у скарыстанні гэтага вобраза.

Галоўныя персанажы рамана Краўчанка і Юткевіч—інтэлігенты. Звычайна інтэлігентаў у літаратуры паказвалі як людзей, у якіх ёсць разумовыя інтарэсы, як людзей, якія мысляць. Выходзячы з гэтага можна было чакаць, што разуменне падзей у „Дужасці" будзе дадзена праз аднаго з персанажаў. Але інтэлігенты Мікуліча—гэта сярэднія інтэлігенты, якія жывуць „не мудрствуя лукаво". Калі-б у Мікуліча ў вобразе іменна такіх інтэлігентаў была прынцыповая лінія, то з ім можна было б спрачацца. Але тут іншае. Проста аўтар узяў матэрыял, які яму па сіле.

Найбольш мастацка-пераканаўчы вобраз у рамане—вобраз большэвіка Краўчанкі. Культурны ўзровень Краўчанкі не дужа высокі. Ніякіх складаных праблем ён не вырашае. Інтэлігенцкай рэфлексіі ў яго таксама няма, што, вядома, добра. У вобразе Краўчанкі Мікуліч даў тып комуніста-практыка. На першы погляд—гэта простыя непрыкметныя людзі, людзі, якія нічым асаблівым не вылучаюцца. Але такія людзі надзвычай каштоўныя для соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта безыменныя героі, якія скромна, без асаблівага шуму робяць справу пабудовы соцыялізма.

У грамадзянскую вайну Краўчанка—камандзір атрада па харчразвёрстцы. На гэтай працы ён выяўляе сябе стойкім большэвіком. Тут яму давялося нават падпісаць смяротны прыгавор кулаку Савацейчыку. Гэта быў першы прыгавор, падпісаны Краўчанкам. Шкада, што Мікуліч не паказаў, як ён падпісваў прыгавор—што ён адчуваў, якія ў яго былі перажыванні. Гэта значна дапамагло-б мастацкаму выяўленню вобраза.

У другой частцы рамана Краўчанка з фронта барацьбы з басмацтвам адкамандыроўваецца ў Маскву. Тут ён сустракаецца з Тасяй і ў артысту Даленга пазнае свайго былога сябра, цяпер ворага, Ютке-

віча. Хвароба перашкодзіла яму своечасова выкрыць Юткевіча. Гэты апошні выгрывае час і ўцякае за мяжу. Краўчанка канчаткова сыходзіцца з Тасяй, у якой на руках сын Юткевіча. У асабістым жыцці Краўчанка паказаны некалькі сухавата.

У Тасі Краўчанка знайшоў не столькі жанчыну, колькі таварыша. Гэта добра. Добра, што Краўчанка ў першую чаргу глядзіць на ўнутраны змест чалавека, і гэта якраз гарманіруе з вобразам гэтага чалавека. Але ўсё-ж залішняе спартанства ў сямейным жыцці не абавязкова.

На будаўніцтве Магнітагорскага камбіната, куды неўзабаве камандыруюць Краўчанку, ён выяўляе сябе ўсё тым-жа адданым работнікам. Будаўніцтва Краўчанка успрымае як фронт, і тут характэрна дэталь, калі ён ушывае гузік у сваю старую баявую шынель. У Краўчанкі яўна выражаная класавая пільнасць і багаты вопыт у распазнаванні людзей. Ён адразу-ж недаверліва ставіцца да інжынера Берднікава, які потым аказваецца шкоднікам. У плане літаратурнага майстэрства гэты момант трэба было правесці больш асцярожна, бо па тым, як ставіцца да Берднікава Краўчанка, чытач ужо наперад ведае, што Берднікаў будзе шкоднікам. Працуючы сакратаром парткалектыва камбіната Краўчанка выяўляе сябе стойкім большэвіком і чулым таварышом. „Быць асцярожным, быць пільным, быць уважлівым і чулым трэба быць абавязкова"—такі дэвіз Краўчанкі, і ён заўсёды яго прытрымліваецца ў сваёй штодзённай працы.

Краўчанка—энтузіяст. Ён любоўна адносіцца да будаўніцтва. У сэнсе палітычнай пісьменнасці вобраз Краўчанкі раскрыты недастаткова. Ён гаворыць супроць уласнасці, але мы не бачым, наколькі глыбока ён разумее лінію партыі. Для цяперашняга Мікуліча вобраз Краўчанкі бясспрэчна з'яўляецца дасягненнем. Адпраўляючыся ад гэтага вобраза, ён зможа рушыцца далей, у плане набыцця новых мастацкіх сродкаў для стварэння вобраза станоўчага героя нашага часу, у плане падвышэння свайго літаратурнага майстэрства.

Менш удалы і менш зразумелы вобраз другога галоўнага персанажа рамана—Юткевіча. Нельга сказаць, каб вобраз Юткевіча быў непраўдзівы. У пэўным сэнсе гэта нават тыповы вобраз. Але гэта вобраз страшэнна дысгарманічны. І гэта дысгарманічнасць ідзе не ад жадання аўтара зрабіць яго такім, а ад неўдаласці некаторых мастацкіх матывіровак.

Юткевічу таксама, як і Краўчанку, даручаюць камандванне атрадам. Ён парушае загад, і гэта прыводзіць да разгрому яго атрада. Самога яго бяруць у палон белыя. Чаму Юткевіч стрэліў, не зусім ясна. Мікуліч не даў гэтаму учынку дастатковай псіхалагічнай матывіроўкі.

„Незразумелае нешта зрабілася са Станіславам. Твар наліўся чырванню, вочы ўпіліся ў коннікаў, падплывала нешта да горла, разлівалася па целе, падбухторвала—стрэліць, не скарыцца".

Мікуліч часта пры апісванні псіхалагічнага стану персанажаў гаворыць пра „незразумелае нешта". Гэта—дрэнна. Учынкі персанажаў тады для чытача таксама застаюцца незразумелымі. Каб аўтар проста сказаў, што ў Юткевіча загаварыў задор маладога камандзіра, нежаданне скарыцца старому Арцёму, дык усё было-б ясна. У Мікуліча пра гэта нібы сказана, але сказана надзвычай глуха і да чытача не даходзіць.

Учынак Юткевіча, бясспрэчна, трэба паставіць у сувязь з ранейшым выказваннем пра смерць. Барыс Краўчанка захварэў на тыфус. Юткевіч дзеліцца думкамі пра смерць з Тасяй.

„Не, Тасік, так паміраць я не хачу,—казаў ён. Што гэта за смерць?

Брр!.. Агідна робіцца ад аднае толькі думкі. Іншая справа, скажам, памерці на фронце. Разрыў шрапнелі—і тваё цела ў шматкі... хутка і без разваг. Так лепш...“

Пасля на допыце Юткевіч сам тлумачыў свой учынак тым, што хацеў быць героем. Прыгавор да расстрэла мала верагодны. Юткевіч быў маладым камандзірам, па сутнасці ён упяршыню прымаў удзел у аперацыі, і за яго памылку яго наўрад ці маглі прыгаварыць да расстрэлу, тым больш, што сур'ёзных страт крушняярскаму атраду яго памылка не прынесла.

На допыце Краўчанка кажа Юткевічу пра чужое нутро ў той час, калі раней нічога не было паказана такога, каб ён ведаў пра гэтае нутро. І ніякіх учынкаў, якія-б выяўлялі гэтае нутро за Юткевічам не лічылася. Тут няма мастацкай паслядоўнасці.

Неяк ненатуральна, залішне лёгка пераходзіць Юткевіч на бок белых. Праўда, матывіроўка тут моцная. Ён малады, і яму хацелася жыць. Ненатуральны тут не самы пераход, а адчуванні Юткевіча пасля пераходу. Ён неяк адразу адчувае сябе ў белых як у роднай стыхіі. З боку аўтара гэта нічым не тлумачыцца. От як паказваюцца адчуванні Юткевіча пасля спаткання з генералам Бяловым:

„Яны выходзяць на сонечную вуліцу. Бацька нешта бесперапынна гаворыць. Словы не даходзяць да Юткевічавай свядомасці, бо ён спрэс п'яны ад гэтай сустрэчы, ад веснавога гуду гарадское вуліцы, ад гарэзнага і буйнага сонца“.

Юткевіч ваяваў супроць Бялова на баку чырвоных, і гэта ён неяк раптоўна забывае, у яго няма ніякае апаскі, што яму за гэта штонебудзь будзе і проста п'яны ад сустрэчы з генералам. У жыцці так не бывае.

У далейшым Юткевіч прызнаецца Эльзе Райх, што ён ненавідзіць бацьку. Можа гэта трэба разумець так, што ён ненавідзіць і тое асяроддзе, у якім знаходзіцца бацька? З боку аўтара гэта не высветлена. Усё гэта і робіць вобраз Юткевіча дысгарманічным, неакрэсленым.

Юткевіч рамантычна ўспрыняў рэволюцыю. Само па сабе такое ўспрыйманне яшчэ не з'яўляецца дастатковай матывіроўкай пераходу Юткевіча на бок белых. Па раману не зусім ясна, чаму Юткевіч перайшоў на бок белых. Ці гэта здарылася выпадкова, таму што Юткевіч не выканаў загаду, ці тут прычыны больш глыбокія. Акрэслена аўтар на гэта пытанне не адказвае.

Распад мастацтва на захадзе, залежнасць яго ад каралёў грошай паказаны праўдзіва. Характэрна скарыстанне людзей мастацтва для рэкламы, у рамане—для рэкламы іголак „нашай сталёвай кампаніі“. Але асаблівай глыбіні у паказе працэса распада аўтар не выявіў. Са многімі фактамі, паказанымі ў рамане, мы былі знаёмы па газетах. Зусім лагічна і натуральна тое, чым скончыў Юткевіч. Лепшым ён скончыць не мог. Не мог таму, што ён аказаўся паміж двух лагераў. Ён цалкам не мог прыняць свет буржуазіі і не мог вярнуцца да пролетарыята. Ён выступіў з пратэстам перад буржуазнай аўдыторыяй, і гэта было яго канцом.

Але тут ёсць яшчэ адно пытанне. Для Юткевіча асабіста падзенне, тое, што ён пашоў танцаваць у вар'етэ, наўрад ці магло быць вельмі адчувальным. Не магло быць таму, што высокіх поглядаў на мастацтва ў яго не было.

Наогул у рамане пра мастацтва ён гаворыць надзвычай мала Можна нават сказаць, што ў яго няма прафесіянальных інтарэсаў

Магчыма, што роля ад'ютанта Бялова не была яго сапраўдным прызваннем. Як чалавек—гэта проста нейкая „недатыкомка шэрая".

Мала месца аддаецца ў рамане вобразу Тасі. Яна адразу спрыяльна паставілася да рэволюцыі, працавала павяткомаўскім сакратаром, пакінула бацькоў-абываталяў, якія дакучалі ёй і называлі комуністкай. У першай частцы рамана яе адносіны з Краўчанкам і Юткевічам не былі значнымі, не грунтаваліся на аднолькавым разуменні жыцця. У рамане не паказана, каб яны бачылі ў ёй каштоўнага па сваіх якасцях чалавека. Хутчэй ёй адведзена была роля дзяўчыны для ўхажвання. Таму тое, што ў дальнейшым Краўчанка ставіцца да яе сур'ёзна і сыходзіцца з ёю, некалькі нечакана. Праўда, аўтар хацеў гэта матывіраваць тым, што яна змянілася да лепшага. Яна гаворыць Краўчанку, што цяпер стала іншаю і што ў павяткомаўскі перыяд у яе галава была рамантыкай панабівана. Але паколькі працэс развіцця яе псіхікі не паказаны, то яе словы гучаць недастаткова пераканаўча. Што яна сапраўды змянілася, мы бачым з яе далейшага жыцця з Краўчанкам. Краўчанка знайшоў у ёй добрага таварыша, гэта была, так сказаць, ідэальная пара. Сямейных драм у іх не было. Цікавасць да грамадскіх спраў у яе таксама захавалася да канца. На камбінаце, напрыклад, яна ўдзельнічае у арганізацыі масоўкі.

Добра ўспрымаецца вобраз Тараса, вобраз тыповы для часу грамадзянскай вайны. Але ў літаратурным плане гэты вобраз навіной не вызначаецца. Такія вобразы сустракаліся ў творах іншых пісьменнікаў. Далматаў вельмі падобны на Тараса, і проста незразумела, навошта аўтару было ўводзіць новы вобраз. Далматаў—гэта той жа Тарас у новых абставінах.

Юткевіч, паехаўшы за мяжу не знайшоў у сабе дастаткова нізасці, каб да канца апошліцца і жыць пашляком. Ён загінуў. Эльга Райх, наадварот, за мяжою і знайшла сябе. У пагоні за грашыма яна акружыла сябе паклоннікамі уласнага бюсту, распрадавала направа і налева сваю прыгажосць і здольнасці. Яна не пасаромілася выступаць ў рэвю, „у якім праслаўляўся новы Месія нямецкага адраджэння, чалавек з чорным мінулым і чорнымі помысламі, што абвясціў вайну яўрэям і большэвікам". Далей некуды. Кола замкнута, і выйсця няма. Ці больш верна—ёсць, але гэта выйсце на сметнік, куды яе праз пэўны час выкінуць як непатрэбную анучу.

Вобраз шкодніка Берднікава не вызначаецца арыгінальнасцю. Вобразаў шкоднікаў, падобных Берднікаву, шмат было ў совецкай літаратуры. У Мікуліча вобраз ускладнены тым, што Берднікаў быў палкоўнік Маслоўскі. Тут надзвычай цікава адна дэталь. Палкоўнік Маслоўскі меў прывычку сцёбаць нагайкай па халяве. Мікуліч паказвае на гэту прывычку ў Берднікава ў той час, калі чытач яшчэ не ведае, што гэта Маслоўскі і тым самым робіць намёк на тое, хто ён такі. Умельства карыстацца такімі дэталямі сведчыць пра рост літаратурнага майстэрства Мікуліча.

Хочацца сказаць некалькі слоў пра найбольш спрэчныя мясціны рамана, пра якія не давялося сказаць у сувязі з аналізам вобразаў. Моладзь у першай частцы рамана паказана схематычна. У ва ўсіх комсамольцаў, якія ідуць на фронт, стандартна аднолькавы адчуванні і стандартна аднолькавы парадны настрой. Трэба было індывідуалізаваць перажыванні комсамольцаў. Тады-б уся сцэна была-б больш пераканаўчай.

На камбінаце моладзь паказана аднабакова. У ёй увесь час падкрэсліваецца фізічная сіла, здароўе. Якасці гэта не дрэнныя і іх трэба паказваць, але не трэба забывацца і пра іншае, пра культурныя

запатрабаванні моладзі, пра яе ідэйнае выхаванне. Фізкультурны тып моладзі не з'яўляецца нашым ідэалам, мы імкнемся стварыць такі тып чалавека, каб у яго былі гарманічна развіты і фізічныя і разумовыя здольнасці, каб ён быў не толькі моцным, здаровым, але і культурным. На камбінаце культурная праца зусім не паказана, не паказана вучоба ні ў плане падвышэння кваліфікацыі, ні ў плане самаадукацыі.

Крыху ненатуральна, калі кулак Савацейчык, стараста, адразу пачынае частаваць чырвоных гарэлкай і г. д. Чырвоныя прыязджаюць на хутары пасля белых і Савацейчык пэўна ведаў, як ставяцца чырвоныя да кулакоў. Калі-б у рамане было паказана, што ён як бы хоча пачастункам адкупіцца ад чырвоных і дамагчыся іх ласкі, то гэта была-б іншая справа. І гэта тым больш, што пасля чырвоныя яго расстрэльваюць.

Сюжэтна раман пабудаваны нядрэнна. Варта зазначыць, што традыцыйныя законы будовы рамана ў ім парушаны. Так пралог па сутнасці ахоплівае першую і другую частку. Трэцяя частка—гэта як-бы частка па-за раманам. Тэма сяброўства Юткевіча і Краўчанкі к трэцяй частцы аказваецца вычарпанай і ў трэцяй частцы дзея разгортваецца на зусім іншым матэрыяле. І усё-ж трэцяя частка не ўспрымаецца як штучна прышытая. Зместам, а часткова і персанажамі яна арганічна звязана з папярэднімі часткамі рамана.

У Мікуліча намячаецца пэўная стылевая манера. У стылі ён ідзе па лініі вучобы ў Пільняка, Федзіна. Стыль „Дужасці“ нельга назваць рэалістычным ў строгім сэнсе слова. А іменна добрая рэалістычная школа дала-б творчасці Мікуліча грунтоўнасць, сур'ёзнасць, глыбіню, чаго ёй у значнай ступені не стае. Вядома адной літаратурнай вучобы яшчэ мала, лепшая школа—гэта школа жыцця.

Пісьменніку трэба вучыцца яго разумець, бачыць у сакравеннай праўдзе, тады яго творчасць будзе найлепш служыць поступу грамадства наперад, да бяскласавага, соцыялістычнага грамадства.

Значна шкодзіць раману густ аўтара у дачыненні мовы, ці больш дакладна, смакаванне некаторых вобразаў. Залішне часта паўтараюцца эпітэты „шыкоўны“ („шыкоўныя люстраныя дзверы“ „шыкоўны гальштук“ і інш.). Тое-ж самае датычыць і эпітэтаў: чароўны, какетоўная. Людзі ў рамане чамусці ідуць у тэатр вар'явацца, мастацтва чамусці абавязкова павінна п'яніць... На гэтым нават пабудавана цэлая сцэна, да рэчы неправўдападобная, калі Юткевіч танцам ап'яняе казакаў і выратоўваецца. Усе гэтыя эпітэты і разуменне ўздзеяння мастацтва на гледача у тым сэнсе, што яно ап'яняе, пахнуць самым сапраўдным мяшчанствам і толькі перашкаджаюць мастацкаму росту аўтара „Дужасці“. Калі ў творах гаворыцца пра мастацтва, дык пра яго трэба гаварыць па сур'ёзнаму.

У цэлым раман паказвае, хаця і не асабліва значны, рост Мікуліча, як пісьменніка, рост яго літаратурнага майстэрства.

---

**АДКАЗНЫ РЭДАКТАР** *М. ЛЫНЬКОЎ.*

**РЭДКАЛЕГІЯ:** *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** *Менск, Савецкая, 68. Дом пісьменніка.*

ЦАНА 2 руб.